

*Аляксандр Іванаў. «З'яўленне Хрыста народу».*
*1837—1857 гг. Палатно, алей. 540х750 см.*
*Масква, Траццякоўская галерэя.*

Ксёндз Ян Сохань

# Уратуй мяне

У Богу ёсць толькі Бог.
*Св. Бэрнард*

Уратуй мяне, Божа,
адлучы ад зла,
каб мог я ўсміхацца,
перапрашаць, жыць.

Каб бег на кожны
рух таго, хто просіць
дапамогі, жаліцца, любіць.

Уратуй мяне ад гэтай
бязладнай мітусні,
якая змушае да кампрамісаў
і страху.

Выйдзі са мной у дарогу,
у самы далёкі край,
дзе шмат любові, шмат працы
і Ты, адзіны ў Богу Бог.

Уратуй мяне, каб цэлы свет
мог радавацца й маліцца.

*Пераклад з польскай мовы
Крыстыны Лялько.*



У нумары 1/2012
**НАША ВЕРА**

## Пасланне Святога Айца Бэнэдыкта XVI на XLV Сусветны дзень міру

# ВЫХАВАННЕ МОЛАДЗІ ДЛЯ СПРАВЯДЛІВАСЦІ І МІРУ

1. Пачатак новага года, якім Бог адорвае чалавецтва, падахвочвае мяне з вялікім даверам і любоўю скіраваць да ўсіх сардэчныя пажаданні, каб гэты час, які мы маем перад сабою, вызначаўся канкрэтнымі справамі справядлівасці і міру.

З якім настроем нам трэба глядзець на новы год? У псальме 130 [129] мы знаходзім вельмі прыгожы вобраз. Псальміст кажа, што веруючы чалавек чакае Пана «больш, чым варта світання» (в. 6); ён чакае Яго з непахіснаю надзеяй, таму што ведае: Пан прынясе святло, міласэрнасць, збаўленне. Гэтае чаканне нараджаецца з досведу выбранага народу, які ўсведамляе, што ён выхаваны Богам для таго, каб глядзець на свет у Ягонай праўдзе і не дазваляць сабе падаць духам перад абліччам нягодаў. Я заклікаю вас глядзець на 2012 год з такім настроем, поўным даверу. Гэта праўда, што ў год, які набліжаецца да свайго канца, узрасла фрустрацыя з-за крызісу, што абцяжарвае грамадства, свет працы і эканоміку, — крызісу, карані якога перадусім культурныя і антрапалагічныя. Здаецца, нібыта шчыльная заслона ахутала цемраю наш час і не дазваляе ўбачыць святло дня.

У гэтай цемры сэрца чалавека не перастае, аднак, чакаць світання, пра якое гаворыць псальміст. Гэтае чаканне асабліва жывое і відавочнае ў маладых людзей, і таму мае думкі звяртаюцца да іх, маючы на ўвазе той уклад, які яны могуць і павінны зрабіць у жыццё грамадства. Такім чынам, мне хацелася б прадставіць пасланне на сорак пяты Сусветны дзень міру ў перспектыве выхавання — «Выхаванне моладзі для справядлівасці і міру» — з упэўненасцю, што маладзевы запал і імкненне да ідэалу здольныя даць свету новую надзею.

Маё пасланне скіравана таксама да бацькоў, сем'яў, да ўсіх, каму даручана справа выхавання і адукацыі, а таксама да тых, хто нясе адказнасць за розныя сферы рэлігійнага, грамадскага, палітычнага, эканамічнага, культурнага жыцця і СМІ. Быць уважлівым да свету моладзі, умець прыслухоўвацца да маладых людзей і цаніць іх — гэта не толькі мэтазгодна, але з'яўляецца галоўным абавязкам усяго грамадства ў справе будаўніцтва справядлівай і мірнай будучыні. Гаворка ідзе пра тое, каб прышчэпліваць моладзі павагу да пазітыўнай вартасці жыцця, абуджаючы ў ёй жаданне прысвяціць сябе служэнню Дабру. Гэта заданне, якое патрабуе асабістага ўдзелу кожнага з нас.

Заклапочанасць, якую апошнім часам дэманструюць многія маладыя людзі ў розных рэгіёнах свету, выяўляе іх жаданне глядзець у будучыню з абгрунтаванай надзеяй. Сёння праблемы, звязаныя з многімі жыццёвымі аспектамі, напаўняюць моладзь трывогаю: жаданне атрымаць адукацыю, якая больш глыбока падрыхтуе да сустрэчы з рэальным жыццём; цяжкасці, звязаныя са стварэннем сям'і і знаходжаннем стабільнага месца працы; пошук магчымасці зрабіць дзейсны ўклад у свет палітыкі, культуры і эканомікі, каб збудаваць грамадства з больш чалавечным і салідарным абліччам. Важна, каб гэтыя «ферменты» і тое імкненне да ідэалу, якое ў іх закладзена, знаходзілі належную ўвагу ва ўсіх частках грамадства. Касцёл глядзіць на моладзь з надзеяй, давярае ёй і заахвочвае яе шукаць праўду, абараняць супольнае дабро, быць адкрытымі для свету і мець вочы, здольныя бачыць «новае» (Іс 42, 9; 48, 6)!

### Адказныя за выхаванне

2. Выхаванне — гэта самая захапляючая і самая цяжкая справа ў жыцці. Выхоўваць — значыць выводзіць чалавека за межы яго самога, каб увесці ў рэчаіснасць, каб прывесці яго да паўнаты жыцця, якая спрыяе развіццю ягонай асобы. Гэты працэс адбываецца дзякуючы сустрэчы дзвюх свабодаў: свабоды дарослага і свабоды маладога чалавека. Ён патрабуе адказнасці з боку вучня, які павінен быць адкрытым, дазваляючы весці сябе да пазнання рэчаіснасці, і адказнасці з боку выхавацеля, які павінен быць гатовы цалкам прынесці сябе ў дар. І таму перадусім неабходныя сапраўдныя сведкі, а не толькі распаўсюджвальнікі правілаў і інфармацыі; сведкі, якія здольныя бачыць далей, чым іншыя, бо іх жыццё ахоплівае большую і шырэйшую прастору. Сведка — гэта той, хто спачатку сам прай-

шоў тым шляхам, які прапануе іншым.

Мы жывём у свеце, дзе сям'я і нават само жыццё пастаянна знаходзяцца пад пагрозаю, а нярэдка распадаюцца і рассыпаюцца. Умовы працы, якія часта наўрад ці можна спалучаць з сямейнымі абавязкамі, клопат пра будучыню, шалёны рытм жыцця, міграцыя ў пошуках суразмерных сродкаў існавання, калі не ўвогуле выжывання, — усё гэта прыводзіць да таго, што цяжка забяспечыць дзецям адну з найкаштоўнейшых дабротаў: прысутнасць бацькоў — прысутнасць, якая дазваляе ствараць усё больш глыбокія адносіны супрацоўніцтва на жыццёвым шляху, каб была магчымасць перадаваць далей той вопыт і тую набытую з гадамі ўпэўненасць, якімі чалавек можа падзяліцца толькі тады, калі праводзіць час разам з іншым. Мне хацелася б сказаць бацькам, каб яны не адчайваліся! Прыкладам свайго жыцця яны павінны заахвочваць сваіх дзяцей перадусім спадзявацца на Бога — адзіную крыніцу сапраўднай справядлівасці і сапраўднага міру.

Хачу звярнуцца таксама да адказных за ўстановы, якія маюць выхаваўчыя заданні: няхай яны з пачуццём вялікай адказнасці сочаць за тым, каб ва ўсіх абставінах паважалася і цанілася годнасць кожнай асобы. Дапамагаючы прыняць і належным чынам выкарыстаць тыя дары, якія Пан Бог прызначае кожнаму чалавеку, няхай клапоцяцца пра тое, каб кожны малады чалавек мог адкрыць сваё асабістае пакліканне. Яны павінны гарантаваць сем'ям, што іх дзецям прапануецца такі шлях адукацыі, які не супярэчыць іх сумленню і іх рэлігійным прынцыпам.

Няхай кожны выхаваўчы асяродак стане месцам адкрытасці на трансцэндэнтнае і на іншага чалавека; месцам дыялогу, згуртаванасці і ўзаемнай увагі, у якім малады чалавек адчуе, што магчымасці яго асобы і багацце яго душы цэняцца іншымі, а таксама сам навучыцца цаніць людзей, якія знаходзяцца побач. Няхай моладзь прывучаецца ў іх зведваць радасць, што паходзіць са штодзённага практыкавання любові і спачування ў адносінах да бліжняга і з актыўнага ўдзелу ў будаванні больш чалавечнага і брацкага грамадства.

Звяртаюся таксама да палітычных лідараў, просячы іх аб канкрэтнай дапамозе сем'ям і выхаваўчым установам у карыстанні іх правам і ў той жа час абавязкам, якім з'яўляецца выхаванне. Ніколі не павінна адчувацца недахопу ў адпаведнай падтрымцы мацярынства і бацькоўства. Няхай палітыкі клапоцяцца пра тое, каб нікому не быў закрыты доступ да адукацыі і каб сем'і маглі свабодна выбіраць тую ўстанову адукацыі, якую яны лічаць найбольш адпаведнай з пункту гледжання дабра для іх дзяцей. Няхай прыкладаюць намаганні да таго, каб садзейнічаць з'яднанню тых сем'яў, якія падзеленыя з-за неабходнасці шукаць сродкі на сваё існаванне. Няхай прапануюць моладзі ясны вобраз палітыкі як праўдзівага служэння дзеля дабра ўсіх.

Акрамя таго, не магу не звярнуцца з заклікам да свету масмедыя, каб яны ўносілі свой уклад у выхаванне. У сучасным грамадстве сродкі масавай камунікацыі адыгрываюць асаблівую ролю: яны не толькі інфармуюць, але таксама фармуюць дух сваіх адрасатаў і таму могуць уносіць значны ўклад у выхаванне моладзі. Важна памятаць, што сувязь паміж выхаваннем і камунікацыяй надзвычай цесная: выхаванне адбываецца менавіта шляхам камунікацыі, якая пазітыўна або негатыўна ўплывае на фармаванне асобы.

І самі маладыя людзі павінны мець мужнасць перадусім жыць тым, чаго яны патрабуюць ад свайго акружэння. На іх ляжыць вялікая адказнасць: яны павінны мець сілы для таго, каб добра і з поўным усведамленнем сваёй адказнасці карыстацца ўласнай свабодай. Яны таксама адказныя за сваю адукацыю і фармацыю ў духу справядлівасці і міру!

### Выхоўваць для праўды і свабоды

3. Св. Аўгустын пытаўся: «*Quid enim fortius desiderat anima quam veritatem?*»[2]. Чаго ж чалавек прагне больш горача, чым праўды? Чалавечае аблічча грамадства ў значнай ступені залежыць ад укладу выхавання ў тое, каб гэтае хвалюючае пытанне заставалася жывым. Сапраўды, выхаванне датычыць агульнай фармацыі асобы, а таксама маральнага і духоўнага вымярэння чалавечага быцця з улікам канчатковай мэты чалавека і дабрабыту грамадства, членам якога ён з'яўляецца. А значыць, каб выхоўваць у духу праўды, трэба перадусім ведаць, чым ёсць чалавек, ведаць яго прыроду. Аўтар псальма, гледзячы на навакольную рэчаіснасць, разважае: «Калі я бачу Твае нябёсы, справу пальцаў Тваіх, месяц і зоркі, якія Ты ўмацаваў: то чым ёсць чалавек, што Ты пра яго памятаеш, і сын чалавечы, што Ты ўзгадваеш пра яго?» (Пс 8, 4–5). Гэта асноўнае пытанне, якое трэба задаць сабе: чым ёсць чалавек? Чалавек — гэта істота, якая мае ў сваім сэрцы прагненне бясконцасці, прагненне праўды, — праўды не частковай, але здольнай растлумачыць сэнс жыцця, таму што створаны ён паводле вобраза і падабенства Божага. Такім чынам, прызнанне з удзячнасцю таго, што жыццё з'яўляецца бясцэнным дарам, вядзе да адкрыцця ўласнай унутранай годнасці і недатыкальнасці кожнай асобы. Выхаванне ў першай сваёй фазе заключаецца ў навучанні таму, каб бачыць у чалавеку вобраз Ства-

рыцеля, а значыць, глыбока паважаць кожнага чалавека і дапамагаць іншым весці жыццё, адпаведнае гэтай найвышэйшай годнасці. Ніколі нельга забываць, што «сапраўднае развіццё чалавека датычыць усёй асобы ва ўсіх яе вымярэннях»[3], у тым ліку і трансцэндэнтным, і што не дазваляецца прыносіць людзей у ахвяру дзеля дасягнення нейкага асаблівага дабра — ні эканамічнага, ні грамадскага, ні асабістага, ні калектыўнага.

Толькі ў адносінах з Богам чалавек разумее таксама значэнне сваёй свабоды. І заданнем выхавання з'яўляецца фармаванне сапраўды свабодных людзей. Сапраўдная свабода заключаецца не ў адсутнасці абавязкаў ці ў панаванні самавольства, і не ў абсалютызацыі «я». Чалавек, які ўзводзіць сябе ў абсалют, які лічыць, што ён не залежыць ні ад чаго і ні ад каго, што ён можа рабіць усё, што толькі пажадае, у рэшце рэшт супярэчыць праўдзе сваёй істоты і губляе сваю свабоду. На самай справе, чалавек — гэта істота, якая жыве ў адносінах з іншымі, і перадусім — з Богам. Сапраўднай свабоды немагчыма дасягнуць, аддаляючыся ад Яго.

Свабода — гэта вельмі важная, але далікатная каштоўнасць; яна можа няправільна разумецца і выкарыстоўвацца. «Сёння асабліва небяспечнаю перашкодаю ў выхаваўчай працы з'яўляецца ўсюдыісны ў нашым грамадстве і ў культуры рэлятывізм, які нічога не прызнае канчатковым, для якога адзіным крытэрыем служыць уласнае „я" чалавека з яго капрызамі, і які, насуперак уяўнай свабодзе, становіцца для кожнага вязніцай, бо раздзяляе людзей і прыводзіць да таго, што кожны замыкаецца ва ўласным „я". А таму ў падобнай рэлятывісцкай перспектыве ўвогуле немагчыма сапраўднае выхаванне: на самай справе, без святла праўды кожны чалавек раней ці пазней убачыць, што ён асуджаны на тое, каб усумніцца і ў якасці свайго жыцця і адносінаў, з якіх яно складаецца, і ў дзейснасці сваіх высілкаў, скіраваных на тое, каб разам з іншымі нешта збудаваць»[4].

Такім чынам, каб карыстацца сваёю свабодаю, чалавек павінен пераадолець рэлятывісцкае бачанне свету і пазнаць праўду пра сябе самога, а таксама праўду пра дабро і зло. У глыбіні свайго сумлення чалавек адкрывае закон, які не сам ён устанавіў сабе, але якому ён павінен падпарадкоўвацца і голас якога заклікае яго любіць і здзяйсняць дабро, пазбягаць зла, а таксама да таго, каб браць на сябе адказнасць за здзейсненае дабро і ўчыненае зло[5]. Таму карыстанне свабодаю глыбока звязана з натуральным маральным законам, які мае ўніверсальны характар, выяўляе годнасць кожнага чалавека, стварае фундамент яго правоў і абавязкаў і, такім чынам, у канчатковым выніку — справядлівага і мірнага суіснавання людзей.

Сапраўды, галоўнае значэнне належнага выкарыстання свабоды заключаецца ў садзейнічанні справядлівасці і міру, якія патрабуюць пашаны да сябе самога і да іншага чалавека, нават калі яго паводзіны і лад жыцця далёкія ад нашых. З такой унутранай паставы нараджаецца тое, без чаго мір і справядлівасць застаюцца словамі, пазбаўленымі сэнсу: узаемны давер, здольнасць весці канструктыўны дыялог, магчымасць прабачэння, якое нам так часта хацелася б атрымліваць, але так цяжка дарыць іншым, узаемная любоў, спачуванне ў адносінах да найслабейшых, а таксама гатоўнасць да ахвяры.

**Выхоўваць для справядлівасці**

4. У нашым свеце, дзе значэнне асобы, яе годнасці і правоў, нягледзячы на дэкляраваныя намеры, знаходзіцца пад сур'ёзнай пагрозай з боку распаўсюджанай тэндэнцыі карыстацца выключна крытэрыямі карысці, прыбытку і валодання, вельмі важна не аддзяляць паняцце справядлівасці ад яе трансцэндэнтных каранёў. На самай справе, справядлівасць — гэта не звычайная людская дамоўленасць, бо вырашальным пры ўстанаўленні справядлівасці, з'яўляецца не пазітыўнае права [права, устаноўленае людзьмі. — *Заўв. пер.*], а глыбокае разуменне тоеснасці асобы. Менавіта цэласнае бачанне чалавека захоўвае ад падпарадкавання ўплыву дагаворнай канцэпцыі справядлівасці, дазваляе і для яе адкрыць далягляды салідарнасці і любові[6].

Нельга ігнараваць таго факту, што некаторыя плыні ў сучаснай культуры, якія падтрымліваюцца рацыяналістычнымі і індывідуалістычнымі прынцыпамі эканомікі, адарвалі канцэпцыю справядлівасці ад яе трансцэндэнтных каранёў, аддзяляючы справядлівасць ад любові і салідарнасці: «„Горад чалавека" будуецца дзякуючы не толькі суадняСенню з правамі і абавязкамі, але яшчэ больш і ў першую чаргу дзякуючы адносінам бескарыслівасці, міласэрнасці і еднасці. Любоў заўсёды паказвае ў чалавечых адносінах Божую любоў, надаючы тэалагальную і збаўчую каштоўнасць усялякім справам справядлівасці ў свеце»[7].

«Шчаслівыя галодныя і прагнучыя справядлівасці, бо яны будуць насычаны» (Мц 5, 6). Будуць насычаныя, таму што прагнуць мець праўдзівыя адносіны з Богам, з самімі сабою, са сваімі братамі і сёстрамі, з усім створаным светам.

**Выхоўваць для міру**

5. «Мір — гэта не проста адсутнасць вайны, і ён не абмяжоўваецца раўнавагаю сілы варожых бакоў. Мір не можа быць дасягнуты на зямлі без абароны асабістых дабротаў, без свабод-

нага абмену думкамі паміж людзьмі, без шанавання годнасці людзей і народаў, без трывалага імкнення да братэрства»[8]. Мір з'яўляецца плёнам справядлівасці і вынікам любові. Мір — гэта перадусім дар Божы. Мы, хрысціяне, верым, што Хрыстус ёсць нашым праўдзівым мірам — у Ім, праз крыж, Бог прымірыў з сабою свет і зруйнаваў бар'еры, што нас падзялялі (пар. Эф 2, 14–18); у Ім існуе адзіная, паядналая ў любові сям'я.

Аднак мір — гэта не толькі дар, які трэба прыняць, але таксама справа, якая патрабуе здзяйснення. Каб сапраўды быць міратворцамі, мы павінны навучыцца спачуванню, салідарнасці, супрацоўніцтву, братэрству, павінны быць актыўнымі ў супольнасці і абуджаць у сумленні чуйнасць да нацыянальных і міжнародных спраў, а таксама да таго, як важна шукаць адпаведных спосабаў падзелу дабротаў, садзейнічання іх узрастанню, супрацоўніцтва ў развіцці і ў вырашэнні канфліктаў. «Шчаслівыя міратворцы, бо яны будуць названыя сынамі Божымі», — гаворыць Езус у Казанні на гары (Мц 5, 9).

Мір для ўсіх нараджаецца са справядлівасці кожнага, і ніхто не можа ўхіліцца ад гэтага асноўнага абавязку — садзейнічаць справядлівасці паводле ўласнай кампетэнцыі і ў адпаведнасці з ускладзенымі на яго абавязкамі. Асабліва заклікаю маладых людзей, у якіх заўсёды ёсць жывое імкненне да ідэалаў, каб цярпліва і настойліва шукалі справядлівасці і міру, развівалі ў сабе любоў да справядлівага і праўдзівага таксама тады, калі дзеля гэтага можа спатрэбіцца прынесці ахвяры і плысці супраць цячэння.

**Узнімаць вочы да Бога**

6. Перад абліччам цяжкага выкліку, якім з'яўляецца патрабаванне хадзіць шляхамі справядлівасці і міру, мы можам адчуваць спакусу да таго, каб спытацца, як аўтар псальмаў: «Узнімаю вочы свае да вышыняў: адкуль прыйдзе мая дапамога?» (Пс 121 [120], 1).

Усім, і асабліва маладым людзям, хачу цвёрда сказаць: «Не ідэалогіі збаўляюць свет, а толькі зварот да жывога Бога, нашага Стварыцеля, гаранта нашай свабоды, гаранта ўсяго сапраўды добрага і праўдзівага, <...> радыкальны зварот да Бога, які з'яўляецца крытэрыем справядлівасці і адначасова вечнаю любоўю. А што магло б нас збавіць, калі не любоў?»[9]. Любоў радуецца разам з праўдаю, яна ёсць тою сілаю, што робіць здольным выступаць у абарону праўды, справядлівасці і міру, бо яна ўсё зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё церпіць (пар. 1 Кар 13, 1–13).

Дарагая моладзь, вы з'яўляецеся каштоўным дарам для грамадства. Не дазвольце, каб вас агарнула маркота перад абліччам цяжкасцяў, і не паддавайцеся фальшывым лозунгам, якія часта здаюцца самым лёгкім шляхам для пераадолення праблемаў. Не бойцеся прыкладаць намаганні і прыносіць ахвяры, выбіраць шляхі, якія патрабуюць вернасці і вытрымкі, пакоры і адданасці. Упэўнена жывіце сваёй маладосцю і глыбокім прагненнем шчасця, праўды, прыгажосці і сапраўднай любові, якія вы адчуваеце ў сабе! Жывіце інтэнсіўна на гэтым этапе жыцця, такім багатым і поўным энтузіязму.

Памятайце, што вы самі з'яўляецеся прыкладам і стымулам для дарослых, і тым мацнейшым, чым больш вы прыкладаеце намаганняў, каб пераадолець несправядлівасць і карупцыю, чым больш імкнецеся да лепшай будучыні і ўносіце ўклад у яе будаванне. Ясна ўсведамляйце свае магчымасці і ніколі не замыкайцеся ў сабе, а старайцеся працаваць дзеля больш светлай будучыні для ўсіх. Вы ніколі не застаецеся адны. Касцёл давярае вам, суправаджае вас, умацоўвае і прагне даць самае каштоўнае, што мае: магчымасць узнесці вочы да Бога, спаткаць Езуса Хрыста — Таго, Хто сам ёсць справядлівасцю і мірам.

Звяртаюся да ўсіх вас, жанчыны і мужчыны, якім не абыякавая справа міру! Мір з'яўляецца не дабром, якое ўжо дасягнута, а мэтаю, да якой усе мы павінны імкнуцца. Будзем жа глядзець у будучыню з вялікай надзеяй, падахвочваць адзін аднаго на нашым шляху, працаваць над тым, каб надаць нашаму свету чалавечае і брацкае аблічча; давайце адчуваць сябе аб'яднанымі ў адказнасці за сённяшняе і будучыя пакаленні моладзі, асабліва ў тым, каб выхоўваць яе міралюбівай і здольнай да міратворчых дзеянняў. З гэтымі думкамі скіроўваю да вас гэтыя разважанні і заклік: давайце з'яднаем нашы духоўныя, маральныя і матэрыяльныя сілы, каб «выхоўваць моладзь для справядлівасці і міру».

*Падрыхтавала Ірына Бурак.*

*Паводле http://www.vatican.va/holy_father/benedict_xvi/messages/peace/index_ge.htm.*

---

[1] Бэнэдыкт XVI. Прамова на аўдыенцыі для кіраўнікоў рэгіёна Лацыё, горада і правінцыі Рым (14 студзеня 2011 г.) // *L'Osservatore Romano*. — 15.01.2011. — С. 7.

[2] *In Iohannis Evangelium Tractatus*, 26, 5.

[3] Бэнэдыкт XVI. Энцыкліка *Caritas in veritate* (29 чэрвеня 2009 г), 11 // http://catholic.by/2/libr/docs/pope-docs/101322-caritasinveritate.html; пар. Павел II. Энцыкліка *Populorum progressio* (26 сакавіка 1967 г.), 14 // AAS 59 (1967), 264.

[4] Бэнэдыкт XVI. Прамова з нагоды адкрыцця кангрэсу Рымскай дыяцэзіі ў базыліцы св. Яна на Латэране (6 чэрвеня 2005 г.) // AAS 97 (2005), 816.

[5] Пар. Другі Ватыканскі Сабор. Канстытуцыя *Gaudium et spes*, 16 // http://catholic.by/2/libr/docs/docssection/101683.html#4.

[6] Пар. Бэнэдыкт XVI. Прамова ў Бундэстагу (Берлін, 22 верасня 2011 г.) // *L'Osservatore Romano*. — 24.09.2011. — С. 6–7.

[7] Бэнэдыкт XVI. Энцыкліка *Caritas in veritate*.

[8] Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 2304.

[9] Бэнэдыкт XVI. Моладзевае начное чуванне (Кёльн, 20 жніўня 2005 г.) // AAS 97 (2005), 885–886.

Бэнэдыкт XVI

# СВЯТЛО СВЕТУ: ПАПА, КАСЦЁЛ І ЗНАКІ ЧАСУ

## Размова з Петэрам Зэевальдам

*Фрагменты з кнігі*




ЧАС НАВЯРТАННЯ

*— На пачатку трэцяга тысячагоддзя народы зямлі перажываюць пералом такога маштабу, які немагчыма было дагэтуль уявіць, — эканамічны, экалагічны, грамадскі. Вучоныя лічаць, што наступнае дзесяцігоддзе стане часам, вырашальным для далейшага існавання планеты.*

*Ваша Святасць, Вы самі ў студзені 2010 года прамовілі перад дыпламатамі ў Рыме драматычныя словы: «Наша будучыня і лёс нашай планеты знаходзяцца ў небяспецы». Таксама ў іншым месцы Вы гаварылі пра тое, што, калі не ўдасца ў бліжэйшы час на шырокай аснове пачаць змены да лепшага, то вельмі хутка будзе нарастаць бездапаможнасць і ўступіць у сілу сцэнарый хаосу. У Фаціме Ваша казанне мела ўжо амаль апакаліптычнае гучанне: «Чалавеку ўдалося выклікаць кругаварот страху і смерці, якога ён ўжо не здольны перарваць».*

*Ці бачыце Вы ў знаках часу прыкметы нейкай вехі, якая зменіць свет?*

— Зразумела, існуюць знакі, якія могуць нас палохаць, якія нас непакояць. Але ёсць таксама іншыя знакі, на якія мы можам абапірацца і якія даюць нам надзею. Пра сцэнарый страху і небяспекі мы ўжо даволі шмат гаварылі. Хацелася б дадаць тут тое, ад чаго пасля візітацый біскупаў шчыміць маё сэрца.

Вельмі шмат біскупаў, перадусім з Лацінскай Амерыкі, гаварылі мне, што там, дзе знаходзяцца плантацыі і пралягаюць трасы гандлю наркотыкамі — а гэта вялікія часткі тых краінаў, — здаецца, нібыта нейкая злая пачвара паклала сваю лапу на краіну і нішчыць людзей. Я думаю, што гэты змей наркагандлю і наркатычнай залежнасці, што абвіў зямлю, з'яўляецца сілай, пра якую мы не заўсёды маем належнае ўяўленне. Яна нішчыць моладзь, яна нішчыць сем'і, яна вядзе да насілля і пагражае будучыні цэлых краінаў.

І гэта адна з тых агідных рэчаў, за якія нясе адказнасць Захад; ён патрабуе наркотыкаў і таму шукае краіны, якія павінны яму іх дастаўляць, што ўрэшце вядзе да іх вычарпання і знішчэння. Менавіта на Захадзе ўзнікла такая прагавітасць да шчасця, якая не можа заспакоіцца тым, што існуе, і таму ўцякае, калі так можна сказаць, у «рай сатаны», нішчачы наўкола людзей.

Да гэтага трэба дадаць і наступную праблему. Небяспеку, якую нясе для нашай моладзі секс-турызм, — кажуць біскупы, — мы не можам нават уявіць. Тут поўным ходам ідуць працэсы знішчэння, якія з'яўляюцца спараджэннем фанабэрыі, перанасычанасці і фальшывай свабоды заходняга свету і пераўзыходзяць ужо усялякую меру.

Відаць, што чалавек імкнецца да бязмежай радасці, яму хацелася б адчуваць асалоду ў найвышэйшай ступені, хацелася б мець гэта бясконца. Але там, дзе няма Бога, яму гэта не ўдасца, гэтага ніколі не будзе. Тут яму даводзіцца самому ствараць для сябе фальшывую бясконцасць.

Гэта знак часу, які менавіта для нас, хрысціянаў, павінен быць выклікам, што не церпіць

*Заканчэнне. Пачатак у 3 за 2011 г.*

адкладу. Мы павінны паказваць — таксама ўласным жыццём, — што бясконцасць, якой прагне чалавек, можа прыйсці толькі ад Бога; што Бог ёсць першай неабходнасцю, каб здолець працістаяць прыгнечанасці, уласцівай нашаму часу; што мы, так бы мовіць, павінны мабілізаваць усе сілы душы і дабра, каб праўдзівыя ўзоры прагненняў і паводзінаў выступалі супраць фальшывых і каб такім чынам мог быць разарваны і затрыманы кругаварот зла.

*— Бачачы канец рэсурсаў, канец старой эпохі, канец пэўнага ладу жыцця, мы зноў усведамляем элементарную праўду пра канцовасць рэчаў... а таксама пра канец жыцця ўвогуле. Многія людзі ў знаках гэтага часу бачаць ужо прыкмету апошніх часоў. Гэта значыць, што, магчыма, свет яшчэ не гіне, але ён ідзе ў нейкім новым кірунку. Хворае грамадства, у якім павялічваецца колькасць перадусім псіхічных праблемаў, тужыць і моліць аб аздараўленні і збаўленні.*

*Ці не змушае гэта задумацца над тым, што гэты новы кірунак, магчыма, звязаны з паўторным прыйсцем Хрыста?*

— Важна тое, што існуе, як Вы сказалі, патрэба аздараўлення, што чалавек так ці інакш зноў разумее, што такое збаўленне. Людзі ўсведамляюць, што быццё, у якім няма Бога, становіцца хворым, і што чалавек не зможа гэтак існаваць; што ён патрабуе адказу, якога сам сабе не можа даць. У гэтым сэнсе наш час з'яўляецца адвэнтавым[1] часам, які прапануе таксама шмат добрага.

Напрыклад, вялікія магчымасці камунікацыі, якія мы сёння маем, з аднаго боку, могуць прывесці да поўнага абязлічання. Тады чалавек яшчэ плавае ў камунікатыўным моры, але ўвогуле не сустракае ўжо асобаў. Але, з другога боку, камунікацыя можа стаць таксама шанцам. Напрыклад, праз тое, што мы заўважаем адзін аднаго, што сустракаемся, што дапамагаем адзін аднаму, што адкрываемся на іншых.

Таму мне здаецца важным бачыць не толькі негатыўнае. Мы павінны, што праўда, з усёй праніклівасцю яго заўважаць, але таксама павінны бачыць усе шанцы дабра, якія ёсць тут, а таксама надзеі і новыя магчымасці чалавецтва, каб урэшце абвяшчаць у гэтым свеце неабходнасць пераломy, які не можа адбыцца без унутранага навяртання.

*— Што гэта канкрэтна азначае?*

— Такое навяртанне азначае, што Бог будзе зноў пастаўлены на першае месца. Тады ўсё набудзе іншы сэнс. Гэта азначае таксама, што зноў трэба звяртацца да Божых словаў, усведамляючы іх рэальнасць, і дазваляць ім асвятляць наша жыццё. Мы павінны, так бы мовіць, нанава адважыцца на эксперымент з Богам, каб дазволіць Яму ўвайсці ў наша грамадства і дзейнічаць у ім.

*— Евангелле, як яно ўласна разумеецца, не змяшчае нейкага паслання, якое прыходзіла б з мінулага і на тым скончылася. Наадварот, прысутнасць і дынаміка Хрыстовага аб'яўлення заключаецца менавіта ў тым, што яно прыходзіць пэўным чынам з будучыні — і таму мае вырашальнае значэнне як для будучыні кожнага чалавека паасобку, так і для агульнай будучыні. «У другі раз [з'явіцца не для ачышчэння ад] грэху, — чытаем мы пра Хрыста ў Пасланні да Габрэяў, — а тым, хто чакае Яго дзеля збаўлення».*

*Ці не павінен Касцёл яшчэ выразней тлумачыць сёння, што, паводле Біблii, час, які перажывае наш свет, гэта не толькі час **пасля** Хрыста, але таксама час **да** Хрыста, час перад Яго прыйсцем?*

— На самай справе, гэтага жадаў Ян Павел II — растлумачваць, што мы чакаем, калі прыйдзе Хрыстус; што Той, Хто прыйшоў, яшчэ ў большай ступені з'яўляецца Тым, Хто прыйдзе, і з такога пункту гледжання мы жывём верай, скіраванай у будучыню. Для гэтага трэба, каб мы сапраўды маглі таксама падаць пасланне веры, зыходзячы з перспектывы прыйсця Хрыста.

Часта, калі гавораць пра прыйсце Хрыста, гэта робіцца з выкарыстаннем хоць і праўдзівых, але ў той жа час збітых формулаў. Яны больш не прамаўляюць у кантэксце нашага жыцця і часам бываюць ужо незразумелымі для нас. Або словы пра Таго, Хто прыйдзе, становяцца пустымі, цалкам пазбаўленымі сэнсу і фальсіфікаванымі пад нейкі ўсеагульны маральны топас[2].

Таму мы павінны спрабаваць гаварыць сапраўды пра сутнасць гэтай нашай веры, але гаварыць пра гэта па-новаму. Юрген Хабермас[3] лічыў, што важна, каб існавалі тэолагі, здольныя так растлумачыць утоены ў веры скарб, што ён стане ў секулярызаваным свеце словам для гэтага свету. Хабермас, магчыма, разумеў гэта інакш, не так, як мы, але ён меў рацыю ў тым, што гэты ўнутраны працэс тлумачэння вялікіх словаў моваю нашага часу — перадача іх сучаснымі вобразнымі выказваннямі і адпаведна сучаснаму спосабу мыслення — хоць і набірае разгон, але яшчэ не дасягнуў сапраўды шчаслівага завяршэння. Гэта можа ўдасца толькі тады, калі людзі будуць жыць вераю ў прыйсце Хрыста. Толькі тады яны змогуць яе выказаць. Выказванне, тлумачэнне на ўзроўні розуму мае сваёй перадумовай тлумачэнне на ўзроўні існавання. І тут патрэбны святыя, якія жывуць сапраўды па-хрысціянску цяпер і будуць жыць надалей; усё іх жыццё паказвае Хрыста, які прыходзіць; яно дае

магчымасць так растлумачыць Хрыста і Ягонае прыйсце, што Ён можа стаць прысутным і ў даляглядзе разумення, уласцівым секулярызаванаму свету. Гэта вялікае заданне, якое стаіць перад намі.

*— Гэты пералом, які адбываецца ў наш час, прынёс з сабою іншы лад жыцця і іншыя жыццёвыя філасофіі, але таксама іншае ўспрыманне Касцёла. Поспехі ў медыцынскіх даследаваннях нясуць у сабе велізарны выклік этыцы. Адказу патрабуе таксама новы ўніверсум — інтэрнэт. Ян XXIII заняўся пераменамі, што адбыліся пасля дзвюх сусветных войнаў, каб растлумачыць на Саборы «знакі часу» — як яны былі названыя ў Папскай буле Humanae salutis, выдадзенай з нагоды склікання Другога Ватыканскага Сабору 25 снежня 1961 года, — хоць і быў ён тады ўжо састарэлым і хворым.*

*Ці будзе Бэнэдыкт XVI яму наследаваць?*

— Так, Ян XXIII зрабіў вялікі і непаўторны жэст, даверыўшы паўсюднаму Сабору справу новага разумення слова веры сёння. Сабор у першую чаргу ўзяўся за гэтае вялікае заданне — нанава вызначыць місію Касцёла, яго адносіны да сучаснасці, а таксама сувязь, якая існуе паміж вераю і каштоўнасцямі сённяшняга свету, — і справіўся з ім. Але потым рэалізаваць тое, што было сказана, у жыцці і захаваць пры гэтым пераемнасць веры — гэта нашмат цяжэйшы працэс, чым сам Сабор. Тым больш, што інфармацыя пра Другі Ватыканскі Сабор прыйшла ў свет у інтэрпрэтацыі сродкаў мас-медыя, а не праз самі матэрыялы Сабору[4], якія наўрад ці чыталіся кім-небудзь.

Думаю, што цяпер, пасля таго як высветленыя асноўныя пытанні, нашым вялікім заданнем з'яўляецца нанава паказваць у першую чаргу першынство Бога. Сёння вельмі важна зноў бачыць, што Бог ёсць, што Ён звяртаецца да нас і нам адказвае. І што наадварот, калі Яго скасаваць, то ўсё іншае яшчэ можна зразумець, але тады чалавек страчвае сваю годнасць і сваю праўдзівую чалавечнасць, аказваецца знішчаным самае істотнае. Таму, думаю, сёння мы павінны паставіць новы акцэнт, вызначаючы пытанне пра Бога як прыярытэтнае.

*— Ваша Святасць, ці думаеце Вы, што Каталіцкі Касцёл на самай справе мог бы пазбегнуць Трэцяга Ватыканскага Сабору?*

— Усяго ў нас было больш за 20 сабораў, і, напэўна, адбудзецца калі-небудзь чарговы. У гэты момант я не бачу перадумоваў для яго склікання. Думаю, цяпер добрым інструментам з'яўляюцца сіноды біскупаў, дзе збіраюцца прадстаўнікі ўсяго епіскапату, які супольна шукае, так бы мовіць, пастаянна знаходзячыся ў руху, яднае ўвесь Касцёл і адначасова вядзе яго наперад. Пытанне, ці наступіць калі-небудзь зноў момант для склікання вялікага сабору, мы павінны пакінуць будучыні.

У гэты момант нам патрэбныя перадусім каталіцкія рухі, праз якія Касцёл ва ўсім свеце, чэрпаючы з сучаснага вопыту і ў той жа час з унутранага досведу веры і яе сілы, расстаўляе свайго роду «дарожныя знакі» і дзякуючы гэтаму зноў робіць галоўным пытанне аб прысутнасці Бога.

*— Ваша Святасць, як наступнік Пятра Вы ўвесь час нагадваеце пра вырашальны «план», дадзены свету. Не пра план А або пра які-небудзь план Б, але пра план Бога. «Бог не абыякавы да гісторыі чалавецтва», — абвяшчаеце Вы, бо, у рэшце рэшт, Хрыстус з'яўляецца «Панам усяго стварэння і ўсёй гісторыі».*

Місіяй Караля Вайтылы было перавесці Каталіцкі Касцёл праз парог трэцяга тысячагоддзя. У чым заключаецца місія Ёзэфа Ратцынгера?

— Я сказаў бы, што нельга занадта драбніць гісторыю. Гэта адзінае палатно, якое мы тчэм. Караль Вайтыла, можна сказаць, быў падараваны Богам Касцёлу ў вельмі акрэсленай крытычнай сітуацыі, калі, з аднаго боку, марксісцкае пакаленне — пакаленне 68-га года — падвяргала сумніву ўсё, што прапаноўваў і чым жыў Захад, і калі, з другога боку, распаўся рэальны сацыялізм. Зрабіць сярод гэтага ўзаемнага антаганізму прарыў да веры і паказаць яе як сродак і шлях, — гэта быў асаблівы гістарычны момант.

Не кожны пантыфікат павінен мець нейкую цалкам новую місію. Цяпер гаворка ідзе пра тое, каб весці [Касцёл] далей, усведамляючы драматызм нашага часу; трэба моцна трымацца Божага слова як таго, што мае вырашальнае значэнне, і ў той жа час надаваць хрысціянству тую простасць і глыбіню, без якіх яно не зможа рабіць свой уплыў на свет.

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

*Паводле: Benedikt XVI. Licht der Welt: Der Papst, die Kirche und die Zeichen der Zeit. Ein Gespräch mit Peter Seewald. — Verlag Herder, 2010.*

---

[1] Тэрмінам «адвэнт» у Вульгаце абазначаецца тое, што ў беларускім перакладзе гучыць як «прыйсце», а ў грэчаскім арыгінале як παρουσια (Мц 24, 3). — *Тут і далей заўв. пер.*

[2] Топас у традыцыйнай логіцы і класічнай рыторыцы — аргумент (сінонімы: «рытарычнае месца», «дыялектычнае месца»), агульназначнае сцвярджэнне або тэма («агульнае месца»).

[3] Юрген Хабермас (нар. 1929) — нямецкі філосаф і сацыёлаг; у цэнтры яго філасофскіх разважанняў знаходзіцца паняцце камунікатыўнага розуму.

[4] Дакументы Другога Ватыканскага Сабору выдадзены на беларускай мове ў 2008 г.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

## IV. ВЕДА ПРЫРОДНАЯ – ВЕДА ЯК ЛАСКА

Звычайна кажуць, што веда і вера, альбо розум і вера, гэта супярэчнасці. Аднак жа веду дае вера — яна і ёсць ведаю. Пры ўсёй сваёй слабасці і няпэўнасці яна адначасна — крыніца найглыбейшай веды. Вось жа ёсць два віды веды, прыродная (філасофская, навуковая) і надпрыродная (праз веру, якая ёсць ласкаю).

Часта гэтае пытанне спрошчваюць, сцвярджаючы, што дастаткова Евангелля! Хрыстус прыйшоў, даў нам найважнейшыя праўды, а таму навошта далей вучыцца, чытаць штосьці, апрача Святога Пісання, думаць, чэрпаць веды аднекуль яшчэ, калі мы маем у распараджэнні гэткую крыніцу ведаў? Больш за тое, часта кажуць, што філасофія і навука толькі заблытваюць розум, ускладняюць, уносяць сумненні, таму нашмат лепш замкнуць усе закуткі розуму на замок, слепа верыць і добра жыць. Часта спасылаюцца і на аўтарытэт св. Паўла, які выразна сказаў: «Хай не зводзіць вас філасофія» (пар. Клс 2, 8). Часам магло б з'явіцца жаданне сказаць: ды хопіць ужо філосафаў, яны нам непатрэбныя. І сапраўды, у гісторыі хрысціянскай думкі такое антыфіласофскае стаўленне ўзнікала неаднойчы. Гэткія тэндэнцыі мы акрэсліваем назваю «фідэізм» (ад слова *fides* — вера). Яны маюць на ўвазе тое, што вера павінна развівацца за кошт розуму альбо па меры свайго развіцця адсоўваць убок розум і яго правы. Крайняй формулай, пры дапамозе якой можна было б выказаць сутнасць фідэізму, было б выказванне, прыпісанае Тэртуліяну[1] , аўтару, які жыў на пераломе II і III стагоддзяў: *credo quia absurdum* — веру ў штосьці, бо яно абсурднае. У гэтым выслоўі выказана прынцыповая нязгода, супярэчнасць паміж тым, у што я слепа веру, і тым, што кажа мне розум. Былі такія часы ў гісторыі еўрапейскай думкі, калі фідэістычная арыентацыя нагэтулькі ўзмацнілася, што нават чытанне Бібліі лічылася непатрэбным. Не трэба ўвогуле чытаць — абвяшчаюць прыхільнікі фідэізму — не трэба вывучаць, бо ўсё гэта не патрэбна: трэба добра жыць, рабіць добрыя ўчынкі, а ўсё, апрача гэтага, уласна кажучы, — трата часу і скажэнне сапраўднага хрысціянскага жыцця.

Аднак справа нашмат больш складаная, чым нам падаецца. Перадусім — не ўсе з'яўляюцца хрысціянамі, не ўсе — вернікі; ёсць шмат вызнаўцаў рэлігіяў, адрозных ад хрысціянства, шмат людзей увогуле нерэлігійных.

Памятайма таксама, што сёння мы, людзі белай расы, калі казаць пра рэлігійныя перакананні, — у нашмат горшай сітуацыі, чым расы іншыя. Мы больш спаганеныя, нягледзячы на нашае хрысціянства. Уласна кажучы, дамінуючая рыса белай расы ў наш час — неапаганства. Узнікаюць таксама розныя цяжкасці і ў людзей веруючых. І таму «палітыка страуса», які хавае галаву ў пясок і не хоча бачыць праблемаў, у сваёй аснове, відаць, нядобрая. Развіццё веры насуперак інтэлекту, насуперак розуму гэтаксама памылковае, як і клопат пра надпрыроднае, пра надпрыроднасць праз пагарду да прыроды. Мы абавязаныя пастаянна рабіць выбар, выбіраць большае дабро за кошт меншага, але пры гэтым мы павінны не пагарджаць дабром ніжэйшым, а прызнаваць яго вартасць. Гэтак жа, калі я бачу вышэйшасць веры за разумовую веду, я не маю права пры гэтым недаацэньваць розуму, ганіць прыроджаную інтэлектуальную сферу.

Філасофія, як школа прыроднага сузірання, з'яўляецца істотным элементам поўнага развіцця чалавечай прыроды, а вера, якая прышчапляецца на чалавечай прыродзе, не развітай напоўніцу, заўсёды будзе крыху выкрыўленай, будзе развівацца, але негарманічна, няпоўна, не закараня-

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

ючыся цалкам у той глебе, на якую павінна абапірацца. Тут мы апынаемся перад асноўным пытаннем. Хацеў бы падкрэсліць яго важнасць, бо гэта сапраўды — галоўная справа для чалавечай культуры, ці чалавек без дапамогі Аб'яўлення, без дапамогі праўдаў веры, можа прыйсці да пазнання Бога і Божых справаў. Ці дзеля таго, каб пазнаць Бога, трэба прыняць Аб'яўленне, ці таксама мы можам без Аб'яўлення, незалежна ад яго, прыйсці да асноўных праўдаў? Менавіта гэтая праблема найбольш хвалявала св. Тамаша, калі ён зноў і зноў вяртаўся да пытання: што ёсць Бог?

Заўважма, што гэта тая справа, якая з'яўляецца адной з найважнейшых «стрэлак у вагах» сучаснай культуры. Гаворка ідзе пра тое, ці гэтыя праўды, якія неабходныя чалавеку для збаўлення, праўды прынцыповыя, самыя асноўныя, ці яны даступныя толькі праз Аб'яўленне, ці прынамсі да некаторых з іх можна таксама прыйсці і разумовым шляхам. Той жа св. Павел, які шмат у чым меў рацыю, кажучы: «Глядзіце, каб хто не звёў вас філасофіяй» (бо тут ён меў на ўвазе неаплатонаўскі гіперспірытуалізм, з аднаго боку, а з другога — матэрыялістычныя тэндэнцыі), у Лісце да Рымлянаў выразна сцвярджае, што праз прыроднае назіранне свету можна прыйсці да пазнання Бога (пар. Рым 1, 20).

Ды й св. Тамаш у сваёй «меншай» *«суме»*, у *Summa contra gentiles*, кажа, што абмяркоўвае ў ёй пытанні: *secundum quod ad cognitionem divinarum naturalis ratio per creaturas pervenire potest* (IV, 1) г. зн., што разглядае ўсе пытанні з таго гледзішча, ці *naturalis ratio*, альбо прыродны розум, наша прыродная пазнавальная здольнасць, не прасветленая вераю — *per creaturas*, праз сузіранне стварэнняў, праз назіранне за светам, праз сузіранне свету, праз кантэмпляцыю (гэта ўсё змяшчаецца ў адным выразе *per creaturas*) — можа прыйсці *ad cognitionem divinarum*, да пазнання Божых рэчаў, Боскіх справаў? Ці наш інтэлект абмежаваны толькі пазнаваннем з аднаго боку рэчаіснасці, нагэтулькі вузкай, як свет матэматыкі альбо фізікі, а з другога — справаў нагэтулькі выпадковых, як факты досведу, гістарычныя ці прыродныя, — а ўсё іншае належыць да Аб'яўлення? Ці таксама сам інтэлект, сам чалавек здольны прыйсці прынамсі з нейкага боку і ў нейкай ступені да гэтых асноўных рэчаў, да гэтага «ўсяго іншага». Св. Тамаш разглядае гэтае пытанне і кажа так: Бог аб'явіў гэтыя асноўныя праўды, а аб'явіў таму, што чалавеку цяжка дайсці да іх уласнымі сіламі, яму цяжка сцвердзіць з усёй пэўнасцю, што Бог ёсць, што Ён адзін, што Ён дух, асоба і г.д. Мы сутыкаемся тут з праблемамі выключна цяжкімі. Мы ведаем, што вельмі лёгка, калі ўжо ёсць нейкае паняцце пра Абсалют, упасці ў Яго неакрэсленасць, у шматбожжа, у неасабовасць, у недуховасць, як лёгка можна перайсці, напрыклад ад культу Бога да культу сонца, ведаем — а гісторыя нам усё гэта пацвярджае — як незаўважна можна саслізнуць да пантэістычнай канцэпцыі Бога, гэта значыць да атаясамлення Бога са светам.

Такім чынам, сярод праўдаў веры, сярод праўдаў, патрэбных для збаўлення, — кажа св. Тамаш як тэолаг, — ёсць такія, да якіх можна прыйсці ўласнымі прыроджанымі сіламі, і дадае: але добра, што апрача таго яны былі аб'яўленыя. І гэтыя праўды Тамаш акрэслівае лацінскім тэрмінам, які цяжка перакласці на польскую мову: *revelabilia* (ад *revelare — аб'яўляць*, бел. *аб'яўляльныя. — А. Ж.*). Гэта праўды, якія могуць (але не абавязкова) павінны быць аб'яўленымі. Апрача таго, — кажа св. Тамаш — сярод праўдаў веры, патрэбных для збаўлення, ёсць такія, да якіх нельга прыйсці без Аб'яўлення: Уцелаўленне, Найсвяцейшая Тройца і шэраг іншых. Гэта так званыя *revelata* (бел. *аб'яўленыя. — А. Ж.*) праўды, якія павінны быць аб'яўленыя, бо інакш прыйсці да іх немагчыма. Разрозненне паміж *revelabilia* і *revelata* — рэч важная. Вось жа, сярод праўдаў веры ёсць такія, якія не мусяць быць аб'яўленымі, але добра, што яны былі аб'яўленыя, і такія, якія мусяць быць аб'яўленымі, бо ў адваротным выпадку ніякім іншым чынам да іх нельга было б дайсці. І менавіта навуку, што займаецца тымі праўдамі веры, да якіх можа пры вялікім высілку, дысцыпліне і падрыхтоўцы дайсці чалавечы інтэлект уласнымі сіламі, св. Тамаш называе натуральнай альбо прыроднай тэалогіяй, якая ёсць чымсьці іншым, чым тэалогія, заснаваная на Аб'яўленні ці тэалогія надпрыродная. Другое важнае разрозненне датычыць тэалогіі натуральнай, ці прыроднай, і тэалогіі наднатуральнай, аб'яўленай, ці надпрыроднай. Першая грунтуецца на філасофскіх падставах, другая — на аб'яўленых праўдах.

Натуральная тэалогія, веда, датычная Божых справаў, якая грунтуецца на філасофскай, прыроджанай у чалавека рэфлексіі, з'яўляецца інтэгральнай, найважнейшаю часткаю галоўнай філасофскай дысцыпліны, якую мы здавён называем філасофіяй існавання. Прадмет гэтага раздзе-

лу філасофіі — тое, што ёсць, што існуе, усё роўна, ці гэта магнітафон, ці чалавек, ці планета зямля, кветка, ці атам. Калі штосьці існуе, то, паколькі яно існуе і ёсць чымсьці, яно будзе прадметам адпаведнай навукі: бо магнітафон будзе прадметам тэхнікі як магнітафон, зямля будзе прадметам астраноміі альбо геаграфіі як зямля, а чалавек можа быць прадметам антрапалогіі ці іншых навукаў, як напрыклад, медыцыны. Але, калі мы разглядаем кожны з названых прадметаў з таго гледзішча, ці ёсць ён чымсьці існуючым, чымсьці, што ёсць, то тады мы займаемся філасофіяй існавання, ці філасофіяй бытаў, гэта значыць той цудоўнай, цяжкай, спрэчнай навукаю, якою з'яўляецца метафізіка. Назва «метафізіка» з'явілася з прычынаў чыста бібліятэкарскіх і азначае тое, што выходзіць за межы фізічнай праблематыкі, ахопленай асобнымі навукамі (*meta* па-грэцку *«па-за»*). Натуральная тэалогія складае ядро, галоўную частку метафізікі. Таму сапраўднае метафізічнае мысленне ў аснове — тэалагічнае. Сапраўдны метафізік у нейкім сэнсе — тэолаг, бо, аналізуючы кожную рэч з таго гледзішча, што яна ёсць, што існуе, з неабходнасцю сягае да першапачатковай асновы гэтага існавання, ці да Бога.

Тут мы закранаем тое, што складае квінтэсэнцыю філасофскай думкі, і асабліва думкі св. Тамаша. Філасофія развілася гэтак, што ахоплівае цэлы шэраг дысцыплінаў, такіх як этыка, эстэтыка, філасофія чалавека і г.д. Іх коранем, крыніцаю, найважнейшым зыходным і канцовым пунктам ёсць філасофія існавання, ці метафізіка. У сувязі з гэтым паўстае праблема хрысціянскай філасофіі. Дакладней кажучы, няма філасофіі хрысціянскай, і гэта таму, што філасофія ёсць справаю пазаканфесійнаю і перадканфесійнаю. Тут няма ні веруючага ні няверуючага, ні хрысціяніна ні мусульманіна — ёсць чалавек, які філасафуе. Але з'яўляецца гістарычным фактам тое, што ёсць філасофія, якой займаюцца хрысціяне; тады філасофская рэфлексія робіцца хрысціянскаю філасофіяй. Гэта, аднак, «хрысціянскасць» іншага тыпу. Калі філасофія мае быць філасофіяй, то ў ёй не можа быць ніякіх перадпасылак, ніякіх перадумоваў, якія былі б праўдамі веры. Часта паслядоўнікам Тамаша даводзяць, што Тамаш грунтуе сваю філасофію на Аб'яўленні. Нічога падобнага: ніводная філасофская тэза св. Тамаша не вынікае з Аб'яўлення. Яна можа з'явіцца пад імпульсам праблематыкі, якая крыецца ў праўдах веры, але гэта зусім іншая справа. Напрыклад, філасофскае пытанне існавання мае сваю прычыну ў тэалагічных разважаннях на тэму Бога-Стварца; яно, можа, увогуле не з'явілася б, калі б не было матыву стварэння з нічога; матыву чыста рэлігійнага. Але гэта зусім не значыць, што ў філасофіі мы грунтуемся на перадумовах веры, ці на перадпасылках, узятых з Аб'яўлення.

Св. Тамаш да бясконцасці паўтарае, што *auctoritas* (аўтарытэт Аб'яўлення, Святога Пісання ці нейкага мудраца) ніколі не можа быць аргументам у філасофіі; толькі інтэлектуальныя, разумовыя падставы могуць брацца пад увагу. У цудоўным трактаце *De veritate* Тамаш ясна кажа *impossibile est quod de eodem sit fides et scientia* (*De verit*. q.l4 a.9) — немагчыма (трэба дадаць: адначасна) мець веду і веру адносна таго ж самага прадмету. Альбо мы ведаем, што А існуе, альбо, што А ёсць Б, альбо мы ў гэта верым; адно выключае другое. Ёсць моманты, калі чалавек з поўным перакананнем кажа: я ведаю, што Бог ёсць, але ёсць і іншыя моманты, калі ягоная інтэлектуальная пабудова пачынае хістацца і тады ён толькі верыць: *Credo in unum Deum*. Тая ж самая праўда выяўляецца адзін раз як праўда веры, другі раз як праўда веды; яна не можа адначасна быць прадметам веды і веры. З гэтым пытаннем звязаная праблема слабасці і дасканаласці пазнання. Вера — найслабейшае пазнанне, калі казаць пра яго надзейнасць; найслабейшае ў адносінах, напр., да пазнання матэматычнага. Матэматыка найбольш надзейная. Але адначасна, у іншым аспекце, самая надзейная вера, бо ў тую хвіліну, калі я прымаю веру, я прызнаю, што ў аснове палягае аўтарытэт Бога. Тады, пры ўсёй крохкасці пазнання, выяўляецца моц перададзенай праз веру праўды, якая аказваецца (і гэта дзівосны парадокс!) нашмат глыбейшай, хоць і падмацаванай інакш, чым праўда матэматычная. Калі хто хацеў бы прачытаць цудоўнае разважанне на тэму ўбоства і дасканаласці метафізікі, раю звярнуцца да аднаго з раздзелаў кнігі Марытэна *Grandeur et misére de la métaphysique*[2] («Веліч і ўбоства метафізікі»), кнігі, дагэтуль, на жаль, не перакладзенай. Св. Тамаш падкрэслівае, што ў практычным жыцці вера неабходная, што на свеце было б цёмна і сумна, калі б мы не мелі Аб'яўлення. Бо да метафізікі, да метафізічнай веды пра Бога даходзяць толькі вельмі нямногія.

Нават калі мы возьмем пад увагу пераднавуковае, агульнае, даступнае ўсім людзям філаса-

фаванне, то відавочна, што ў аснове ўсіх гэтых філасафуючых разважанняў заўсёды знаходзіцца нейкае ўсведамленне Абсалюту. Аднак, каб мець такую пэўнасць наконт існавання Бога, каб можна было сказаць: я ведаю, што Бог ёсць, неабходнае цалкам свядомае і абгрунтаванае метафізічнае пазнанне, якое вымагае як прастаты духа, гэтак і інтэлектуальнай сталасці. Да гэтага, кажа Тамаш, даходзяць толькі нямногія і праз доўгі час: *est a paucis et per longum tempus* (S.th. I q.l a.l c.[3]). Гэтыя праўды цяжкія; малады розум не здольны дайсці да іх, за выняткам матэматыкаў, якія ў маладым веку бываюць геніяльнымі. Але чаму з метафізікай справа выглядае інакш, чым з матэматыкай? Для метафізікі патрэбны вялікі досвед, недастаткова геніяльных камбінатарыйных здольнасцяў, неабходных для матэматыкі, патрэбны яшчэ доўгатрывалы досвед. Св. Тамаш кажа яшчэ больш: ёсць такія, што проста не здольныя да метафізічных разважанняў, да іх гэта даходзіць вельмі цяжка. Нарэшце, змаганне за існаванне часта нагэтулькі заглушае ўсё, што калі б не было Аб'яўлення, то людзі проста не знайшлі б патрэбнага *otium* — вольнага часу на рэфлексію, што неабходна для пазнання такога роду.

Тут мы прыходзім да яшчэ адной важнай рэчы: хрысціянства цалкам супрацьлеглае гнозе. Гноза і гностыкі (пра гэта яшчэ будзе гаворка) — гэта была і ёсць яшчэ да сённяшняга дня найбольш небяспечная хрысціянская ерась. Вялікі св. Ірэнэй, біскуп Ліёна (II ст.), змагаўся пераважна з гностыкамі. Адной з падставаў гнозы было перакананне, што людзі ад пачатку падзяляюцца на людзей цялесных і людзей духовых, пнеўматыкаў і саматыкаў (ад грэцкіх словаў *pneuma — дух*, *soma — цела*). Толькі пнеўматыкі здольныя пазнаваць найвышэйшыя рэчы, а рэшта, велізарная большасць, гэта звычайныя хлебаеды, спажыўцы, і ім не варта нават казаць пра такія рэчы. Хрысціянства ж заўсёды трымалася іншай пазіцыі, і св. Тамаш абвяшчае, што ўсе людзі маюць права на пазнанне найвялікшых метафізічных праўдаў; нельга ні ад каго хаваць гэтыя праўды, асабліва, калі гаворка ідзе пра праўды веры, якія таксама з'яўляюцца праўдамі метафізікі. І менавіта таму Аб'яўленне дадзенае ўсім, бо ўсе, нават самыя нікчэмныя, павінны мець доступ да гэтых найвышэйшых праўдаў. Такі прынцып заўсёды падкрэсліваўся мыслярамі, якія ішлі шляхам артадаксальнай хрысціянскай думкі.

Не трэба таксама забывацца на тое, што для сцвярджэння існавання Бога недастаткова прыродазнаўчых навукаў, нават найвыдатнейшых. Прыродазнаўчыя навукі павінны весці да сінтэзу, які, несумненна, адкрывае перспектыву найбольш глыбокіх рэлігійных справаў і тэалагічных праблемаў, але сапраўднай лініяй, сапраўдным шляхам, які вядзе да прыроднага пазнання Бога, ёсць выключна метафізіка. Толькі метафізіка, філасофія існавання, дазваляе нам належна ацаніць усё, што існуе, а ў гэтай сферы ўсялякая памылка мае фундаментальнае значэнне. У так званай *Філасофскай суме* св. Тамаш піша: *nam error circa creaturas redundat in falsam de Deo scientiam et hominum mentes a Deo abducit* — «памылка наконт стварэнняў выліваецца ў памылковую веду пра Бога і адварочвае розумы людзей ад Бога» (*Summa contra gentiles* II, 3,1). Гэта падаецца вельмі істотным, і не маюць рацыі людзі, якія сцвярджаюць, што філасофія не патрэбна. Яна дае такую веду пра стварэнні, якой не могуць забяспечыць прыродазнаўчыя навукі, і прыводзіць нас да адвечнай асновы ўсіх бытаў, да Бога.

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

---

[1] Квінт Сэптымій Флорэнс Тэртуліян (каля 155 — каля 220 г.) — раннехрысціянскі пісьменнік і тэолаг. Ад яго багатай творчай спадчыны захавалася 30 працаў у галіне дагматыкі і апалагетыкі. Каштоўным набыткам з'яўляюцца таксама фрагменты страчаных твораў іншых хрысціянскіх аўтараў, якія дайшлі да нас дзякуючы творчасці Тэртуліяна. — *А. Ж.*

[2] Maritain Jacques. *Distinguer pour unir ou les degrées du savoir.* Desclée de Brouwer. — Paris, 1946.

[3] У перакладзе на рускую мову з гэтаю працаю можна пазнаёміцца ў выданні: Маритен Жак. Избранное: Величие и нищета метафизики. — Москва, 2004.

[4] Скарот «с.», які часам будзе сустракацца пры спасылках на *Summa Theologiae*, азначае *corpus articuli (respondeo)*.

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

### КНІЖКА ЧАЦЬВЁРТАЯ

### АБ НАЙСЬВЯЦЕЙШЫМ САКРАМЭНЦЕ

Пабожны заклік да сьвятой Камуніі

**Разьдзел X**

*Не адступай лёгка ад намеру прыняцьця сьв. Камуніі*

**1.** Часта трэба табе прыступаць да крыніцы ласкі ды Божае міласэрнасьці, да крыніцы дабраты ды чыстаты, калі імкнешся выправіцца ад нахілаў сваіх грэшных і калі хочаш перамагчы розныя спакусы і запыны злога духа, ды калі хочаш быць больш агглядным і разважным.

Бо вораг ведае той плод і вялікі лек, які хаваецца ў сьв. Камуніі, і дзеля гэтага стараецца розным спосабам і здарэньнем, наколькі магчыма, спыніць ды адвярнуць ад яе верных і пабожных.

**2.** І дзеля гэтага некаторыя, калі падгатаўляюцца да сьв. Камуніі, спатыкаюць самыя злосныя спакусы ад духа злога.

Бо ж дух злосьці, як напісана ў Ёва, зьяўляецца сярод сыноў Божых, каб заўсёднаю хітрасьцю іх турбаваць або каб напалохаць іх ды расьцярушыць, бо хацеў бы ён паменшыць іхную жарлівасьць або скалытнуць веру, каб зусім пакінулі яны камунікавацца або каб нядбайна прыступалі да сьв. Камуніі.

Ня трэба, аднак, глядзець на ягоныя хітрасьці ды на ўраеньні, хоць бы яны былі няведама як агідныя і страшныя, але ўсю іх абрыдласьць на галаву кінуці трэба ягоную.

Прагані нягодніка гэнага з пагардаю ды абсьмяі яго, але ніколі ня кідай Камуніі сьвятое дзеля таго, што ён цябе турбуе ды нападае на цябе.

**3.** Часта так жа аддаляе ад сьв. Камуніі надта вялікая захопленасьць у пабожнасьці ды зусім безпатрэбная трывога [за споведзь мінуўшую].

Трымайся тутака радаў разумных людзей ды кінь усялякія трывогі і клапоты, бо яны толькі перапыняюць ласку Божую ды выварачваюць пабожнасьць.

Не адказвайся ад сьв. Камуніі дзеля нейкае несупакойнасьці ды невялікай турботы, а хутчэй ідзі да споведзі ды выбач усім з лёгкім сэрцам крыўды свае.

Калі ж ты некага пакрыўдзіў, прасі яго пакорна, каб выбачыў табе, а Бог хутка даруе.

**4.** Якая ж карысьць адцягваць доўга споведзь або адкладаць на будучыню сьв. Камунію?

Ачысьці сябе чым хутчэй, выплюнь з сябе борзда атруту, сьпяшайся прыняць лекі, а ўжо будзе лепш, чымся на калі там адкладаць.

Калі адкладаеш сёньня дзеля нейкае прычыны, заўтра, магчыма, зьявіцца яшчэ важнейшая: і гэтак праз доўгі час ня будзеш прымаць сьв. Камуніі ды штораз усё будзе табе цяжэй!

Дык кінь чым хутчэй цяперашнюю цяжкасьць сваю ды страсяні яе з сваіх плеч, бо ж зусім безкарысна даўжэй клапатаць і турбавацца ды дзеля штодзённых перапынкаў зракацца сьвятасьці Божае.

Надта нават шкодна шмат адкладаць Камунію, бо заўсёды прыводзіць гэта вялікую халоднасьць.

Няшчасьце вялікае, што, аднак, людзі неразумныя і тыя, што дрэнна жывуць, ахвотна адкладаюць споведзь ды хацелі б адсунуць далёка дзень Камуніі, а ўсё дзеля таго, што палохаюцца, каб больш не глядзець за сабою.

**5.** Ох, якая ж гэта малая любоў ды невялічкая пабожнасьць у людзей, якія гэтак ахвотна звальняюць сябе ад Камуніі!

А які шчасьлівы ды Богу мілы, хто гэтак жыве ды такое чыстасьці сьцеражэ дзеля свайго сумленьня, што кожны б дзень мог камунікавацца, калі б толькі пазволілі яму ды была б магчымасьць!

Калі хто, аднак, сьв. Камунію ня прымае дзеля пакорнасьці або дзеля нейкае важнае прычыны — трэба яго пахваліць за гэткую пашану.

Калі, аднак, няхайнасьць завалодае чалавекам, няхай самога сябе падганяе ды няхай робіць што толькі магчыма, а Бог паможа яму, гледзячы на добрую, шчырую волю, на якую Бог асабліва глядзіць.

**6.** Калі ж, аднак, сапраўдныя нейкія перапыны сустракаюцца або будзе ўсё ж такі шчырая ахвота ды пабожнае імкненьне камунікавацца — тады не

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2011 гг.*

прападзе дарма карысьць з сьв. Сакрамэнту.

Бо кожны пабожны можа кожны дзень, кожную хвіліну прыступіць да духовае Камуніі Хрыста з карысьцю і без ніякіх перапынаў.

Аднак кожны верны Хрысту ў пэўныя дні і ўстаноўлены час з вялікаю пашанаю ды любоўю няхай прымае Цела свайго Збаўцы, маючы на думцы больш хвалу ды чэсьць Божую, чымся ўласную пацеху.

Бо калі толькі таёмнасьць Учалавечаньня ды муку Хрыста пабожна разважае ды запальваецца сэрца ягонае любоўю, дык заўсёды і камунікуецца таёмна і корміцца нявідомаю страваю нябеснаю.

**7.** Калі хто падгатаўляецца ня інакш, як толькі ў вялікае сьвята, або калі гэтак трэба дзеля звычаю — найчасьцей дрэнна падгатовіцца.

Бласлаўлёны той, хто заўсёды ахвяроўваецца Богу, калі толькі адпраўляе Імшу ці камунікуецца.

Адпраўляючы Імшу сьв., не сьпяшы ды і надта не цягні, а трымайся таго добрага абычаю людзей, сярод якіх жывеш.

Не абцяжвай і ня муч ніколі людзей, а ідзі шляхам агульным паводле абычаю і загадаў старшых, ды хутчэй глядзі карысьці іншых, чымся ўласнае пабожнасьці або ўласнай прыемнасьці.

## Разьдзел XI
### *Надта патрэбна вернай душы Цела Хрыста ды Сьв. Пісьмо*

**1.** О найсалодшы Пане Езу! Якая ж радасьць ахоплівае душу пабожную, што банкетуе за Тваім сталом, на якім ніякае іншае стравы не падаецца, апроч Цябе аднаго наймілейшага, да якога яна імкнецца над усемі пажаданьнямі сэрца свайго!

О, як мне было б салодка ў прысутнасьці Тваёй сьлёзы любові ліці перад Табою ды абмываць імі з пабожнаю Магдаленаю ногі Твае!

Дзе ж у мяне гэткая пабожнасьць? Дзе гэткае багацьце вялікае сьлёзаў сьвятых?

Праўда, што ў прысутнасьці Тваёй ды сьвятых анёлаў Тваіх трэба было б, каб сэрца маё агнём зіхацела ды з радасьці плакала.

Бо ж маю Цябе сапраўды прысутнага ў Сакрамэнце, хаця і схаванага пад постацямі хлеба і віна.

**2.** Бо ж вочы мае ня стрывалі б, гледзячы на Цябе ў сапраўднай Божай яснасьці; ды на'т усенькі сьвет не патрапіў бы стрываць бляску хвалы Тваёй Велічы.

Дык вось, гледзячы на нядужасьць маю, хаваешся Ты ў гэным Сакрамэнце.

Сапраўды маю я Таго і чэсьць аддаю Таму, каго анёлы ў небе выхваляюць, але я дагэтуль толькі сілаю веры Яго бачу, яны ж бачаць Яго перад сабою бяз ніякіх засланак.

Трэба мне здаволіцца сьвятлом праўдзівае веры ды жыць паводле яе, пакуль не пакажацца дзень вечнага сьвятла ды не схаваюцца цені таёмнасьцяў.

*Калі ж зьявіцца дасканальнае* (1 Кар 13, 10), тады пакінем карыстацца Сакрамэнтамі, бо бласлаўлёным у хвале нябеснай сакрамэнтальных лекаў ня трэба.

Бо цешацца яны заўсёды прысутнасьцю Бога, гледзячы воблікам у воблік на славу Ягоную; а ў яснасьці пераінакшаныя ў яснасьць неабхопленае Боскасьці бачаць ды чуюць уцялесненае Божае слова, гэткае, як было яно напачатку ды якім будзе навекі.

**3.** Думка аб гэных цудоўнасьцях робіць тое, што ўсенька надта нудна мне, на'т і пацеха духовая, бо пакуль ня бачу Пана майго ў славе Ягонай выразна, усё здаецца мне нічогасьцю, што бачу ды чую на гэтым сьвеце.

Ты мне, Божа, сам сьведкаю, што ніщто ня здоляе мяне пацешыць, ніякае стварэньне супакоіць, апроч Цябе, мой Божа, якога імкнуся аглядаць я вечна.

Але ж немагчыма гэта, пакуль я ў гэтым сьмяротным жыцьці.

Дзеля гэтага трэба, каб быў я надта цярплівы ды каб падпарадкаваў самога сябе ў кожным сваім жаданьні Табе, Божа.

Бо ж і сьвятыя Твае, што цяперака цешацца ўжо з Табою ў Валадарстве Нябесным, пакуль жылі, чакалі з вераю ды цярплівасьцю вялікаю прыходу хвалы Тваёй. У што яны верылі — я веру; чаго яны чакалі — і я таго чакаю; куды яны трапілі — веру, што і я, карыстаючыся ласкаю Тваёю, калісь траплю.

А пакуль што вераю буду ісьці, гледзячы на прыклад сьвятых.

Маю яшчэ і кнігі сьвятыя, якія будуць для мяне пацехаю ды люстрам жыцьця; а апроч усяго гэтага ды над усім гэтым Найсьвяцейшае Цела Тваё будзе мне асаблівым лекам ды абаронаю.

**4.** Бо дзьве рэчы найнеабходнейшыя бачу ў гэтым жыцьці, безь якіх немагчымым яно было б.

Замкнёны ў вязьніцы цела майго, прызнаюся, што дзьве рэчы патрэбныя мне: страва і сьвятло.

І вось даў Ты мне нядужаму сьвятое Цела Тваё, каб пасілкавацца душы ды целу, і даў *за сьвяцільню нагам маім слова Твае* (Пс 118, 105).

Жыць добра бяз гэных дзвюх справаў ня здолею, бо слова Божае — сьвятло душы маёй, а Сакрамэнт Твой — хлеб жыцьця.

Можна б гэта назваць і сталамі двума, якія пастаўлены з двох бакоў скарбніцы сьвятога Касьцёла.

Адзін стол — гэта алтар сьвяты, на якім хлеб сьвяты ляжыць, гэта ёсьць — дарагое Цела Хрыста.

Другі стол — гэта закон Божы, у якім навука сьвятая, што вучыць веры сапраўднае ды ўводзіць бясьпечна аж за засланку, аж туды, дзе сьвятасьць над сьвятасьцямі.

Дзякую Табе, Пане Езу, сьвятло яснасьці вечнае, за навуку сьвятога стала, якую паказаў Ты нам праз

сваіх слугаў, прарокаў, апосталаў ды ўсіх іншых, якія гэную навуку ведалі.

**5.** Дзякую Табе, Тварэц ды Збаўца людзей, які, каб паказаць любоў сваю да ўсенькага сьвету, банкет нагатовіў вялікі, на якім ужо не баранчыка, што быў фігурай, а Тваё Найсьвяцейшае Цела ды Кроў даў, каб пасілкавацца, вяселячы ўсіх верных банкетам сьвятым і поячы келіхам збаўленьня, у якім знаходзяцца ўсенькія роскашы райскія, а ўчасьнікамі іх зьяўляюцца анёлы сьвятыя, толькі яны яшчэ вялікшую радасьць бачаць.

**6.** О які вялікі ды пахвальны ўрад духаўнікоў, якія маюць магчымасьць сьвятымі словамі Пана [ўсяе Велічы] кансэкраваць і бласлаўляць уласнымі вуснамі, трымаць у руках, прымаць дый іншым падаваць!

О якімі ж чыстымі трэба каб былі рукі тыя і той рот, якім сьвятым цела, а сэрца духоўніка трэба каб было нічым не зацярушанае, да якога гэтулькі разоў прыходзіць Той, што стварыў чыстату.

Няхай з вуснаў ягоных нічога ня выходзіць, апроч сьвятога, прыстойнага ды карыснага, бо ж ён гэтак часта прымае Найсьв. Сакрамэнт.

Вочы ягоныя, што заўсёды глядзяць на Хрыстова Цела, — няхай будуць шчырымі ды сарамлівымі.

Рукі чыстыя ды ў неба паднятыя, бо ж гэта яны заўсёды [дакранаюцца да] Стварыцеля неба і зямлі.

Асабліва ж аб духоўніках гаворыцца ў законе: *Будзьце сьвятымі, бо Я сьвяты, ваш Пан Бог* (Лев 19, 2).

**7.** Няхай памагае нам ласка Твая, усемагутны Божа, каб тыя, што прынялі сан на сябе духоўніцкі, дастойна ды пабожна служылі Табе з усенькаю чыстатою магчымаю ды добрым сумленьнем.

А калі ня здолеем гэтак ужо жыць, як нам трэба, дай нам, каб прынамсі дастойна плакалі над благацьцямі, якія часта гэтак робім, ды каб у духу пакорнасьці ды з добрымі пастановамі паправы на будучыню з большаю ахвотаю далей Табе служылі.

## Разьдзел XII

*Да сьв. Камуніі дужа старанна прыгатаўляцца трэба*

**1.** Я той — што чыстасьць люблю ды ўсенькую сьвятасьць даю.

Я сэрца чыстага шукаю, і там месца Майго адпачынку.

Прыгатуй Мне *вячэрнік вялікі, засланы, і буду есьці ў цябе Я Пасху з вучнямі Маімі* (Мк 14, 15–16). Калі хочаш, каб прыйшоў Я да цябе ды астаўся з табою, выкінь старую кісьлю ды ачысьці памешканьне сэрца твайго.

Прагані ўсенькі сьвет ды плойму грахоў: станься *быццам верабей сам адзін на страсе* (Пс 101, 8) ды думай аб грахох сваіх сярод гаркаценьняў душы тваёй.

Бо ж заўсёды, калі любіць нехта кагосьці, гонарыць зробіць яму самае лепшае месца ды найпрыгажэйшае, бо ў гэтым усім бачыцца любасьць таго, хто гасьця дарагога прымае.

**2.** Ведай, што падгатавацца сам па сабе, сваёю заслугаю, ніколі ня здолееш, калі б на'т цэлымі гадамі ты ўсё імкнуўся да гэтага ды аб чым іншым і думаць не хацеў бы.

Але толькі дзеля Мае дабраты ды ласкі магчыма прыступіцца табе да стала Майго, быццам жабраку, якога клікнулі на банкет багатыра і які ня мае ніякае іншае магчымасьці адудзячыцца яму, як толькі пакорна дзякуючы.

Рабі, што толькі здолееш, ды ўважна рабі, ня толькі дзеля абычаю ці з неабходнасьці, а са страхам, з пашанаю ды з міласьцяй прымай Цела наймілейшага Пана Бога твайго, які схацеў прысьці да цябе.

Я клікнуў цябе, Я загадаў, каб гэтак было, Я дапоўню, калі чаго ня хопіць табе: прыходзь ды прымі Мяне.

**3.** Калі даю табе ласку пабожнасьці — дзякуй Богу свайму ды ня думай, што дастойны ты ласкі гэнае, а што толькі Я зжаліўся над табою.

Калі ж ня маеш ласкі пабожнасьці, а наадварот — халоднасьць чуеш у сабе — маліся тады барджэй, плач ды прасі яшчэ больш і не спыняйся, пакуль хоць крышачку, хоць кропельку дастанеш гэнае збаўленнае ласкі.

Я табе неабходны, а цябе зусім не патрабую.

Гэты ж ня ты прыходзіш асьвяціць мяне, а Я, каб асьвяціць ды лепшым цябе зрабіць.

Ты прыходзіш, каб ад Мяне асьвяціцца ды злучыцца са Мною, каб дастаць новую ласку ды з новаю ахвотаю пачаць спраўляцца.

Не пакідай тады ж гэнае ласкі, а падгатаўляй з найвялікшаю зважнасьцю сэрца сваё, каб прыняць наймілейшага свайго.

**4.** Трэба, аднак, каб ня толькі перад Камуніяй распальваў ты ў сабе агонь пабожнае захопленасьці, але каб аднолькава стрываў ты ў ёй і прыняўшы ўжо Найсьв. Сакрамэнт. Ня меншая патрэбная пільнасьць астацца пабожным па Камуніі, як падгатаўляючыся да яе.

Бо чуйнасьць над сабой па Камуніі — самае лепшае падгатаўленьне, каб штораз вялікшаю ласкаю карыстацца.

Найбольш праз тое людзі робяцца нязДатнымі прымаць Найсьв. Сакрамэнт, што надта хутка і ахвотна кідаюцца да вонкавых радасьцяў.

Сьцеражыся гутарлівасьці, зачыніся сам у сабе ды весяліся з Бога свайго, бо маеш таго, каго ня здолее забраць у цябе на'т і ўсенькі сьвет.

Я той, катораму ўсяго сябе аддаць ты павінен, ды каб ужо не ў сабе, а ўва Мне жыў ты бяз ніякіх клопатаў.

*Працяг будзе.*

«Чарнобыльская П'ета», 1995 г., афорт Уладзіміра Вішнеўскага.



Айцец
Пётр Рудкоўскі ОР

# ВЫХОДЗЬМА СА СВАІХ МАГІЛАЎ!

«Вярніся да Мяне, бо Я адкупіў цябе», — кажа Бог свайму народу (пар. Іс 44, 22). Вяртанне прадугледжвае *навяртанне* — змену свайго сэрца і ментальнасці, ачышчэнне спагляду і вызваленне голасу для патрэбаў праўды.

Крыжовы шлях можа быць месцам вось такога вызвалення. Варта яго прайсці, плачучы не над Езусам, «а над сабой плачучы і над сынамі сваімі» (пар. Лк 23, 28). Прайсці гэты Шлях, прыгадаўшы сотні і тысячы беларускіх пакутнікаў — вядомых і невядомых, — чыя асабістая ахвяра да гэтага часу не выкарыстаная. Кс. Язэп Германовіч, кс. Адам Станкевіч, Ларыса Геніюш, бацюшка Мікалай Мядзведскі... Іх вельмі шмат! (На)вяртанне беларусаў немагчымае без сплаты доўгу сваім сучасьнікам-пакутнікам і без працягвання — у больш спрыяльных умовах — той місіі, якую яны выконвалі ў намнога менш спрыяльных умовах.

Пасля ачышчэння спагляду мы, хутчэй за ўсё, пабачым, што і сёння, *тут і цяпер*, зусім побач з намі, ёсць так многа людзей, якія нясуць беларускі крыж. Калі мы пабачым гэта, можа быць, здарыцца ў нас вызваленне голасу і мы станем *тут і цяпер* сведкамі праўды.

Але спачатку трэба ступіць на Крыжовы шлях.

*Прыпынак першы*

**Езус асуджаны на смерць**

«Зруйнуйце святыню гэтую, і Я за тры дні ўзвяду яе» (Ян 2, 19). «Мы чулі, як Ён казаў: "Я зруйную гэтую рукатворную святыню і за тры дні адбудую іншую, нерукатворную"» (Мк 14, 58). Маніпуляцыя словам. Невялічкае перайначанне словаў Езуса — і выйшла, што Езус замахваецца на самае, што ні ёсць святое ў Ізраэлі: Ерузалемскую святыню, за якую слаўныя Макабэі пралілі столькі крыві... Колькі ў нашым жыцці — сямейным, грамадскім, палітычным — такога тыпу маніпуляцый?

Адкуль бярэцца гэта вусцішнае абвінавачанне: Ён (Езус) — вораг святыні? Што ж, не так даўно Ён прыбыў у Ерузалем, «у святыню, і прагнаў усіх, хто гандляваў і купляў у святыні, а сталы мянялаў і лаўкі гандляроў галубамі папераварочваў. Ён сказаў ім: «Напісана: *"Дом Мой назавецца домам малітвы"*, а вы зрабілі з яго *пячору разбойнікаў*» (Мц 21, 12–13). Вось яна, сутнасць справы: Езус — «няпрошаны» абаронца святыні. Дык няхай атрымае за сваё: зробім з Яго ворага святыні. Такім чынам, перад юдэйскім начальствам Яго абвінавацілі ў антыюдаізме («хоча знішчыць

**Айцец Пётр РУДКОЎСКІ ОР** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі ордэн. Абараніў магістарскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. У 2010 г. прыняў святарскае пасвячэнне. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Аўтар кніг «Паўстаньне Беларусі» (Вільнюс, 2007), «Białoruska idea narodowa w XXI wieku» (Люблін, 2008) і шматлікіх артыкулаў.

Ерузалемскую святыню»), а перад Пілатам абвінавацілі ў антырымскай дзейнасці («сам сябе чыніць каралём Юдэі»).

Колькі адданых дзеячаў Беларусі было абвінавачана ў антыбеларускай дзейнасці?

*Прыпынак чацвёрты*

**Маці сустракае Сына на Крыжовым шляху**

«А праз Тваю душу пройдзе меч» (Лк 2, 35). Гэта нешта іншае і большае, чым фізічны боль. Меч прашывае не цела, не цялеснае сэрца, ён прабівае духоўныя тканкі і кранае звышадчувальнае, звышуразлівае месца, тое патаемнае месца ў мацярынскай душы, дзе сканцэнтравана ўсведамленне перададзенага жыцця.

Крыжовы шлях беларускага народа пазначаны мноствам такіх сустрэч. Сузіраючы спатканне Марыі з Езусам, варта ўявіць мноства сэрцаў маці-беларусак, прабітых падобным мячом.

*Прыпынак восьмы*

**Жанчыны плачуць над Езусам**

«Дочкі ерузалемскія, не плачце па Мне, а плачце па сабе і па дзецях вашых» (Лк 23, 28). Зварот «дочкі ерузалемскія» ўжо знаёмы. У Кнізе Плачу Ераміі словазлучэнне — праўда, у адзіночным ліку — «Дачка ерузалемская», або «Дачка сіёнская» выкарыстоўвацца для абазначэння знішчанай Юдэі. «Як цябе суцешыць? Параўнаць з чым? О, Дачка Ерузалема! З чым параўнаць жа цябе, каб суцешыць цябе? О дзеўна, о Дачка Сіёна! Бо знішчэнне тваё, як мора, вялікае. Хто ж цябе вылечыць?» (пар. Пл 2, 13).

Плачучыя жанчыны — «дочкі ерузалемскія» — увасабляюць тую ж знішчаную Юдэю, якую аплакваў прарок Ерамія. З іх улоння выходзяць дзеці, якія змалку напітваюцца атмасферай нянавісці і помсты. А тыя, што захоўваюць у сабе добры дух, становяцца аб'ектам цкавання і пераследу: «Ерузалем, Ерузалем, ты забіваеш прарокаў і камянуеш пасланых да цябе...» (Мц 23, 37).

«Ні адзін народ так не прыніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын», — пісала з горыччу Ларыса Геніюш. Так, ёсць над кім плакаць...

*Прыпынак адзінаццаты*

**Езус памірае на крыжы**

«Адзін з павешаных злачынцаў зневажаў Яго, кажучы: «Ці ты не Хрыстус? Уратуй сябе і нас!» Але другі папракнуў яго, кажучы: «Нават Бога ты не баішся, хоць маеш тую самую кару? Мы асуджаны справядліва, бо атрымліваем належнае за ўчынкі нашыя. Ён жа нічога дрэннага не зрабіў». І сказаў: «Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства». І сказаў яму Езус: «Сапраўды кажу табе: сёння будзеш са Мною ў раі» (Лк 23, 39–42). Што значыць апынуцца сярод «зэкаў»? Быць зачыненым у следчым ізалятары, пасаджаным у турму, высланым на прымусовыя работы — без віны? Гэта значыць — даць шанец рэальным злачынцам для навяртання.

*Прыпынак пятнаццаты*

**Змёртвыхпаўстанне**

«На месцы, дзе Ён быў укрыжаваны, быў сад, а ў садзе — новая магіла, у якую яшчэ нікога не клалі. Там з прычыны Прыгатавання Юдэйскага паклалі Езуса, бо магіла была блізка» (Ян 19, 41–42). Праз крыж, смерць, пахаванне ў магіле Езус апынаецца ў садзе... Сад — сімвалічнае месца. Менавіта ў садзе былі змешчаны першыя людзі — Адам і Ева, у садзе адбылося і першае грэхападзенне. У выніку грэхападзення адбылося «выгнанне з Эдэму», хоць пад гэтым «выгнаннем» трэба разумець не столькі *перамяшчэнне* з пункту А ў пункт Б, колькі *перамяненне* А ў Б. Праз грэх Эдэмскі сад ператвараецца ў «даліну слёзаў», зямля напітваецца грахамі і становіцца тэрыторыяй цярпення і смерці.

І вось, Езус — другі Адам — апынаецца ў садзе, дзе была «новая магіла, у якой яшчэ нікога не клалі». Новая магіла сімвалізуе новую, перамененую зямлю, якая неўзабаве станецца тэрыторыяй змёртвыхпаўстання.

Ці верым мы, што Беларусь, набрынялая крывёю і слязьмі столькіх нявінных ахвяраў, таксама стане — а мо лепш сказаць: *становіцца* — тэрыторыяй змёртвыхпаўстання?

* * *

«Вось Я адкрыю магілы вашыя і выведу вас, народ Мой, з магілаў вашых» (Эзх 37, 12). Гэта таксама дзеецца *тут* і *цяпер*. Кожны раз, калі мы перамагаем страх, гаворым праўду, выказваем салідарнасць з «церпячымі дзеля справядлівасці», лопаюцца магілы і народ пачынае ажываць і варушыцца. Курапаты або Хатынь ужо не маўчаць. Яны — хай сабе пакуль што ціха — прамаўляюць, клічуць, павучаюць і — нягледзячы на сваю «магільнасць» — уздымаюць дух. *Фальш губляе сваю сілу, калі яго паслядоўна і без страху называць пайменна.*

Настаў час выходзіць з магілаў страху, абыякавасці, нянавісці, роспачы. Наш Збаўца тут, разам з намі. Ён сышоў у *нашу* адхлань, каб вывесці да святла тых, хто гатовы прыняць гэта святло. Выходзьма са сваіх магілаў!

Аляксандр Іванаў. «З'яўленне Хрыста народу».
1837—1857 гг. Палатно, алей. 540x750 см.
Масква, Траццякоўская галерэя.



# Аляксандр Іванаў. З'яўленне Хрыста народу

Аляксандра Андрэевіча Іванава (1806—1858) часам называюць «мастаком адной карціны». Ён стварыў шэраг палотнаў, але сапраўды заняў выключнае месца ў рускім мастацтве (і ў хрысталагічнай тэме сусветнай культуры) дзякуючы сваёй карціне «З'яўленне Хрыста народу». Калі «Вайну і мір» Льва Талстога называюць раманам-эпапеяй, то гэтае вызначэнне, на наш погляд, таксама адэкватна адлюстроўвае веліч створанага Іванавым у жывапісе. Два гэтыя творы ёсць найвышэйшым дасягненнем рускай культуры.

Аляксандр Іванаў нарадзіўся ў Санкт-Пецярбурзе ў сям'і выдатнага жывапісца, акадэміка Акадэміі мастацтваў Андрэя Іванава. Ужо ў адзінаццацігадовым узросце ён пачаў навучанне ў Акадэміі мастацтваў у якасці «пабочнага навучэнца». Юнак выдатна засвоіў традыцыі акадэмічнай школы, спазнаў усе творчыя таямніцы класіцызму, атрымаў за свае карціны акадэмічныя ўзнагароды. Аднак у яго ранніх творах яшчэ зусім не раскрыўся магутны талент першаадкрывальніка і філосафа ў жывапісе. Для рускага мастака пачаткам творчай рэвалюцыі была сустрэча з Італіяй, куды ён быў накіраваны ў 1830 г. на сродкі Таварыства заахвочвання мастакоў. У светлую краіну мастацтва накіроўваліся тады тысячы творцаў з усяе Еўропы. Лічылася, што без Італіі, без яе краявідаў, фарбаў, без яе класікі нельга быць паўнавартасным мастаком. І вось жа цуд! Ужо ў 1833 г. мастак выканаў першыя эскізы для палатна, якое стала галоўным у яго жыцці.

Аляксандр Іванаў шмат падарожнічаў па Італіі, якая стала яму другой радзімай. Найбольш яго захаплялі рэнесансавыя мастакі венецыянскай школы, бліскучыя каларысты, а таксама творы Леанарда да Вінчы. На наш погляд, Рым быў сапраўды родным горадам для Іванава. Ён прыехаў сюды маладым чалавекам і фактычна пражыў тут усё сваё сталае жыццё. Калі ў наш час у розныя поры дня і года блукаеш па вуліцах і плошчах Вечнага горада, то абавязкова сустракаеш краявіды, знаёмыя паводле вытанчаных і трапяткіх акварэляў мастака: пініі на фоне Калізея, сонца залівае антычныя руіны... Але была не толькі радасць сустрэчы з прыўкрасным. Была тытанічная праца над вялікім палатном «З'яўленне ў свет Месіі» (гэтак мастак назваў сваю новую работу ў лісце ў Пецярбург ад 28 снежня 1835 года). Іванаў не шкадаваў сябе, жыў сваёй карцінай. З часам у яго ўзніклі сур'ёзныя праблемы са зрокам, ён вымушаны быў выязджаць у Вену на лячэнне. Іванаў стаў сведкам драматычных падзеяў Вясны народаў 1848 года, калі ў Рыме была абвешчана рэспубліка і адбыліся лютыя баі з французскімі войскамі. Безумоўна, мастак падчас народнай драмы хваляваўся не столькі за сябе, як за свой твор.

Аляксандр Іванаў вярнуўся ў Расію толькі ў 1858 годзе. Яго ўразіла задушлівая атмасфера дэспатычнага Пецярбурга. «Палова кланяюцца, палова ўва фрунт...» — паскардзіўся ён сябрам. Лепш было б яму не пакідаць горад, дзе лунала шчасце творчасці... У хуткім часе Аляксандр Іванаў памёр падчас эпідэміі халеры ў Пецярбурзе.

Праца над палатном з самага пачатку мела выразна праграмны характар. Мастак паслядоўна прадумаў будучую карціну, у ягоных лістах і паперах захавалася некалькі «тлумачэнняў» (як ён гэта называў), дзякуючы якім мы маем ключ для разумення твора. Вызваленне народа, адкрыццё новай ісціны, далучэнне да Хрыстовай праўды — вось ідэя вялікай карціны геніяльнага мастака. Інтэлектуальныя пошукі Аляксандра Іванава — гэта шлях мысляра дэмакратычных перакананняў, глыбока веруючага чалавека. Ён быў адным з перадавых людзей свайго часу, зблізіўся з Мікалаем Гогалем, які таксама жыў у Рыме,

паехаў у Лондан, каб сустрэцца і паразмаўляць з Аляксандрам Герцэнам, галоўным дысідэнтам тагачаснай Расіі.

«Карціна была наватарскай і значнай не толькі па ідэйным змесце, але па знойдзеных для яго ўвасаблення жывапісна-пластычных сродках. Іванаў хацеў стварыць манументальны твор, спалучыць лепшыя традыцыі класічнага мастацтва з апошнімі дасягненнямі рэалізму», — напісаў пра карціну пецярбургскі мастацтвазнаўца Аляксей Савінаў[1]. Той, хто хаця б раз убачыў твор Іванава ў зале Траццякоўкі, на ўсё жыццё запомніць гэтую сустрэчу. Уражваюць, безумоўна, маштабы — мастак стварыў цэлы свет на каласальным (для станковай карціны) палатне. У музейнай зале вакол карціны размешчаны цэлы шэраг эскізаў, выкананых Іванавым на падрыхтоўчых этапах працы: краявіды, партрэтныя выявы, фігурныя кампазіцыі. Многія з іх не толькі ёсць цікавым матэрыялам аб паступовым нараджэнні і крышталізацыі канчатковага варыянту, але і маюць вялікую эстэтычную самакаштоўнасць.

На беразе Ярдана Ян Хрысціцель звяртаецца з казаннем да народу. Некаторыя хрысціліся ў гэты дзень. Неафіты надзяваюць вопратку, каля левага краю кампазіцыі мы бачым хлопчыка і лядашчага старога, якія яшчэ не пакінулі раку. І вось Ян разварочваецца, узнімае левую руку з тонкім драўляным крыжам, а правай паказвае ў далячынь. Гучаць ягоныя словы: «Ідзе за мною Мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Яго сандалях. Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Духам Святым» (Мк 1, 7–8). Фігура Яна — магутны цэнтр кампазіцыі першага плану. Цела прарока накрытае белым плашчом і калматай скурай; у яго вачах гарыць агонь веры. Ян нагадвае тытанаў Мікеланджэла.

Зварот Яна выклікае жывую рэакцыю людзей, сярод якіх не застаецца раўнадушных. Будучыя апосталы (юны Ян і стары Андрэй), што за плячыма Яна Хрысціцеля, усхвалявана жэстыкулююць і ўглядаюцца ў далечыню. Ім дадзена адразу зразумець сэнс таго, што адбываецца. Людзі, якія збіліся ў групу (у сярэдзіне кампазіцыі), нібыта абудзіліся ад сну і таксама абярнуліся назад. Найбольш выразным тут ёсць патрэт раба, схіленага над шатамі, што ляжаць на зямлі. Яго грубы твар асвятліла ўсмешка радасці ад добрай весткі. У Хрысце і з Хрыстом яны ўсе цяпер роўныя.

Фігурная кампазіцыя ў правай частцы палатна працягваецца ўглыб — там сабраліся фарысеі і садукеі. Яны ўстрывожаныя словамі Яна Хрысціцеля, адзін з іх — у цёмнай вопратцы, — адвярнуўшыся плячыма, рэзкім жэстам рукі звяртае ўвагу старога фарысея на Месію. Непрыхаваная варожасць святошаў існуе ў кантрасце з радасцю далучаных да Боскай праўды. Завяршаюць гэтую групу фігуры некалькіх разгубленых людзей, сярод якіх выразна чытаецца постаць у карычневым плашчы — партрэтная выява Мікалая Гогаля, рэлігійныя шуканні якога ўразілі мастака. І замыкаюць усю кампазіцыю фігуры рымскіх легіянераў, акупантаў Палестыны, носьбітаў, здавалася б, непераможнай імперскай моцы.

А на фоне даліны і далёкіх горных храбтоў ідзе да людзей Збаўца. Самотная фігура не мае німба, ніякім чынам не падкрэслена традыцыйнымі мастацкімі спосабамі. Але ўсё ў карціне факусіруецца на Ім. Гэта і ёсць цэнтр сусвету. Карціна напаўняецца веліччу евангельскай падзеі, якая змяніла лёс чалавецтва.

У сваёй галоўнай карціне Аляксандр Іванаў пераўзышоў усё, створанае ім раней. Папярэднія работы — гэта ўзоры прафесійнага жывапіснага майстэрства, гладкай акадэмічнай формы, умоўнага каларыту і сцэнічных эфектаў святла. У «З'яўленні Хрыста народу» масы лакальных колераў спалучыліся з жывым, яркім святлом, якое мастак мог убачыць толькі ў Італіі. Трапяткая паверхня вады, свежасць лістоты, аскетычнасць скальнай пароды — усё гэта дэманструе адкрыцці выдатнага і чулага каларыста. З эцюдаў Панцийскіх балотаў, выкананых пад Рымам, нарадзіўся пейзажны фон твора — вытанчаная, знітаваная святлом і празрыстай дымкай карціна Святой Зямлі.

Прывезенае мастаком у Пецярбург і выстаўленае ў Акадэміі, палатно выклікала амаль адзінадушную адмоўную рэакцыю публікі. Імперыя «самадзяржаўя, праваслаўя і народнасці» не прыняла геніяльны твор, прысвечаны Хрысту і народу. Не трэба здзіўляцца, бо той жа афіцыёз абвясціў анафему Льву Талстому. Але гісторыя ўсё расставіла на свае месцы — сапраўднае мастацтва засталося ў вечнасці.

*Валеры Буйвал*

[1] История русского искусства. Под ред. В.И. Плотникова. — Масква, — 1980. С. 97.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Ксёндз Юры Барок нарадзіўся 5 лістапада 1972 г. у Мёрах, на Віцебшчыне. Святарскія пасвячэнні атрымаў з рук кардынала Казіміра Свёнтка ў катэдральным касцёле Мінска ў 1997 годзе.

Працаваў вікарыем у Мінску (Чырвоны касцёл), Бабруйску і пробашчам парафіі ў Шклове. З 2000 па 2006 год ажыццяўляў святарскае служэнне ў Чэхіі, Італіі, Зімбабвэ, Індыі. Працуючы ў офісе міжнароднай школы кэрыгматычнай евангелізацыі ў Рыме, удзельнічаў у евангелізацыйных праграмах гэтых краінаў, а таксама Нямеччыны, Ірландыі і Бельгіі.

З 2008 па 2010 год быў вікарыем парафіі ў Глыбокім, займаючыся рэалізацыяй ініцыятывы пілігрымак па святых і гістарычных месцах Еўропы і Святой Зямлі для беларусаў. Служыў у Ізраілі для католікаў іўрытамоўнага вікарыяту.

Цяпер працуе вікарыем парафіі святога Язафата Кунцэвіча ў Расонах. Рэалізатар праграмы Piligrymka. by



# Што ў падмурку?

*З ксяндзом Юрыем Барком гутарыць пісьменніца Ірына Жарнасек*

*— Пачнем з таго, ксёндз Юры, што ідэя гэтай размовы з'явілася ў мяне пасля аднаго Вашага казання ў нашай парафіі, у якім Вы гаварылі пра падмурак хрысціянскай веры. Мне тыя думкі, як кажуць, ляглі на сэрца, і я захацела пагутарыць для чытачоў «Нашай веры» пра тое ж самае — пра падмурак хрысціянскай веры.*

*Зразумела, што калі будаўнік не зробіць напачатку моцнага, надзейнага падмурку, то дом, які ён будуе, раней ці пазней можа рухнуць. Чалавек, які ступіў на шлях веры і пачаў рабіць упэўненыя альбо не вельмі крокі на гэтым шляху, вядома, не хацеў бы апынуцца ў ролі такога нягеглага будаўніка. Дык якім жа павінен быць падмурак нашай веры, каб дом веры выстаяў?*

— Падмуркам веры мусяць быць нашы ўласныя пошукі праўды, свабоды, Бога. Часта на пэўным этапе жыцця нам прывіваюць гэтыя жаданні пошукаў, але пазней яны павінны стацца нашымі. Яны павінны ўжыцца ў нас. Гэтыя жаданні пошукаў не могуць заставацца воляй бацькоў, парадамі настаўнікаў ці сяброў, заклікам асяроддзя. Яны павінны стаць нашымі. Гэта — па-першае.

Па-другое, прынамсі для мяне падмуркам веры ёсць пошук, само пытанне, якое мучае, штурхае наперад, не дазваляе супакоіцца. Пытанні нараджаюцца ў нас самім жыццём, сусветам. Бог праз нашыя пытанні спрабуе завязаць з намі дыялог, таму пытанні, што паўстаюць у нас, цікавыя, складаныя, глыбокія. Аднак было б вялікай памылкай добрае і глыбокае пытанне замяніць павярхоўным адказам. Лепш, згадзіцеся, жыць з добрым пытаннем, чым пазней з кепскім адказам. На жаль, людзі часта баяцца жыць з пытаннямі, бо зазвычай гэта прымаецца за слабасць і недасканаласць, за няздольнасць будаваць сваё жыццё. Таму так часта мы здраджваем свайму пытанню і хапаемся за адказ. Аднак Хрыстус кажа нам, што той, хто шукае, абавязкова знаходзіць. На ўсё свой час. Трэба мець цярплівасць. На пэўныя нашыя пытанні мы знойдзем адказ толькі тады, калі станем перад Богам тварам у твар і Ён убачыць той цэлы мех пытанняў, з якім мы прыйдзем да Яго. Часам нават мудрыя, шаноўныя людзі, якіх мы ведаем, розныя ўстановы, у тым ліку нават і Касцёл, не ў стане задаволіць нашы няпростыя пытанні тут, на зямлі. Аднак той, хто шукае па-сапраўднаму і не спяшаецца абмяняць пытанні на павярхоўныя чалавечыя адказы, знаходзіць Валадарства Нябеснае. Карацей, падмуркам веры мусіць быць пастаўленае пытанне. Ад чалавека — пытанне. Ад Бога — адказ. Гэта адвечная формула веры.

*— З мехам пытанняў — у вечнасць, да Пана Бога? Нас у дзяцінстве вучылі сапраўды трохі інакш: што мы павінны прыйсці да Яго, самае найменшае, з мехам добрых учынкаў. Але, думаю, Ваш мех не пярэчыць таму, другому. Колькі ж іх у нас тады будзе? Ці толькі два? Хапіла б рук...*

*А ў сувязі з тым, што Вы сказалі, прыгадаліся словы моладзевай песенькі:*

*Прачытай у маім сэрцы,*
*Пане,*
*На ўсе пытанні*
*дай мне адказ, мой Бог,*
*Бо з усіх дарог Твая адна —*
*мая...*

*Ды ў жыцці сапраўды неяк не выходзіць атрымаць адказ на ўсе пытанні. І калі ведаеш, што яшчэ да таго, як пытанне з'явіцца на тваіх вуснах, у Яго ўжо ёсць адказ, але Ён не спяшаецца яго табе даць, то, прызнацца, робіцца вусцішна: адчуваеш сваю мізэрнасць, слабасць, прамінальнасць. І настрой тады, як той, пра які напісана ў псальміста: «...<дні нашы> хутка мінаюць, мы ж адлятаем». Адлятаем, так і не атрымаўшы адказаў.*

*Як, ксёндз Юры, не надламацца, не загубіцца, вытрываць на шляху веры з гэтымі пытаннямі без адказаў?*

— Можам, на жаль, і надламацца. Толькі памятайма, што Бог надламанай трысціны не пераломіць і тлеючы кнот не загасіць. Бог скрушаным і надламаным сэрцам не пагарджае, а тым, хто прагне і шукае праўды, належыць Валадарства Божае. Слова Божае часта суцяшае і падбадзёрвае нас у гэтым плане. Калі ж мы знаходзімся на шляху пошуку, то не думаю, што згубім веру. Губляем, хутчэй, нашыя ранейшыя ўяўленні пра пэўныя рэчы, магчыма, губляем залатыя рамкі, у якія змяшчалі Бога і тым самым Яго абмяжоўвалі да ўласных уяўленняў пра міласэрнасць, дабрыню і мудрасць. Але Бог — гэта заўсёды глыбей, шырэй, багацей. Ці не Хрыстус, волат веры, кажа, што дастаткова мець веру з гарчычнае зерне? Вера можа быць маленькай, але няхай гэта будзе вера ў вялікага Бога. Сапраўдныя ж праблемы паўстаюць тады, калі людзі маюць вялікую веру ў маленькага Бога. Тады нараджаюцца чалавечыя суды, бо чалавеку падаецца, што ён сам цудоўна разумее, дзе праўда. Аднак яшчэ цар Давід казаў, што лепш патрапіць пад суд Божы, чым людскі. Мудры быў цар Давід...

*— Магчыма, гэтае пытанне здасца Вам парадаксальным — і ўсё ж... Ці даводзілася Вам сустракаць у сваёй святарскай практыцы хрысціянаў, якія не будуюць сваё жыццё паводле Хрыста?*

— Мы ўсе часам выступаем у ролі такіх хрысціянаў. Не забывайма, што не тыя, хто кажа «Пане, Пане», увaходзяць у новае жыццё, але тыя, хто выконвае волю Айца. Дух Хрыста жыве ў тым чалавеку, які чыніць дабро, любіць, які ненавідзіць зло. Усё вельмі проста. Некалькі гадоў таму разам з маім братам і яшчэ адным сябрам, які сёння служыць святаром у Іспаніі, мы выправіліся ў пілігрымку ў Вострую Браму. Мы вырушылі з Мёраў і пад вечар недалёка ад Шаркаўшчыны шукалі начлег. Мы былі стомленыя, галодныя, змакрэлыя ад дажджу. Звярнуўшыся да гаспадароў у некалькі хатаў з просьбай прыняць на начлег, атрымалі адмоўны адказ. Гэтыя людзі былі і каталікамі, і праваслаўнымі. Зрэшты, яны не мусілі нас прымаць, бо не абяцалі нам гэтага раней, і мы не мелі на іх крыўды. Нас прыняла і накарміла сціплая жанчына, якая мела дваіх дзяцей, мужа, лічыла сябе баптысткай і чытала часопіс сведкаў Іеговы. У яе было шмат пытанняў да нас наконт веры, жыцця, Бога. Прайшло ўжо больш за дзесяць гадоў ад таго спаткання і размовы, таго добрага ўчынку, які яна зрабіла для нас, незнаёмых людзей, а я і цяпер не магу забыць пра яе гасціннасць. Хіба яна не ёсць хрысціянкай? Хіба яна не вучыцца будаваць жыццё паводле Хрыста? Няхай не спяшаецца адказваць на гэтыя пытанні той чалавек, які хоча сказаць: «Так, але...» Лепш, калі нейкія пытанні застаюцца пытаннямі...

*— І ўсё ж, ксёндз Юры, я рызыкну: хіба можна аўтаматычна ставіць знак роўнасці паміж добрым чалавекам і хрысціянінам?*

— Шмат каму з нас уласціва перакананне ў тым, што ён валодае праўдай. Нам падабаецца валодаць, мець. Любім, калі нам штосьці належыць. Больш слушным, аднак, будзе паставіць пытанне не пра тое, наколькі мы валодаем праўдай, а наколькі праўда валодае намі, Бог валодае намі, Хрыстус валадарыць у нас, і мы належым Яму. Такі падыход навучыць нас разважлівасці, пакоры і большай любові ды цярплівасці да людзей, якія моцна адрозніваюцца ад нас. Межы Божага Валадарства ведае хіба толькі Хрыстус. У адным ёсць упэўненасць: там, дзе няма любові, няма і Хрыста, няма хрысціянства. «Бог — гэта любоў» — такія словы апостала Яна, чалавека, які ўбачыў на ўласныя вочы і засведчыў Божую любоў у Хрысце.

*— Евангелле — найважнейшы падручнік для хрысціяніна. Аднак ці ведаем мы, сучасныя хрысціяне, католікі, Святое Пісанне? Неяк давялося пачуць кпіны на адрас адной верніцы, якая ўвесь час носіць з сабою Евангелле. Яна чытае яго ў аўтобусе, у парку, на пілігрымскім шляху ў Будслаў альбо адпачываючы на возеры. Аднойчы пасля набажэнства ў касцёле, калі ўсе ўжо выходзілі з яго, мая знаёмая адгарнула Евангелле і зазірнула туды. Здавалася б, нармальная рэч: чалавек шукае адказ на нейкае сваё пытанне, якое, магчыма, узнікла ў часе слухання Божага слова, ці з казання святара, ці нейкай малітвы на Літургіі. І тут думкі перапыніла саркастычная рэпліка з натоўпу, што выходзіў з дзвярэй святыні: «А гэтая ўсё ніяк не начытаецца!» Ну і далей... можна сабе ўявіць, але не*

*буду тут пераказваць. Ці чытаюць, ксёндз Юры, сучасныя католікі Евангелле?*

— Калі я працаваў у Зімбабвэ, быў з адной праграмай у Індыі, я часта бачыў мясцовых католікаў з Бібліяй у руках. Яны чытаюць яе, вывучаюць. Для іх насамрэч Біблія выступае ў ролі падручніка жыцця. Інакш справа выглядае ў Еўропе. Хоць, праўда, цяпер у Еўропе ў Каталіцкім Касцёле ёсць шмат біблійных малітоўных групаў, якія збіраюцца разам, каб чытаць Біблію, маліцца яе словамі. Вельмі добрыя ўражанні ў мяне склаліся ад Белфаста, што ў Паўночнай Ірландыі, дзе я сам наведваў такія біблійныя колы і браў удзел у малітвах. На вялікі жаль, у Беларусі католікі яшчэ мала чытаюць Біблію. Нельга забываць, што Божае слова — гэта падмурак веры. Вера — ад слухання слова Божага. Так кажа апостал Павел. Таму, калі нехта прыходзіць да мяне на размову альбо на споведзь, я часта раю пачытаць канкрэтны ўрывак з Бібліі.

Я не зусім разумею біблійны фундаменталізм нашых братоў з пратэстанцкіх цэркваў, дзе ёсць жаданне абмежаваць Бога Яго словам у Бібліі. Бог большы за сваё слова ў Бібліі. Але, з іншага боку, нельга мірыцца з няведаннем Бібліі, якое часта назіраецца сярод нас. Бог жыве ў сваім слове, благаслаўляе, суцяшае, аздараўляе.

*— Што Вы маеце на ўвазе, калі кажаце пра фальклорную рэлігійнасць? Я звярнула ўвагу на гэта ў часе таго Вашага казання, якое мне давялося слухаць у Наваполацку.*

— Фальклорнасць у хрысціянстве — гэта простая прывязанасць да вонкавай формы выяўлення веры без яе глыбіні, гэта своеасаблівая абрадавасць. Да такой, як я кажу, фальклорнасці можна далучыць і звычайнае захапленне эстэтыкай хрысціянства, яе мастацка-выяўленчым хараством. Нельга катэгарычна сказаць, што гэта кепска. Праблема пачынаецца тады, калі ёсць жаданне замяніць сапраўдную веру ў Хрыста, пошук Божай праўды і свабоды тут і цяпер на вонкавую абрадавую прывязанасць, на эстэтыку і захапленне толькі мастацка-выяўленчым праяўленнем хрысціянства. Калі гэта адбываецца, хрысціянства губляе сваю моц, яно робіцца музейным і ад яго патыхае нафталінам. Хрысціянства ж, тым часам, мусіць прэтэндаваць на тое, каб змяняць свет, побыт, вызначаць адносіны ў грамадстве, уплываць на размеркаванне дадзеных і здабытых дабротаў, рабіць жыццё больш чалавечным, справядлівым. Хрысціянства не кансервуе праявы жыцця, а заклікае ісці туды, дзе мы яшчэ не былі, прымаць рашэнні, якія, магчыма, не былі прынятыя нашымі продкамі з прычыны маладушнасці і страху. Хрысціянская вера заклікае да росту, развіцця.

*— Зразумела, што мы, людзі, звычайныя, грэшныя, зусім не анёлы, блытаемся на сваіх жыццёвых сцежках, губляем накірунак, падаем. Але хоць бы ці імкнемся жыць, як наказвае Хрыстус, як кажа ў нядзельным казанні святар, як абяцалі мы самі на апошняй споведзі? Ці шукаем выйсця на пераблытаных сцежках, ці спяшаемся падымацца пасля падзенняў? Словам, ці адрозніваецца штодзённае жыццё верніка католіка ад чалавека, які не знаёмы з Хрыстом?*

— Чалавек увесь час імкнецца спадабацца асяроддзю, у якім ён жыве і працуе, спадабацца іншаму чалавеку, самому сабе. Важна, аднак, умець падабацца Богу. Ведаеце, у Барселоне захавалася цудоўная архітэктурная спадчына Антоніё Гаўдзі, з якой мне пашчасціла пазнаёміцца. Многія пілігрымы, турысты прыязджаюць у гэты горад, каб на ўласныя вочы пабачыць тую прыгажосць, якую стварыў архітэктар XX ст., — Парк Гуэль, Каза Міла, Бальё...

Сябры часта пыталіся Гаўдзі, чаму ён так шмат прыкладае высілкаў на праектаванне дахаў у палацах, бо людзі ж гэтага ўсё адно не бачаць. Дойлід, будучы вернікам, адказваў, што для яго важна тое, што гэта бачыць з нябёсаў Бог. Чалавек імкнуўся спадабацца Богу. Ёсць сэнс спрабаваць жыць менавіта так! А ці так мы жывем? І ўсё ж я ведаю такіх людзей, і гэтае натхняе.

На жаль, усе мы памыляемся і падаем. Чытаючы, вучымся чытаць. Пішучы, вучымся пісаць. Кіруючы машынай, вучымся ёю кіраваць. Любячы нашых родных і сяброў, вучымся любіць. Жывучы, вучымся жыць. Я не ведаю іншых шляхоў навучыцца жыць. Гэта проста натуральны стан чалавека, і гэта падаецца мне вельмі цікавым, бо ўвесь час перад намі адкрываецца штосьці новае, мы робім тое, чаго не ўмелі рабіць раней. Без памылак тут не абысціся, але ў лесе выпрабаванняў нельга згубіць галоўную мэту, той накірунак, куды мы імкнемся. Ёсць трапная італьянская прымаўка, якую я часта чуў з вуснаў прапаведнікаў, працуючы ў Італіі. Сутнасць яе ў тым, што кожны заўважае ў лесе дрэва, паваленае ці надламанае бураю, але амаль ніхто не заўважае, як гэты лес расце.

Жыццё — не зусім тое, што бачаць іншыя, але найперш тое, што мы самі жывем, адчуваем, думаем і верым. Я перакананы, што Бог бачыць, як расце лес, як расцем мы. Бог верыць у кожнага з нас. Кожны наш высілак, самы непрыкметны, але зроблены з любоўю, мае сэнс і працяг.

*— Хрыстус сказаў сваім вучням: «Вы святло свету... вы соль зямлі...» Ці з'яўляецца сучасны хрысціянін гэтым святлом і соллю?*

— Лічу, што мы, хрысціяне, неахвотна рэалізуем той патэнцыял, які маем. Такога меркавання трымаюся, сыходзячы з аналізу сітуацыі ў Беларусі. Хрысціянаў у Беларусі значна больш за той рэзананс, які разыходзіцца ад нашай прысутнасці ў грамадстве. Праблема, хіба, у тым, што яшчэ няма ў нас моцнага ўсведамлення гарызантальнага вымярэння веры. Мы акцэнтуем увагу на асабістым, вертыкальным перажыванні веры: я, Бог і мая малітва. Аднак калі вера не трансфармуецца ва ўчынак, яна робіцца пустой, мёртвай. Няма веры без учынкаў.

Слова Божае кажа пра гэта вельмі выразна і катэгарычна. На жаль, наша вера і наша хрысціянства крыху кульгавыя. Чаму так адбываецца? Шмат у чым гэта наступствы камуністычнай ідэалогіі, якая імкнулася знішчыць веру, цалкам ліквідаваць бачныя формы ўплыву веры на грамадства. Таму, натуральна, захаваць веру, так бы мовіць, у сэрцы, на ўзроўні таемнага лічылася ўжо заслугай.

Цяпер жа гэты спосаб верыць становіцца часам зручным дзеля прыхавання нашай абыякавасці, чэрствасці. Жаданне замяніць добры ўчынак на веру ў сэрцы — гэта памылка. Бо адно дапаўняе другое і дасканаліць. Зрэшты, такая вера выгадная і для тых сілаў у грамадстве, якія зацікаўленыя ў захаванні сённяшнага стану рэчаў, бо яны разумеюць, што сапраўдная жывая вера можа многае змяніць. Мяне моцна здзіўляе, калі пад уплыў такога тыпу веры, які, дарэчы, моцна культывуецца, трапляюць, як яны самі сябе называюць, «шчырыя каталікі». Нават на заклік маліцца за людзей, якія трапілі ў турму, яны даводзяць, што за іх маліцца не трэба, бо яны, маўляў, не хадзілі ў касцёл і не падзяляюць афіцыйнага навучання Касцёла. Хрыстус жа заклікае нас маліцца нават за нашых ворагаў, не кажучы ўжо пра тых, хто проста думае і бачыць свет крыху інакш. Праявіць міласэрнасць, дапамагчы чалавеку ў патрэбе, падтрымаць у цяжкай сітуацыі незалежна ад таго, ці падзяляем мы ягоныя перакананні, — гэта і азначае быць святлом свету і надаваць смак жыццю.

«...Хто не любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога не бачыць?» (пар. 1 Ян 4, 20). Вера мусіць быць скіраванаю не толькі ўгору, але і на брата, які церпіць на адлегласці выцягнутай рукі.

*— Не магу не задаць пытання, ведаючы, як шмат давялося Вам паслужыць у іншых краінах. Дзе Вы атрымлівалі найбольш святарскай радасці ад свайго служэння? І чаму?*

— Я сапраўды меў магчымасць прапаведаваць Божае слова ў Індыі, Зімбабвэ, Ізраілі, Чэхіі, Італіі, Бельгіі, Ірландыі, Нямеччыне і ў іншых краінах. Заўважыў, як, прапаведваючы Божае Валадарства, я сам вельмі моцна ўзбагаціўся ад сустрэчаў з рознымі народамі, іх культурай, гісторыяй, светаўспрыманнем. Напрыклад, у Зімбабвэ, дзе мне давялося працаваць на працягу года, я вынайшаў для сябе нешта вельмі важнае, пра што мы паволі забываем з прычыны нашага хуткаснага жыцця. Гаворка ідзе пра фундаментальную частку іх культуры — паняцце «ўбунту».

Перакласці слова «ўбунту» на нашу мову нялёгка — лягчэй бачыць і сведчыць, чым знайсці адпаведныя словы для яго тлумачэння. *Umuntu ng umuntu nabantu* — гэта і ёсць «убунту», чалавецтва. Калі ж імкнешся зразумець літаральны сэнс гэтага выразу з мовы зулу, то атрымліваецца прыкладна так: *я ёсць тым, кім ёсць, дзякуючы таму, чым мы ёсць разам.* Іншымі словамі, я — чалавек з тае прычыны, што мы — людзі, народ. Я станаўлюся чалавекам праз іншага і дзякуючы іншаму чалавеку. Атрымліваецца такі камунікатыўны персаналізм. Нашыя міжасабовыя сувязі таксама вызначаюць і акрэсліваюць нас. «Убунту» як зыходная кропка вядзе нас не да адзіноты, адарванасці ад супольнасці, сям'і, крэўных і знаёмых, да нашай прыналежнасці, залежнасці ад іх, нашай рэалізацыі ў іх. «Убунту» — адвечная, непадлеглая крытычнаму пераасэнсаванню вера ва ўзаемапрыналежнасць і ўзаемаакрэсленне.

«Убунту» выступае як першасны крытэрый у пабудове чалавечых адносінаў, як ідэя, што надае форму сацыяльнаму жыццю. Сямейная салідарнасць, адсутнасць культу канкурэнцыі, спадзяванне на дапамогу — гэта вытворныя «ўбунту».

У супрацьвагу Дэкартаўскаму *«cogito ergo sum»*, што апелюе да індывідуальнага мыслення як пачатку чалавечае экзістэнцыі, самога чалавека, да чаго мы так прывязваліся ў пабудове філасофскай думкі ў Еўропе, «убунту» — гэта адказ на крызіс сапраўднай камунікацыі, адкрытага дыялогу ў грамадстве. Чалавек не тлумачыцца ў сваім «cogito». Чалавек тлумачыцца ў сваім *«sum» (essere)*, «быць» — гэта быць разам.

Калі адкрываеш такія рэчы, то разумееш, як Бог раскідаў крупінкі сваёй мудрасці па ўсім свеце. І так прыемна іх збіраць у розных культурах, расці самому, узбагачаць іншых.

*— Дзякуй, ксёндз Юры, за гутарку. Спадзяюся на новыя размовы на старонках нашага часопіса.*

# Ксёндз Адам Станкевіч — знаны і нязнаны

## Да 120-годдзя з дня нараджэння

Беларусі ніколі не бракавала падзвіжнікаў. Можна сказаць, што ўся гісторыя і культура Беларусі — гэта гісторыя самаахвярнага падзвіжніцтва. У нас чынна дзейнічалі і складалі галовы асветнікі і змагары, а таксама асветнікі-змагары ў адной асобе. Міжваенны перыяд ХХ ст. для Беларусі быў акурат часам асветнікаў-змагароў, сярод якіх ці не найпершае месца належыць каталіцкаму святару Адаму Станкевічу, якога можна назваць чалавекам, які рэальна здзяйсняў прароцтва аб адраджэнні беларусаў, прамоўленае ў XIX ст. Францішкам Багушэвічам. Сёння ж кожны, хто хоць крыху абазнаны ў даваенным беларускім хрысціянскім і культурна-грамадскім руху, несумненна, пагодзіцца з тым, што постаць ксяндза Адама была бадай цэнтральнай і ўплывовай у ім. Віленскія беларусы з любоўю і павагаю называлі яго «вялікім філантропам», айцом Адамам, хоць ён і не быў законным манахам. Пакінутая ім творчая спадчына — манаграфіі, брашуры, артыкулы па гісторыі беларускай культуры, літаратуры, вызваленчага руху, хрысціянскага і палітычнага жыцця Беларусі — уражваюць шырынёй і глыбінёй падачы матэрыялу, яго дасканалай апрацоўкай, даходлівасцю думкі. Плённая асветніцкая культурна-грамадская дзейнасць ксяндза Адама лучылася са змагарным чынам, бо праца дзеля Беларусі, адраджэння яе мовы ў святынях, наладжвання працы грамадскіх арганізацый, а таксама палітычная соймавая дзейнасць вымагалі гранічных высілкаў і часта менавіта барацьбы. Адам Станкевіч мужна нёс на сабе гэты нялёгкі пакутніцкі беларускі крыж, пішучы кнігі, дзейнічаючы ў шматлікіх грамадскіх арганізацыях, адстойваючы правы свайго народа і роднай мовы на саматойнасць і годнае развіццё, а таксама выконваючы свае непасрэдныя душпастырскія абавязкі. Склаў ён сваё жыццё на алтары служэння Бацькаўшчыне як ахвяра сталінскіх рэпрэсій: арыштаваны ў Вільні і асуджаны ў жніўні 1949 г. на 25 гадоў зняволення ў лагеры, ён ужо у лістападзе таго ж года загінуў у Тайшэтлагу пры загадкавых акалічнасцях. Сапраўды, жыццё, адданае за бліжняга, за беларуса і яго долю, чыстае ўвасабленне Любові, дасканалы шлях святасці...

На шчасце, спадчына ксяндза-асветніка захавалася, не страцілася для нашчадкаў. Найперш, дзякуючы таму, што віленская друкарня імя Францішка Скарыны даваеннага часу, якую і заснаваў тады ж Адам Станкевіч дзеля пашырэння беларускага слова, друкавала ягоныя кнігі і кнігі іншых беларускіх святароў-пісьменнікаў, якія рыхтаваў да публікацый сам ксёндз Адам — у якасці рэдактара. На пачатку 1930-х гадоў ён надрукаваў з рукапісу дзённік Казіміра Сваяка (на той час ужо нябожчыка ксяндза Кастуся Стэповіча) «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», а таксама грунтоўны нарыс аб яго творчасці; другое, дапоўненае, выданне вершаў Андрэя Зязюлі (ужо таксама нябожчыка ксяндза Аляксандра Астрамовіча) «З роднага загону»; першую кнігу вершаў Вінцука Адважнага (ксяндза і айца марыяніна Язэпа Германовіча) «Беларускія цымбалы» са сваёй прадмовай — характарыстыкай усёй вядомай на той час творчасці пісьменніка-святара, ды іншыя выданні. На шчасце, прайшоў і той час, калі з грунтоўнымі кнігамі самога ксяндза Адама, такімі як «Беларускі хрысціянскі рух» (1939), «Хрысціянства і беларускі народ» (1940), ягонымі брашурамі «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі» (1925), «Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII ст.» (1928), «Родная мова ў святынях» (1929), «Францiш Багушэвіч: яго жыццё і творчасць» (1930), «Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя незалежнасці Беларусі» (1933) ды іншымі, можна было пазнаёміцца толькі ў бібліятэчных фондах спецыяльнага захоўвання (як калісьці давялося гэта рабіць і мне). Але за радкамі кніг ксяндза Адама адкрывалася Беларусь — сапраўдная, высакародная, высокакультурная, інтэлектуальная, змагарная, пакутніцкая...

У сучаснасці творчая спадчына Адама Станкевіча знайшла сваю годную эдыцыю ў двух гожых выданнях. Гэта найперш «Выбраныя творы» ў пачэснай серыі «Беларускі кнігазбор»: «зялёны» томік быў з любоўю ўкладзены незабыўным Уладзімірам Міхайлавічам Кананам — даследчыкам, якога можна таксама, без перабольшання, назваць падзвіжнікам сучаснага беларускага адраджэння, заснавальнікам новай беларускай эстэтыкі і культуралогіі. Ён жа, Уладзімір Конан, і аўтар грунтоўнай манаграфіі «Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі» (Мінск: выд-ва «Про Хрысто», 2003), якая паклала годны пачатак навуковым даследаванням велізарнай энцыклапедычнай спадчыны пісьменніка-святара. Другое, найбольш поўнае, выданне спадчыны ксяндза Адама Станкевіча «З Богам да Беларусі: Збор твораў», якое налічвае больш за тысячу старонак, было здзейснена Інстытутам белару-

сістыкі ў Вільні (2008). Шаноўныя ўкладальнікі — Алесь Пашкевіч і Андрэй Вашкевіч — уключылі ў выданне не толькі ўсе вядомыя друкаваныя працы ксяндза-асветніка, але і тое, што не знайшлося ў свой час друкам, а гэта і праца па гісторыі Беларусі ад старажытных часоў, а таксама святарскія казанні на цэлы літургічны год «Касцёльная навука: Божае Слова: лекцыі, Эванэліі і прамовы на нядзелі і сьвяты», што мае таксама надзвычай актуальнае значэнне менавіта як практычная духоўная спадчына беларускага святара-пісьменніка. Так, на першую нядзелю па Вялікадні ксёндз Адам, па прачытанні адпаведных старонак Евангелля ад Яна, прамаўляў: *«Вера нам патрэбная, каб знайсьці Праўду Найвышэйшую, каб знайсьці Бога. Сярод многіх жыцьцёвых загадак і тайніцаў адна толькі вера мае паказаць праўдзівую дарогу і як ясны сьветач сьвеціць нам у нашай жыцьцёвай падарожы. Людзкая навука і культура — гэта толькі як бы ранішняе сьвітаньне. Праўда, ані адкідаць іх, ані імі гардзіць мы ня можам, ані цалком здаволіцца імі мы такжа ня можам. Усё земскае, хоць бы было няведама як высокае, праўдзівае і стройнае, ня зможа здаволіць цалком душы нашай, бо поўнае яе здаволеньне ў Богу. Душа наша тут на замлі — гэта як бы птушка, што пачынае сваё шчабятаньне на сьвітаньні, маючы пачуцьцё поўнай дзённай яснасьці і красы, што прыйдзе пасьля сьвітаньня: «Багаслаўлены, што ня бачылі і ўверылі»*[1].

На шчасце, таксама досыць добра захаваўся архіў Адама Станкевіча, у якім шмат матэрыялаў біяграфічнага і творчага характару, перапіска, дакументы, звязаныя з дзейнасцю розных беларускіх арганізацый у міжваеннай Вільні, асобамі, з якімі судачыняўся ксёндз Адам.

## Ксёндз Адам Станкевіч

*ў буру і пагоду*
*родны сцяг і крыж трымаў.*
*беларускага народу*
*праўду засяваў.*

Каб цвілі тут яблынькі ў садзе,
Нехта выбіў на помніку правільны верш.
Спачывае ў магіле самотная маці,
Ксёндз Адам недзе ёсць паміж кніг і папер.

З Божай волі ён крыж вольны нёс,
Узнімаў Беларусь да высокіх нябёс.
Прапаведаваў веру нават бальшавікам,
А гэта страшней, чым ваўкам.

Ксёндз не можа хавацца ад страху ў кусты.
Каб сяброў ратаваць, пасылае лісты.
І чакаць ён да зручнага часу не мог,
На ратунак Касцёла прыслаў яго Бог.

Прысудзілі, што ён быў японскі шпіён.
У сібірскім палоне не вытрываў ксёндз.
Уцякае з палону ў бязмежжа аблок —
Беларускі святы і прарок...

Не шукайце магілу героя ў Тайшэце,
Ён вяртаецца пешкі па зорках дамоў —
З сэрцам, прабітым па смерці,
З пакалечанай святой галавой...

*Данута Бічэль*

Маю ўвагу як даследчыка калісьці, яшчэ падчас працы над акадэмічным артыкулам пра Адама Станкевіча для біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», прывабіў адзін красамоўны аркуш паперы без даты, які, аднак, шмат сведчыў пра ксяндза-асветніка. На адным баку аркуша быў нашкрабаны алоўкам спіс рэчаў: «Клей, дарожка, усьцілкі, фрэнч, хатнюю сутану, грубай паперы на стол, кнопкі, гадзіннік, пёры гусіныя, шкарпэткі цёплыя...». Відавочна, у нейкую дарогу выпраўляўся ксёндз Адам і занатоўваў важныя рэчы, каб не забыцца. Мабыць, зважаючы на пералік, гэта не была яшчэ лагерная дарога... А на другім баку аркуша быў, магчыма, мяркуючы па змесце, урывак з касцёльнага казання і малітвы да Божай Маці і Езуса Хрыста. Жывое пастырскае слова нібыта звернута да нас — сённяшніх людзей Беларусі. Падамо гэтыя высокія і святыя словы-наказы і малітвы ксяндза Адама так, як яны захаваліся ў рукапісе: *«...Ці ж мы толькі вечна будзем гнуцца і плакаць, і наракаць німаведама на каго, што нам дрэнна, што нас усе крыўдзяць? З гэтага сну і адрантвення прабудзіцца нам трэба. З большай сілай мы возьмемся працаваць на сваёй апушчанай беларускай ніве! Нічога дарма нікому не даецца. І лепшыя часы для нашага народу без нашай працы і нашых ахвяр да нас ... не прыйдуць. Мы самі гэта ўсё для сябе прыгатаваць павінны! Як Бог чалавеку даў розум і чалавек, дзякуючы розуму, дае сам сабе ў жыцці раду, таксама ёсць і з нашым лепшым заўтрам. Гэта выкуць для сябе мы павінны самі! Але пакуль што ды гэна будзе, нам цяпер яшчэ паплакаць можна над сабой і над усім народам беларускім!.. «Ойча наш» і «Прывітана будзь...»*.

Далей ішлі малітвы ксяндза Адама: *«О, Балесная Марыя, перамяні Ты мае вочы ў крыніцу слёз, з якой бы плылі без устанку гарачыя слёзы жалю і слёзы сардэчнага спачуцця ў Тваіх болесьцях, слёзы найгарачэйшай міласці і ўдзячнасці! Такіх слёз выпрасі мне, грэшнаму, у Свайго Сына праз гэныя горкія Свае слёзы, што вылівала Ты, ідучы за Ім балеснай дарогай Крыжа і стоячы пад крыжом Ягоным. Амэн. Збаўца наш Езус Хрыстус! Пакорна мы Цябе просім, каб Твая найбалеснейшая Маці Марыя цяпер і ў часіну нашай смерці за намі да міласэрдзія Твайго ўступалася, Тая, Каторай сэрца разам з Тваім было мячом болесьці прабітае! Амэн»*[2].

Адам Станкевіч быў таксама руплівым збіральнікам і захавальнікам творчай спадчыны сваіх сяброў — святароў-пісьменнікаў. Гэта і рукапісы Казіміра Сваяка, і творы Андрэя Зязюлі, і вялікая перапіска. На жаль, лісты самога Адама Стан-

кевіча амаль не захаваліся, ва ўсялякім разе іх няма ў прагледжаных мною архіўных фондах і яны не змешчаны ў згаданых вышэй выданнях. Затое зберaглося нямала лістоў да самога ксяндза Адама, якія, на нашу думку, вельмі яскрава сведчаць пра свой час, дазваляюць убачыць асобу святара ў яго штодзённых духоўных і грамадска-культурных клопатах, праліваюць святло на кола яго знаёмстваў, дачыненні ў розных сферах дзейнасці з пісьменнікамі, палітыкамі і грамадскімі дзеячамі, іншымі святарамі і прыватнымі асобамі.

У нашай публікацыі падаюцца тры лісты да Адама Станкевіча ад 1933 і 1936 гадоў[3]. У двух — ад вядомага святара, айца марыяніна Андрэя Цікоты з Рыма, абмяркоўваюцца справы бягучага рэлігійнага жыцця: у першым лісце гаворка ідзе пра працу над перакладам і падрыхтоўкай да друку касцёльнай Канстытуцыі, у другім — пра ўдзел у грамадскіх справах айца марыяніна Язэпа Германовіча (пісьменніка Вінцука Адважнага), які тады толькі што вярнуўся ў Вільню пасля місійнай працы на Далёкім Усходзе — у Харбіне. Таксама цікавым, на нашу думку, ёсць ліст Міхася Машары да Адама Станкевіча, з якога бачна, што паміж пісьменнікам і святаром былі добрасардэчныя стасункі. Магчыма, ксёндз Адам быў і яго духоўным айцом, што непасрэдна вынікае са звароту да адрасата. У кожным разе прыведзеныя лісты яшчэ раз сведчаць, што Адам Станкевіч быў духоўным цэнтрам заходнебеларускага жыцця практычна ва ўсіх сферах дзейнасці, быў сейбітам святла і чалавечнасці, апосталам беларускага асветніцтва і адраджэння.

*Ірына Багдановіч*

# Лісты да кс. Адама Станкевіча

**Ад айца Андрэя Цікоты**

Рым, 19.XI.1933 г.

Даражэнькі!

Думаю, што Ты на мае ўвагі ўжо не чакаеш, бо вельмі я з імі спазніўся. Бачыш, мае ногі моцныя і «stante pede» доўга цягнулася, бо меў многа другіх пільных спраў. Калі, аднак, ваша цярплівасць яшчэ мацнейшая, і вы яшчэ чакаеце, то будзьце ласкавы звярнуць увагу і на мае папраўкі. Некаторыя з іх няважныя, але некаторыя маюць галоўнае значэнне, асабліва гдзе ходзіць аб праўныя рэчы, і так: у §65, дзе мова аб навуцы, трэба дадаць слова «цалком» ці якоясь другое, каб было ясна, што вучыцца саўсім не забаронена, толькі каб гэта ўсё было рэчай галоўнай; у §76 — ходзіць аб тое, каб не абцяжаць абавязкамі (напрыклад, даўгамі) сваёй маёмасці, ані сябе; у §77 слова «ўласнасць» выкінуць, бо яно нязгодна з канонамі і Канстытуцыяй. Навіцыянт не можа сваёй маёмасці нікому аддаць на ўласнасць, а тым больш закону, а толькі [стварыць] адміністрацыю і карыстанне; выкінуць то ж слова «а самому», бо ўводзіць няяснасць, а ўставіць «і», і далей не «распараджацца», а «распарадзіцца» — адзін раз.

Першага аркуша я яшчэ не перагледзеў, але да «erratou» яшчэ паспею даць адказ.

Даражэнькі, хоць гэта зацягне справу, але будзь добры прысылаць і далей да перагледжання, бо некаторых рэчаў прапусціць не можна.

Было б надта добра, каб да Каляд усё ўдалося надрукаваць, бо ў палавіне студня выязджаю ў Амерыку, і тады ўжо перасыланне будзе немагчымае, ды ў Амерыку хацеў бы ўзяць з сабой ужо гатовую, бо там ёсць украінцы, і ім бы наша Канстытуцыя, пераложаная на беларускую мову, прыдалася.

З гэтага, што я перагледзеў, бачу, што Юзюк перавёў крыху засвабодна і задалёка ад тэксту лацінскага, але гдзе гэта сэнсу не змяняе, дык такой бяды; — сцісла перавесці нялёгка.

Напішы часам, што ў вас чуваць? Як жывецца ў новай хаце?

Тое, што ў мяне дзеіцца, цябе, пэўна ж, не цікавіць. Раджу, пішу, хаджу з візытамі да рожных вялікіх рыбаў — ды ізноў пішу, а за сваёй старонухай туга часам бярэ, хоць я і не надта ж тужлівы.

Прывет усім знаёмым і Полацкай —

Ваш Андрэй.

P.S. Успомніце часам мяне ў малітвах.

**Ад айца Андрэя Цікоты**

Рым, 15.XI. 1936 г.

Вельмі паважаны ксёндз-рэдактар Адам Станкевіч у Вільні!

Дарагі!

Вельмі мне цяжка даваць на Тваё пісьмо з 2.XI.[1936] негатыўны адказ, але інакш зрабіць не магу.

Патрэба каталіцкай акцыі ясная і зразумелая, але я яшчэ ясней віджу, што кс. Я.Г.[1] не можыць быць ані яе старшынёй, ані духоўным асыстэнтам, на каторага найчасцей спадае ўся праца.

Маю жаль да вас, а найбольш да цябе, што, не лічачыся ані са здароўем Я.Г., ані з нашым палажэннем, уцёгваеце яго ў грамадзянскую работу і ў дэлегацыі.

1-е. Ты не відзеў тых пасвядчэнняў аб здароўю Я.Г., каторыя далі яму харбінскія лекары. Ты не бачыў, якім ён з Харбіну вярнуўся, і цяпер не знаеш добра, у якім стане ёсць яго здароўе. Дай

---

[1] Станкевіч А. З Богам да Беларусі: Збор твораў. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. — С. 607.

[2] Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАН Беларусі. Ф. 4, воп. 1. Адз. зах. 45. — Арк. 95.

[3] Лісты захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Ф. 3, воп. 1. Адз. зах. 279. — Арк. 8, 44 — 45, 47.


Шлях цяжкі... І з далёку палямі
з падарожным кіем валакусь.
Ў торбе песьні нясу вам сялянi,
А ў сэрцы Табе — Беларусь!
Айцу Адаму —
Міхась.

Фрагмент ліста ксяндзу Адаму Станкевічу ад Міхася Машары. 1936 г.

Божа, каб ён змог споўніць абавязак супэрыёра і прэфэкта ў маленькім віленскім доме, выспавядаць пару асоб, ды памаленьку скончыць пачатыя пісанні. На пастаянную грамадзянскую работу, на сталага асыстэнта якойсь арганізацыі, ды яшчэ пры яго тэмпэрамэнце, яму, напэўна, сіл не хваціць. У яго ж пастаянныя болі галавы, бяссонніца, ён жа мусіць сабіраць усю сілу волі, каб паўстрымаць свае нэрвы ў малейшай макулінцы, каторая яму не адпавядае.

Я маю выкіды сумлення, што не мог даць яму на год прынамсі свабоды ад усялякіх заняткаў і абавязкаў, а вы яго ўцягваеце ў грамадзянскую работу ў віленскіх абставінах...

Не дзіўлюся, што Я.Г. часцічна даўся ўцягнуць у гэту справу, бо ж гэта яго марэння — яго міласць, але вы, выкарыстоўваючы яго наклоннасць і жарлівасць, не бачыце, як яго здароўе дабіваеце.

2-е. Абавязкі супэрыёра Дому і прэфэкта законных клерыкаў пры адзіным ксяндзу ў Доме ёсць такія, што і здаровы чалавек не можа на сябе браць абавязкаў хоць бы і невялікай, але пастаяннай грамадзянскай работы.

3-е. Вы то ж не бярыцё пад увагу нашага палажэння, асабліва ў Доме Віленскім. Малая рэч, найсвяцейшая сама ў сабе, робленая не ў сваім часе, можыць сапсуць работу многа свяцейшую, робленую ад фундамэнтаў і аблічаную на далёкую прышласць дзеля хвалы Божай і карысці душ людзкіх.

На акцыю каталіцкую даўно ўжо пара, але Я.Г. у яе ўцягаваць не можна! *Sapienti sat!*[2]

Даражэнькі, каб я мог хоць 20 зл.[отых] штомесяц пасылаць сваім у Вільню ці ў Друю на цукар ці кніжкі, быў бы вельмі рад, а Ты ад мяне хочыш 100 зл.[отых] у месяц на Х.[рысціянскую] Думку.

Бог мацнейшы ад слабых яшчэ <...> Ён вам напэўна паможа!

Шчыра адданы ў Хрысце Твой Андрэй.

**Ад Міхася Машары**

Таболы, 8.Х.1936 г.

Вельмі, Вельмі Паважаны Ойча Адаме!

Учора атрымаў ад Вас кніжку «Teorja Literatury» — шчыра дзякую! Здаецца, у ёй знайду шмат новага і цікавага для сябе. Пачынаю пакрыху яе грызьці і знаходжу, што аснаўны закон больш-менш мне ўжо вядомы, але затое яснасць і шырокасць вывучання тэорыі формы і тэхнікі мяне захоплівае і дзеля гэтага цешуся, што пабагацее мой кругазор у гэтай галіне.

Вось ужо другі тыдзень жыву дома. Пакуль што маю абсалютны спакой. Думаю, што ліст Буйніцкага зрабіў сваё... Але затое меў аж дзьве візыты пана Добжанскага (таго з Kur. Poran.). Думаю, што ён «легавы», але высокай маркі. Гэтым разам не было жадных прапазык, ані вершаваных, ані супрацоўніцтва. Заязджаў «па дарозе». Вельмі бедаваў і разводзіўся над маім жабрацкім жыццём, а калі забачыў, як я капаю бульбу і цягаю мяшкі, дык перапалохаўся і, развітываючыся, казаў, што такі стан рэчаў не можа трываць далей; кінуў абяцанку, што ён мне дастане «добрую пасаду». Але буду спадзявацца, што гэты пан больш не прыедзе. Апошняя яго візыта была ізноў у прысутнасці Пачопкі (які прывозіў мне дровы), і мы яго нялюдзка выкпілі.

Адтрымаў пачтоўку ад Буйніцкага, які паведамляе, што мая справа адносна працы для мяне ў Вільні зусім на добрым шляху, і ёсць 70% за тое, што яе атрымаю ў шпіталю.

Не вельмі мне хочыцца прымаць гэту ласку, тым больш, што Буйніцкі тут толькі пасярэднікам. Вырашае справу п. Добачэўскі, але другога выйсця не маю, бо запраўды я заходжу ў нейкі сляпы тупік, як з боку матэрыяльнага, так і духовага.

Пісаць пакуль што нічога не пішу. Заняты працай фізічнай і неяк, па пабыце ў Вас, не магу адшукаць запраўднага самога сябе. Да ўсяго яшчэ стаіць такая слякаць і дажджы, што на душы цёмна і цяжка. Але пашто Вас заражаць сумуючым настроем васенняй слякаці!

Дзеля таго бывайце здаровы і вясёлы!

Жонка і дачка дзякуюць за цукеркі і іншае, засылаючы разам са мной шчыры прывет.

З глыбокім паважаннем.
Ваш Міхась.

Шлях цяжкі... І з далёку палямі
З падарожным кіем валакусь.
Ў торбе песьні нясу вам, сяляні,
А ў сэрцы Табе — Беларусь!

Айцу Адаму —
Міхась.

*Публікацыя*
*Ірыны Багдановіч.*

[1] Гаворка ідзе пра айца марыяніна Язэпа Германовіча, вядомага як пісьменнік Вінцук Адважны.
[2] Для мудрага дастаткова (лац.).



Ксёндз Андрэй Цікота як генерал Ордэну айцоў марыянаў у Рыме (1934).

# «Шлю прывітанне з далёкай Сібіры...»

## Архімандрыт Андрэй Цікота ў савецкім ГУЛАГу

На 11 лютага 2012 г. прыпалі 60-я ўгодкі пакутніцкай смерці ў савецкім ГУЛАГу архімандрыта Андрэя Цікоты.

Ён быў не толькі выдатным беларускім рэлігійным і грамадска-культурным дзеячам першай паловы XX стагоддзя. Архімандрыт Андрэй Цікота двойчы абіраўся генералам Ордэну айцоў марыянаў, якому самаахвяравана служыў на працягу ўсяго свайго жыцця. Высокі аўтарытэт і немалыя арганізатарскія здольнасці беларускага святара выявіліся і ў часе яго працы на пасадзе Апостальскага адміністратара Каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Маньчжурыі і Кітаі. Тым часам Усемагутны рыхтаваў архім. Андрэю яшчэ адно выпрабаванне. Гэтым апошнім выпрабаваннем вернасці Богу і веры стаў для яго савецкі ГУЛАГ.

Усё пачалося 22 снежня 1948 года, калі архім. А. Цікота і тры святары з Усходняй місіі ў Харбіне былі арыштаваныя міліцыяй кітайскіх камуністаў. Пасля трох дзён зняволення вязняў перадалі савецкім уладам. Потым былі допыты і катаванні ў турме МГБ у Чыце, якія працягваліся да канца траўня 1949 года[1].

Архімандрыта А. Цікоту абвінавацілі ў агітацыі супраць Савецкага Саюза, арганізацыі тэрарыстычнай групоўкі, шпіянажы на карысць Ватыкану і японскай разведкі. Яго справу не разглядалі ў судовым працэсе: рашэнне было прынята 28 верасня 1949 г. Асобай камісіяй МГБ у Маскве[2]. Асуджаны паводле арт. 58–6 cz. I, 58–4, 58–11 КК РСФСР, беларускі святар атрымаў 25 гадоў «исправительно-трудовых лагерей» (ИТЛ).

З Чыты архім. А. Цікоту і яго харбінскіх сутаварышаў у лістападзе 1949 г. этапавалі ў Іркуцкую перасыльную турму, а потым — у Тайшэт: спачатку ў цэнтральнае перасыльнае лагернае аддзяленне 215/025, а потым у адзін з лагпунктаў «Особого лагеря 7».

Лагер, у які трапіў архім. А. Цікота разам з айцамі марыянамі Я. Германовічам і Т. Падзявам, быў створаны ў рамках сістэмы асобых лагераў ГУЛАГу для палітвязняў. Гэтыя «особые лагеря» ствараліся на моцы Пастановы Савета Міністраў СССР 416–159с ад 21 лютага 1948 года. Яны мелі на мэце замяніць для палітычных вязняў катаргу, узноўленую ў СССР у 1943-м і пазней скасаваную ў 1948 годзе[3].

Напрыканцы лютага 1948 г. савецкімі ўладамі быў зроблены яшчэ адзін крок — прынята рашэнне пра арганізацыю пяці «особых лагерей», якія пазней атрымалі назвы «Минеральный», «Горный», «Дубравный», «Степной» і «Береговой»). У жніўні быў арганізаваны шосты па ліку — асоблаг «Речной», а напрыканцы снежня 1948 г. — «Особый лагерь 7» («Особлаг 7»), які ў хуткім часе атрымаў назву «Озерный» («Озерный лагерь», «Озерный ИТЛ», «Озерлаг», «Озерстрой»).

Відавочна, што ў сваім цынізме савецкія ўлады не хацелі «саступаць» «калегам» з нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў часоў Другой сусветнай вайны, і ў прыватнасці, з Асвенціма, на браме якога быў змешчаны сумнавядомы надпіс «Arbeit macht frei». За ўсю гісторыю ГУЛАГу было створана 12 асобых лагераў, дзе ў розны час знаходзілася ад 200 да 257 тысячаў палітвязняў.

«Озерлаг» быў адным з найбольш вядомых у Іркуцкай вобласці «особых лагерей» і праіснаваў да чэрвеня 1964 года. У ім налічвалася каля 40 тысяч вязняў[4]. На пачатку 50-х гадоў «Озерлаг» уяўляў з сябе лагерны комплекс з некалькіх дзясяткаў лагаддзяленняў і лагпунктаў, размешчаных на абшары паміж Тайшэтам і Брацкам. Асноўнай адзінкай у арганізацыйнай структуры «Озерлага» было лагернае аддзяленне, якое складалася з некалькіх баракаў і змяшчала пераважна ад 800 да 12 тысяч вязняў[5]. Амаль кожнае такое аддзяленне мела свае філіі — лагпункты, якія ствараліся і функцыянавалі недалёка ад месцаў асноўнай працы палітвязняў.

У «Озерлагу», як і ў пералічаных вышэй «особых лагерях», утрымліваліся пераважна тыя, хто быў асуджаны паводле

58 арт. КК РСФСР за так званыя палітычныя злачынствы. Сярод іх былі вучоныя, артысты, пісьменнікі, савецкія разведчыкі, расейскія эмігранты, вайскоўцы (у тым ліку нямецкія і японскія ваеннапалонныя), святары і рэлігійныя дзеячы. Савецкімі ўладамі ўсе яны ўспрымаліся і трактаваліся як «изменники Родины, буржуазные националисты и сепаратисты, агенты мировой буржуазии, шпионы, диверсанты, террористы, вредители и экономические саботажники»[6].



Святарскае пасведчанне кс. Андрэя Цікоты (Вільня, 1923).

Гэты «спецкантынгент» вязняў выкарыстоўваўся на асабліва цяжкіх працах і быў цалкам ізаляваны ад іншых зняволеных, а таму ахоўваўся спецыяльнымі канвойнымі войскамі.

Як пішуць даследчыкі гісторыі ГУЛАГу, вязні «Озерлага» будавалі чыгунку на лініі Брацк — Тайшэт — Усць-Кут, займаліся нарыхтоўкай, перапрацоўкай ды пастаўкай лесу і лесаматэрыялаў для прадрыемстваў МУС і гідратэхнічных будоўляў, абслугоўвалі аддзяленні трэста Тайшэтлесу і слюдзяныя фабрыкі трэста Саюзслюда МУС, працавалі на раскарчоўцы і добраўпарадкаванні зямельных участкаў для калгасаў Алзамайскага, Тайшэцкага і Шыткінскага раёнаў, а таксама ў каменных кар'ерах[7].

Працоўны дзень вязня складаў 9-10 гадзін. На ўсіх відах працы існавалі канкрэтныя нормы, выкананне якіх было наўпрост звязана з нормамі харчавання. Пры выпрацоўцы нормы вязень атрымоўваў 1000-1200 гр. хлеба і дадатковую порцыю кашы[8], аднак гэтай ежы не хапала. Зрэшты, як сведчаць у сваіх успамінах былыя палітвязні, нормы выпрацоўкі амаль ніколі не выконваліся[9].

Свой тэрмін зняволення архімандрыт Андрэй адбываў у розных месцах «Озерлага»: спачатку — у Тайшэце, а пазней — у лагпункце 215/1-040 у Чукшы (Алзамайскі раён Іркуцкай вобласці) і лагпункце 215/1-038 у Нава-Чунцы (Шыткінскі раён Іркуцкай вобласці). Лагерны рэжым быў вельмі жорсткі і рэгуляваўся наступнымі правіламі:

*«...Во внерабочее время з/к запираются в бараках. В столовую, в санчасть и т. д. водят их строем. Освобождаются от работы при температуре не ниже 38°С и при условии непревышения лимита освобождаемых от работ по болезни. Две поверки в сутки. Одно письмо в шесть месяцев, лишь ближайшим родственникам, в пределе СССР. Разрешается получать одно письмо в месяц. Переводы и посылки сверх установленного лимита возвращаются отправителю без объяснений. То же, когда получатель временно лишен права их получать в порядке административного наказания. Заключенные используются только на общих физических работах. З/к караулятся также и на оцепленных объектах и им запрещается общение с другими з/к и вольнонаемными. Бригадирами назначаются уголовники-рецидивисты, проживающие вне зоны спецлагеря и получающих паек, независимо от выработки, в связи с чем составленные рапортички плохо кормят бригаду»*[10].

Кожны з вязняў абавязкова мусіў мець на ўсіх прадметах сваёй вопраткі адпаведны лагерны нумар. Адзін з былых вязняў «Озерлага» ўспамінаў:

*«...Носили мы серые куртки. На куртке — на груди и на спине, а также на подоле платья или на брюках, чуть выше колена — номера. Номер рисовался черной краской на кусочке белого материала...». Заключенные размещались в бараках, в которых сооружались двухъярусные нары. Для отопления барака стояла железная печь, у дверей — параша и бочка с водой. Окна на бараках были затянуты решетками и они никогда не открывались. На ночь барак закрывался на замок...»*[11].

У чэрвені 1951 г. з лагпункта ў Нава-Чунцы архім. А. Цікота быў пераведзены зноў у Тайшэт. Ён вельмі цяжка хварэў, перанёс некалькі хірургічных аперацый. Асабліва ўскладнялі яго жыццё даўні парок сэрца і тромбафлебіт, а ў апошнія месяцы жыцця яшчэ і адкрытыя язвы на плячах і нагах. Усё гэта прымушала беларускага святара амаль пастаянна знаходзіцца на шпітальным лагерным ложку. Аднак комплексную медычную дапамогу для вязня ўскладнялі дзве праблемы: хранічны недахоп медыкаментаў і высокакваліфікаванага персаналу, які звычайна вырашаўся за кошт урачоў з ліку саміх вязняў.

У цяжкіх лагерных варунках магчымасць трапіць у бальніцу хоць на некалькі дзён для большасці вязняў азначала не толькі лячэнне і адпачынак. Яна ратавала ад канчатковай фізічнай і


гор. Москва
Министерство Внутренних дел СССР

БССР Полоцкая обл.
Миорский р-н гор. Друя
пр Конный № 1
Кадышевская Юзефа Викентьевна

Нач-ку Розысков пропавших
безвестия из заключения

Заявление

Прошу Вас разыскать тов. Цикото Андрий Феликсович с 1891 или 1892 г. родился урож д. Жейдишки Сморгонского р-н Молодечненской обл. Арештован он в 1949 г. Харбинским Гол. МГБ, осужден в г. Чита. Находился остальное время: Иркутская обл гор. Тайшет п/о Ново-Чунка п/я 215/2-038, а сичас от января 1952 года о нем роственники не имеют никаких извести.

Прошу не отказать моей просьбе

Ю. Кадышевская

14 июля 1953 года.

Копія ліста-запыту Ю. Кадышэўскай да савецкіх уладаў у справе а. архім. А. Цікоты (Друя, 14 ліпеня 1953 г.).

псіхічнай вычарпанасці і на нейкі час дазваляла ўзнавіць сілы. Аднак тэрмін знаходжання ў лагернай бальніцы быў абмежаваны да 12-ці дзён, пасля якіх, незалежна ад стану пацыента, доктар мусіў яго выпісаць[12].

Але нават у варунках лагернага жыцця архім. Андрэй Цікота праз пэўны час тайна служыў св. Імшу, прапаведаваў і захоўваў Святыя Дары. Ён быў духовай падтрымкай для вязняў. Як адзначае кс. марыянін В. Пялінак, пастулатар беатыфікацыйных працэсаў беларускіх святароў-пакутнікаў архім. Фабіяна Абрантовіча і архім. Андрэя Цікоты, у часе знаходжання ў лагеры былі выпадкі прыняцця вязнямі каталіцкай веры і хрышчэння раней няверуючых[13].

Верагодна, што ў другой палове 1951 г. архім. Андрэю Цікоту была зроблена прапанова перайсці ў праваслаўе і заняць пасаду праваслаўнага мітрапаліта ў Мінску. У выпадку згоды яму гарантаваліся свабода і падтрымка савецкіх уладаў пры ўмове, што святар будзе «беспрекословно» выконваць усе дырэктывы і загады. Гэтай прапановы, якая рабілася двойчы, архім. А. Цікота не прыняў і папрасіў толькі аб адным — дазволіць яму спакойна памерці[14].

Адзін з былых сулагернікаў архім. Андрэя ўспамінае, што беларускі святар паміраў пакутліва, пераадольваючы страшны фізічны боль ад язваў на нагах. Да хворага забаранялася нават падыходзіць, бо яму паставілі дыягназ цяжкай інфекцыйнай хваробы, ад якой разлагалася ўсё цела[15].

Архім. Андрэй Цікота памёр 11 лютага 1952 г. у бальніцы 2 «Озерстроя», пазбаўлены элементарнай медычнай дапамогі. Адной з прычынаў такіх адносінаў лагерных уладаў да вязня была яго адмова супрацоўнічаць з савецкімі ўладамі.

У пасведчанні пра смерць архім. Андрэя, якое адшукаў у 1998 г. расейскі даследчык-архівіст Сяргей Кудраўцаў з Чыты, паведамлялася:

*АКТ*
*1952 года, февраля 13 дня,*
*Больница 2 «Озерстроя»*

*Мы, нижеподписавшиеся:*
*Начальник больницы лейтенант м/с Конопля, лечащий врач з/к Макагонский и врач з/к Ставров составили настоящий акт о том, что 11-го февраля 1952 года умер з/к Цикота Андрей Феликсович, л/д 3-352, рождения 1891 года, уроженец Свинтянского уезда, б. Виленской губ. Национальность — белорус.*

*Осужден по ст. 58 — п.п. 4, 6, 11 У.К. сроком на 25 лет.*
*Конец срока — 15.01.1974.*

*Причина смерти:*
*Остановка сердечной деятельности при явлении общей интоксикации организма, вызванной туберкулезным менингитом, при наличии туберкулезного перитонита с обширными, массовыми и сплошными спайками всех органов брюшной полости, облитерации плевральных полостей легких, эмфиземы легких, хронического нефрита, дегенерации миокарда, жирового перерождения печени и кахексии.*

*Начальник Б-цы: лейтенант м/с /Конопля/ [М.И.]*
*леч. Врач з/к /Макагонский/*
*врач з/к /Ставров/* [16]

Архімандрыт Андрэй Цікота знайшоў свой вечны супачын на лагерных могілках каля лагпункта 038 у пасёлку Нава-Чунка (Шыткінскі раён Іркуцкай вобласці). Яго хавалі, як і ўсіх вязняў, «паводле інструкцыі»:

*До погребения дежурный конвоир (вахтёр) должен был «совершить над умершим экспертизу»: если у покойника золотые зубы, их выламывали и направляли в администрацию, разбивали череп деревянным молотком и протыкали грудь штыком или раскалённым металлическим прутом в области сердца для предотвращения побега. Лишь после этого покойник считался мёртвым. Затем к большому пальцу правой ноги мертвеца привязывали бирку, на которой был записан простым карандашом личного дела,*

*ФИО, статья и дата смерти. Тот же наносился на колышке «на месте погребения» около зоны*[17].

Перыяд гулагаўскага жыцця архім. Андрэя Цікоты яшчэ глыбока не вывучаны. Некаторыя яго моманты знайшлі сваё адлюстраванне ва ўспамінах яго сучаснікаў[18], а таксама тых сведкаў, якія дзялілі з ім лагерныя нары[19]. Іх дапаўняюць архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў супольнасці сясцёр эўхарыстак у Польшчы.



Магілы вязняў «Озерлага». Тайшэцкі раён, Іркуцкая вобласць. Архіў сайта «Віртуальная энцыклапедыя ГУЛАГу».

Увесну 1950 г. у часе знаходжання ў ГУЛАГу архім. Андрэй змог наладзіць пісьмовы кантакт з сёстрамі эўхарысткамі з Друі. Перапіска працягвалася з сакавіка 1950 да студзеня 1952 года. У архіве сясцёр эўхарыстак у Прушкове (пад Варшавай) захоўваюцца 8 лістоў архім. А. Цікоты, перададзеных былой настаяцельніцай сястрой Апалоніяй Пяткун з Друі. На жаль, пакуль застаецца невядомым лёс і змест апошняга ліста архім. Андрэя, які датуецца студзенем 1952 года[20].

У лістах да сястры Апалоніі Пяткун ён не толькі расказваў пра свой побыт, але стараўся падтрымаць яе, даваў парады, як сёстрам весці місійную дзейнасць у варунках антырэлігійнай палітыкі савецкіх уладаў.

Не пра ўсё архім. Андрэй мог напісаць — існавала жорсткая лагерная цэнзура. Яна магла не толькі не прапусціць «крамольныя» лісты на волю, але і пакараць іх аўтара за «паклёп» на савецкую ўладу.

Лісты архім. Андрэя Цікоты з савецкіх лагераў у Сібіры — не проста дакумент эпохі. Яны — сведчанне глыбокай веры, моцы духу і самога беларускага святара, і ўсіх тых, хто яго падтрымліваў.

У пажоўклых ад часу лістах архім. Андрэя Цікоты, між радкамі — не толькі боль, фізічныя пакуты і цярпенне, але перадусім — малітва і нязломная вера.

*Юрась Гарбінскі*

*Здымкі і фотакопіі дакументаў, прадстаўленых др. Ю. Гарбінскім, зроблены даследчыкам з арыгіналаў, якія захоўваюцца ў Генеральным архіве Ордэну айцоў марыянаў у Рыме і ў архіве супольнасці сясцёр эўхарыстак у Прушкове (пад Варшавай).*

---

[1] Тэчка «archim. Andreas Cikota» (AGM, Roma); гл. таксама: а. Я. Германовіч, «Кітай-Сібір-Масква», Мюнхен, 1962.
[2] Тэчка «archim. Andreas Cikota» (AGM, Roma).
[3] Афанасов О.В. Документы об истории Озёрного лагеря в Иркутской области (1948–1963) // Сибирская ссылка: Сборник научных статей. Иркутск: Изд-во «Оттиск», 2003. – Вып. 2(14). – С.63–82.
[4] Афанасов О. В., тамсама.
[5] Афанасов О. В., тамсама.
[6] Селезнёв Е. С., Селезнёва Т. А., Лагерное прошлое Тайшета (из серии «Тайшет – город, рожденный Транссибом»), Иркутск, 2005.
[7] Тамсама.
[8] Тамсама.
[9] Тамсама.
[10] Мухин Л., сб. «Озерлаг: как это было», Иркутск, 1992.
[11] Селезнёв Е. С., Селезнёва Т. А., Лагерное прошлое Тайшета (из серии «Тайшет – город, рожденный Транссибом»), Иркутск, 2005.
[12] Афанасов О. В., Особенности медицинского обслуживания заключенных в Озерном лагере (1948 – 1963) (у:) Учителя, ученики... (материалы региональной научно-теоретической конференции, посвященной 90-летию В. И. Дулова). – Иркутск: ИГПУ. – 2003. – Кн. 1. – С. 23–27.
[13] Пялінак В., а. архимандрит Андрей Цикото (MIC) (у:) http://www.catholicmartyrs.org/public/cicotoarticle.html
[14] Германовіч Я., «Кітай-Сібір-Масква», Мюнхен 1962, с. 15.
[15] Viedamki da bijahrafii a. Andreja Cikoty..., «Znič», 113, Rym 1972, b. 6.
[16] «Акт» смерці архім. А. Цікоты абнародаваны Апостальскім візітатарам архім. С. Гаекам 8 лютага 2012 г. у Генеральным доме Ордэну айцоў марыянаў у Рыме.
[17] Воспоминания А. Манината, (у:) Мухін Л., сб. «Озерлаг: как это было», Іркутск, 1992, с. 155.
[18] Германовіч Я., «Кітай-Сібір-Масква», Мюнхен 1962, с. 15.
[19] Viedamki da bijahrafii a. Andreja Cikoty..., «Znič», 113, Rym 1972, b. 6.
[20] Ліст Ю. Кадзішэўскай з Друі ў МУС СССР у справе пошукаў звестак пра архім. А. Цікоту ад 14 ліпеня 1953 года (Архіў супольнасці сясцёр эўхарыстак у Прушкове, Польшча.)

---

**Юрась ГАРБІНСКІ** – літаратуразнавец, гісторык і культуролаг, доктар габілітаваны гуманітарных навук. Нарадзіўся 7 сакавіка 1963 года ў мястэчку Камаі на Пастаўшчыне. У 1984 годзе скончыў філалагічны факультэт Мінскага педінстытута ім. А. М. Горкага.

Даследуе беларускі хрысціянскі рух XX стагоддзя (у тым ліку рэлігійнае і культурнае жыццё беларускай дыяспары ў Заходняй Еўропе, Аўстраліі, ЗША і Канадзе); займаецца праблематыкай, звязанай з беларуска-польскімі, беларуска-габрэйскімі і беларуска-нямецкімі літаратурнымі і культурнымі ўзаемасувязямі XIX – XX стст., а таксама творчасцю Алеся Гаруна, Янкі Купалы, Адама М – скага (Зосі Манькоўскай), Уладзіміра Самойлы, Ізі Харыка.

Аўтар кніг «Вяртання маўклівая споведзь: Творцы беларускай гісторыі ў кантэксце часу» (Мінск, 1994, у сааўтарстве з А. Бяляцкім, У. Конанам і інш.); «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: жыццярысы, мартыралогія, успаміны» (Мінск – Мюнхен, 1999); "**Białoruski ruch chrześcijański XX wieku**" (Варшава, 2003, у сааўтарстве з др. Ю. Туронкам); «Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: перыёдыка і графічныя друкі» (Нью-Ёрк – Варшава, 2009).

# Лісты а. архім. Андрэя Цікоты з савецкіх лагераў прымусовай працы ў Сібіры

**1**

[Чукша], 12.III.[19]50.

Дарагая Лізавета [Варонька, сястра эўхарыстка з Друі]!

Шлю табе і ўсім нашым родным [айцам марыянам і сёстрам эўхарысткам з Друі] ды знаёмым прывітанне з далёкай Сібіры. Віншую ўсіх вас з надыходзячым святам Вялікадня ды жадаю вам духоўнага і матэрыяльнага дабрабыту.

Не ведаю, хто з вас жыве і дзе знаходзіцца. Першы свой ліст высылаю на Пруднікі. Спадзяюся, што вам яго перададуць. З нецярпеннем буду чакаць ад вас вестак. Напішыце, хто жывы з братоў і сясцёр [айцоў марыянаў і сясцёр эўхарыстак] і дзе знаходзіцца. Прайшло ўжо больш за 12 гадоў з таго часу, калі я быў дома [у Друі]. Але кожны дзень пра вас згадваю і не забуду да самай смерці.

З папярэдняга месца нашага побыту [Харбіну ў Маньчжурыі] перавезлі нас 27.XII.48 года ў горад Чыту. А ў месяцы лістападзе 1949-га, пасля разгляду справы, накіравалі ў працоўны лагер. Як і ў Чыце, так і цяпер тут, у лагеры, начальства адносіцца да нас вельмі добра. Умовы для жыцця не настолькі цяжкія, як магло здавацца напачатку. Толькі з харчаваннем праблемы — яго недастаткова. З гэтай прычыны шмат хто атрымоўвае пасылкі і падтрымку з дому. Зрэшты, усё залежыць ад мясцовых умоваў, а таксама ад характару і прадуктыўнасці працы. Я, у прыватнасці, да сённяшняга часу лагернага жыцця, можна сказаць, не ведаю і нідзе яшчэ пакуль не працаваў, бо з месяца студзеня 1950 года знаходжуся ў бальніцы з прычыны парока сэрца (міякардыт) і частковай аслабленасці арганізма (дыстрафія і пачаткі цынгі). Здароўе маё паступова паляпшаецца. Клопат і адносіны ўрачоў добрыя.

У ежы тут, на жаль, вельмі мала тлушчаў, але я дзякую Богу і за тое, што атрымоўваю. Пустэльнікі і таго не мелі, але адчувалі сябе выдатна. Духоўна я адчуваю сябе добра, ды і фізічна таксама нядрэнна.

Калі ў вас будзе магчымасць, прышліце, калі ласка, хоць 300 ці 400 грамаў разынак ды сухароў з сапраўднай пшанічнай мукі[1]. Гэта патрэбна для майго здароўя. Іншых рэчаў не прашу, бо не ведаю, у якіх умовах Вы жывеце самі. Напішыце, дзе цяпер Гай Бальбіноўскі [кс. Язэп Гайлевіч з Бальбінава].

Яшчэ раз шлю вам найлепшыя пажаданні і прашу перадаць маё прывітанне для родных і знаёмых, а таксама, калі жывыя, Юліі, Феліцыі, Станіславу і Язэпу Бабар[ыкам] і іншым.

Прывітанне вам перадаюць Язэп Германовіч і Тамаш Падзява[2]. Станіслаў Баговіч [брат марыянін, якога не арыштавалі ў Харбіне] застаўся на месцы.

Шчыра любячы і адданы вам у Хрысце
Андрэй Цікота.

[P.S.] Лісты пісаць трэба па-руску.

[1] Архім. А. Цікота меў намер у лагеры таемна цэлебраваць св. Імшу: з разынак планаваў зрабіць віно, а з сухароў — камунікаты.
[2] Беларускія айцы марыяне, якія разам з архім. А. Цікотам былі арыштаваны ў Харбіне.

**2**

[Чукша], 14.VII.[19]50.

Дарагая сястра Апалонія [Пяткун, маці настаяцельніца сясцёр эўхарыстак у Друі]!

Абодва твае лісты ад 21 і 22.IV. атрымаў 3 ліпеня і ад шчырага сэрца за гэтыя лісты, клопат і малітвы за мяне вельмі ўдзячны.

Перачытваючы лісты, я ў думках бачыў усіх маіх знаёмых і родных і вельмі рады, што пасля доўгіх гадоў пра мяне не забыліся. Не забываў і не забуду і я вас усіх — вы ў маіх думках і ў маіх малітвах.

Я рады, што вы не пакінулі бацькаўшчыны[3] і што актыўна і дзейна працуеце для агульнага дабра сваіх братоў. Табе хачу парадзіць: не бойся сваёй пасады і сваіх абавязкаў[4]. Выконвай іх стойка, з верай у дапамогу Бога. За памерлых буду маліцца.

Першую пасылку я атрымаў ад Франца Рачыцкага з Пруднікаў, 2-ю — ад Стэфаніі Пупін таксама з Пруднікаў, 3-ю ад Станіславы Рачыцкай з Бабарыкаў з прывітаннем ад калгас. імя Фрунзе. Пасылкі прыйшлі цэлымі. Першыя дзве — 30.IV.[1950], а трэцяя — на пачатку ліпеня, ужо на новае месца майго побыту. За ўсе пасылкі і ўсё тое, што ў іх паклалі добрыя, клапатлівыя рукі, пасылаю ўсім глыбокую ўдзячнасць, асабліва

тым, хто іх рыхтаваў і высылаў.

Хацеў бы ўсім асобна напісаць, але на год магу высылаць толькі два лісты, а гэты ліст якраз і ёсць другім у гэтым годзе. Таму прашу перадаць ад мяне шчырую ўдзячнасць усім маім дабрадзеям.

Карыстаючыся Вашай дабрынёй і дэкларацыяй, што будзеце падтрымоўваць маё здароўе, прашу менш-больш рэгуляваць пасылкі па адной ці дзве на месяц. Але калі яны абцяжарваюць вас ці іншых людзей, настойліва прашу не высылаць іх зусім ці высылаць толькі зрэдку.

З адзежы, калі ласка, прышліце: цёплыя, вязаныя з шэрсці рукавіцы без пальцаў; калі магчыма, абшытыя скурай шарсцяныя шкарпэткі, ручнік і пару насовак. Адносна прадуктаў — усё, што прыслалі, было вельмі карысным: і смачныя сухары, і сырнікі, і лапша (макароны). Але мне асабліва патрэбныя сухары і цукар, якія важны для падтрымкі сэрца, а таксама цыбуля і больш за ўсё часнок. У 3-й пасылцы былі грошы — 25 рублёў. Грошы, безумоўна, не пашкодзяць, але іх прашу больш не прысылаць. Калі будуць грошы, то за іх лепш купіце цукар і табаку. Не трывожцеся, што я прашу прыслаць табаку. Сам я не куру і спадзяюся, што ніколі не буду курыць. Але іншыя кураць. І таму да кожнага, хто атрымоўвае пасылку, курцы прыходзяць і просяць закурыць. Ім вельмі цяжка, калі ў іх няма табакі. Калі ў вас будзе магчымасць, дасылайце па пару пачак. А калі магчыма, то больш сярэдняй махоркі і самасаду (толькі дробна пасекчы), тры-чатыры пачкі папяросаў «Спорт» ці штосьці падобнае. Сухароў з чыстай пшанічнай мукі мне хопіць да верасня. Прашу пра іх не забываць і прыслаць на верасень ягады таксама. Яны вельмі карысныя для майго здароўя[5].

Я не быў спаралізаваным, але ўжо дзесяць гадоў пакутую ад тромбафлебіту (закупоркі венаў) на левай назе. Гэта нярэдка бывае прычынай высокай тэмпературы і моцнага парока сэрца. Адсюль у мяне ацёкі ног і твару. Але духам я адчуваю сябе добра і ніколі яшчэ не сумаваў і асабліва ні чым не пераймаўся. З Язэпам [Германовічам] і Тамашам [Падзявам] мы жылі разам да 19.I.50. Спадзяюся, што яны і самі напішуць.

Перадайце прывітанні ўсім: Баляславу [Зайцу, ксяндзу], Станіславу [Багуцкаму ?], Язэпу Скур'яту [брату марыяніну], усім вашым у Друі ды іншых месцах і ўсім дабрадзеям. Помню пра ўсіх і малюся за ўсіх.

Ваш у Хрысце душою і сэрцам
А. Цікота.

[P.S.] Пішыце і надалей. Вашыя лісты нам перадаюць.

Адрас: Иркутская обл., Алзамайский р-н, п.от. Чукша, п/я 215/1-040.

[3] Частка сясцёр эўхарыстак з Друі засталася ў Беларусі і не выехала ў Польшчу.
[4] Сястра Апалонія Пяткун была прызначана настаяцельніцай сясцёр эўхарыстак, якія засталіся ў Друі.
[5] У лагеры а. Цікота, па ўсім відаць, пэрыядычна цэлебраваў св. Імшу, што падтрымоўвала на духу і яго самога, і вязняў.

**3**

[Чукша], 4.X.[19]50 г.

Дарагая Апалонія!

29.VIII. я атрымаў твой ліст ад 12.V.; 11.IX. прыйшла пасылка з Друі ад імя Масло [сястра эўхарыстка Аляксандра Масло], выслан[ая] 28.VIII.; 26.IX — твой ліст ад 25.VIII. За лісты і за пасылку, якая прыйшла ў поўнай захаванасці, выказваю вам глыбокую ўдзячнасць і прашу Усемагутнага ўзнагародзіць вас за мяне.

Лісты твае адначасна засмуцілі мяне і парадавалі. Засмуцілі ўчынкі Л., Ю. і Бал.[6], смерць Агнежкі Кач[аноўскай], выпадак з Фэлем [асоба не ўстаноўлена] і іншыя вашыя цяжкасці. Але мужнасць і надзея, з якімі вы ўсё гэта пераносіце, глыбока мяне радуюць.

Калі я чытаў імёны і прозвішчы ўсіх маіх старых знаёмых, мне здавалася, што я па-ранейшаму сярод вас і што маладое пакаленне, якога я ўжо не ведаю, будзе не менш актыўна-дзейным і разам з вамі прынясе немалую карысць Бацькаўшчыне і нашым людзям прыкладам сваёй працалюбівасці, шчырасці і вернасці пры выкананні сваіх абавязкаў.

29.VIII. я атрымаў ліст з Бабарыкаў, які напісала Станіслава Л. [асоба не ўстаноўлена] 16.V. Яны пішуць, што таго самага дня выслалі пасылку і пытаюцца, што мне асабліва патрэбна з прадуктаў ці адзежы і абяцаюць сваю дапамогу. Адну іх пасылку я атрымаў 4.VI. і думаю, што гэта якраз тая, пра якую яны пішуць і пра якую я напісаў 14.VII. Другой пасылкі я ад іх не атрымоўваў. Прашу перадаць ім маю глыбокую ўдзячнасць і растлумачыць ім, чаму я не пішу да іх асобна. А яшчэ скажы, што я разам з імі і радуюся, і смуткую, малюся за памерлых, асабліва за тых, пра смерць якіх даведаўся з ліста. Прашу благаслаўлення для тых, хто жыве, і радуюся іх дружнай працы ў іх калгасе [парафіі]. Растлумачце ім, калі ласка, таксама і адносна пасылак. У нашых умовах жыцця і макароны, і сухары, і кашы прыдадуцца. Але, як я вам ужо пісаў, тлушчы, цукар і часнок патрэбныя насамаперш, чым што-кольвек з іншых прадуктаў. Грошы таксама не змарнуюцца. І тыя 25 руб., таксама як і вашыя 10 руб., я выкарыстаў належным чынам. Але за грошы лепшы купіць і прыслаць цукар. Нядрэнна, калі ў вас


12.III.50.

Дорогая с. Елисавета,

Посылаю Тебе и всем нашим родственникам и знакомым привет из далёкой Сибири, поздравляю Вас всех с наступающим праздником Святой Пасхи и желаю Вам всяких духовных и материальных благ. Не знал, кто из Вас жив и где находится, посылаю первое свое письмо на Трудники, надеясь, что Вам его передадут. С нетерпением буду ждать от Вас известий. Напишите, кто жив из братьев и сестер и где находятся? Уже более 12 лет прошло с того времени, когда я был дома, но я каждый день о Вас вспоминаю и не забуду до смерти.

Из места нашего пребывания нас привезли в гор. Читу 27.XII.48 г. а в ноябре месяце 1949 после разбора дела направили нас в трудовой лагерь. Как в Чите так и теперь в лагере начальство относилось к нам довольно хорошо, условия жизни не так трудные, как могло бы казаться, только питание не вполне достаточное и можно получать посылки и подкрепление из дому. Впрочем и это зависит от местных условий и рода и продуктивности труда. Я досих пор лагерной жизни еще можно сказать не знаю и нигде не работал, ибо с января месяца 1950 г. нахожусь в больнице по причине порока сердца (миокардит) и некоторого истощения (дистрофия и начало цинги). Здоровье мое медленно но постепенно улучшается. Отношение и заботливость врачей хорошие. В питании мало жиров – но я благодарю Бога и за то, что получаю. Пустынники и того не имели, а чувствовали себя прекрасно. Духовно и я чувствую себя, мало сказать, хорошо и физически тоже не плохо. Если у Вас будет возможность пришлите хоть 300 или 400 грамм изюму (родзинки) и сухарей из настоящей пшеничной муки. Это нужно для моего здоровья. Других вещей не прошу, ибо не знаю в каких условиях находитесь Вы сами. Напишите, где сейчас живет Гай Пальвинский.

Еще раз посылаю Вам наилучшие пожелания и прошу передать мой привет родным и знакомым и семье живых Юлии, Фелиции, Станиславу и Иосифу Бабар и другим.

Посылают Вам привет Иосиф Германович и Дама Подзява. Гоголин Станислав остался на месте.

Искренне любящий и преданный Вам о Христе

Андрей Цикото.

Письма надо писать по-русски.

Адзін з першых лістоў а. архім. А. Цікоты з савецкага лагеру пад Тайшэтам да сясцёр эўхарыстак у Друі (Чунка, Іркуцкая вобласць, 12 сакавіка 1950 г.).

будзе магчымасць набыць і прыслаць кандэнсаванае ці сухое, у парашку, малако, крыху вітамінаў, а для маіх сужыцеляў трохі папяросаў і табакі, гэтак, як Вы зрабілі ў апошняй пасылцы. Яшчэ раз хачу падкрэсліць — занадта сябе не абцяжарвайце і прысылайце што-кольвек толькі калі будзе магчымасць. Адзежа тут даецца, і я таксама пакуль маю нядрэнную.

Але аб адным мушу вас асабліва папрасіць. У мяне вельмі кепска з зубамі. Сваіх засталося няшмат, а ўстаўныя (пратэзы) — зламаліся. Зубны ўрач абяцаў зрабіць новыя пратэзы, але для гэтага трэба за свой кошт набыць адпаведныя матэрыялы. Патрэбныя наступныя рэчы: 1) пластмаса для базісаў з'ёмных пратэзаў; 2) адна каробка зубатэхнічнага воску; 3) 10 сталёвых гільзаў для каронак; 4) адна порцыя цэменту. Тут купіць усё гэта немагчыма. Баюся, што і ў Друі будзе таксама няпроста ўсё гэта набыць. Але думаю, што ў Браславе ўсе гэтыя матэрыялы можна будзе знайсці. Спадзяюся, што ў гэтым дапаможа вам Леў[ша, доктар], якому перадайце ад мяне прывітанне і скажыце, што я пра яго і сутаварышаў яго пастаянна памятаю і жадаю ім поспехаў у жыцці і працы. Справа гэтая досыць пільная, бо мяне могуць перавесці ў іншае месца, дзе можа не быць зубнога ўрача. Матэрыялы найлепш высылайце ў агульнай пасылцы разам з іншымі прадуктамі. Урач мне сказаў, што ўсё гэта будзе каштаваць да 50 руб., але я баюся, каб не было значна даражэй. Пазначце кошт кожнага матэрыялу. Ён мне будзе патрэбны для арыентацыі.

Вы мне прыслалі вітамін А. Вялікі дзякуй. Але мне больш патрэбны вітамін С або сумесь ВС. Калі ў вас будзе магчымасць яго прыслаць, то звярніце ўвагу на ўпакоўку. Ён (вітамін) часам бывае ў каробачках з пластмасы або цэлулоіда з завінчанай крышкай. Мне прыдалася б маленькая каробачка накшталт пудраніцы. Але пудраніца не падыйдзе. Ні шкляных, ні каробачак з жэсці мы тут не трымаем.

У наступнай пасылцы не забудзьце, калі ласка, пра сшыткі, канверты (4-5), паштовую марку і аловак. Калі зможаце, даведайцеся і напішыце мне адрас маіх сваякоў [айцоў марыянаў] летувісаў з Вільнюса (Вільня). Думаю, што яны жывуць у нашым доме на былой Зыгмунтоўскай (на Набярэжнай) каля мосту. На жаль, я забыў нумар дому, не ведаю, як называецца цяпер вуліца і хто з іх там жыве. Спадзяюся, што Ст. [Багуцкі] зможа вам даць адказы на гэтыя пытанні.

27.IX. я атрымаў ліст ад пляменніцы Ал[ьжбэты] Падзявы ад 23.VII. Мне складана даць ёй і вам якую-кольвек параду, бо я яе не ведаю блізка. Калі бачыў яе, яна тады была яшчэ малечай. Са зместу ліста адчуваю, што яе жаданні выглядаюць шчырымі і, магчыма, варта было б іх задаволіць. Найлепш яе ведаюць тыя, хто з ёй жыве і яе добра ведае. Яны павінны паступіць паводле свайго сумлення. Перадайце ёй, што за яе малюся асабліва і раю кожнае рашэнне прыняць спакойна, падпарадкоўваючыся найвышэйшай волі. Важна дасягнуць мэты, да якой можна імкнуцца і ісці рознымі шляхамі. Пройдзены жыццёвы шлях не павінен успрымацца ці лічыцца страчаным, а хутчэй служыць кірункам для будучага жыцця.

Фотаздымкаў і марак, якія яна дасылала, у лісце не было. Магчыма, выпалі. Маркі трэба прысылаць у пасылках.

Бабарыкі пытаюцца пра адрас Тамаша [Падзявы]. Ён мне невядомы. Я з ім сустракаўся ў снежні мінулага года.

Цяпер знаходжуся ў бальніцы, дзе мне зрабілі аперацыю карбункула.

Аперацыя была няцяжкая і нястрашная. Рана зажывае нармальна. Сілы, дзякуючы вашай дапамозе і клопату ўрачоў, вяртаюцца і падмацоўваюцца. Фізічна сябе адчуваю някепска, а духова — добра.

Перадайце маё прывітанне Станіславу [Багуцкаму ?], Іосіфу [Скур'яту], Баляславу [ксяндзу Баляславу Зайцу], Бабарыкам і іншым маім дабрадзеям, але асабліва ўсім вашым і маім родным [сёстрам эўхарысткам і айцам марыянам].

Для ўсіх прашу благаслаўлення Усемагутнага і шлю маё благаслаўленне.

Шчыра адданы вам
Андрэй.

[P.S.] Сёння, 4.X.50., прыйшла ў поўнай захаванасці пасылка з Браслава ад імя Юдыты Шкляневіч. Мяркую, што яна была выслана з вашай ініцыятывы. Перадаю вам і тым, хто прыслаў пасылку, глыбокую ўдзячнасць.

А. Ц.

[6] Маецца на ўвазе арышт кс. Люцыяна Паўліка і кс. Юзафа Францкевіча, а таксама патрэба кс. Баляслава Зайца хавацца ад савецкіх уладаў.

**4**

[Чукша], 5.1. [19]51.

Дарагая с. Апалонія!

Не ведаю, як табе і ўсім маім дабрадзеям аддзячыць за вашыя клопаты пра мяне недастойнага. Пасля майго апошняга ліста ад паловы кастрычніка я атрымаў ад вас ужо чатыры новыя пасылкі: 28.X. — ад імя Пабыцькі Ганны, у якой акрамя прадуктаў былі дзве пары добрых шарсцяных рукавіцаў і пара такіх жа шкарпэтак; 17.XI. — ад імя Пупін Казіміры, у якой была пара добрых рукавіцаў і ручнік; 20.XII — таксама ад імя Пупін Казіміры, у якой быў матэрыял для зубных пратэзаў і твой ліст ад 30.XI.; і нарэшце 4.I. 51 — ад імя Віршуты Ядвігі [сястры эўхарысткі Яніны Віршуты], у якой акрамя сала і цукру, часнаку і папяросаў быў прысланы цэмент для зубоў. Усе чатыры пасылкі прыйшлі цэлымі.

Шчыра і глыбока ўдзячны табе, усім тваім і маім знаёмым ды іншым дабрадзеям за ўсё, што ў пасылках ад вас атрымоўваю. Дзякуючы вашым



Апошні здымак а. архім. А. Цікоты з ГУЛАГу (Чыта, 1948/49 ?).

пасылкам маё здароўе і сілы значна ўмацаваліся. Матэрыял, які прыслалі для зубоў, калі апошнія будуць зроблены, спадзяюся, таксама паслужыць умацаванню майго здароўя. Асабліва я вам удзячны за ягады, якія мне вельмі дапамагаюць. Я карыстаюся імі амаль штодзённа, але вельмі ашчадна[7]. І мяркую, што іх хопіць да канца сакавіка.

Прысланы аплатак вельмі мяне ўзрадаваў. Я дзяліўся ім з іншымі 24.XII і яшчэ буду дзяліцца 6.I. з тымі, хто святкуе па старым стылі, з якімі і я святкую, хоць маліўся і святкаваў разам з вамі. Таксама глыбока мяне кранула ваша памяць пра мяне 30.XI. [дзень св. Андрэя — імяніны архім. А. Цікоты]. Я вельмі вам удзячны за ўсе вашыя пажаданні, малітвы і клопаты, прынесеныя Усемагутнаму ў дачыненні да мяне недастойнага.

За ўсе вашыя клопаты пра мяне магу толькі штодзённа маліцца за вас жывых і за ўсіх вашых блізкіх памерлых. Мае найлепшыя пажаданні для вас, асабліва на гэты Новы год, хачу несці Усемагутнаму, што і раблю. Вельмі прашу цябе пры першай магчымасці перадаць гэтую маю ўдзячнасць усім маім дабрадзеям.

Стан маёй нагі, на жаль, не паляпшаецца. У мінулым 1950 годзе шэсць разоў паўтараўся тромбафлебіт (запаленне венаў) і тэмпература сягала іншы раз пад 40°. Дзякуючы медыкаментам тэмпература цела хутка ападала, але мясцовае запаленне доўжылася цэлымі тыднямі. Хвароба гэтая не такая ўжо і цяжкая. Асабліва, калі ляжыш, болю бадай што і не адчуваеш. Але ўся небяспека схаваная ў тым, што тромб можа дайсці да сэрца і

тады настае імгненная смерць. Але ж да такога зыходу ўсе мы павінны быць гатовыя, бо з тых ці іншых прычынаў ён чакае ўсіх нас. Я думаю пра яго не толькі спакойна, але нават з радасцю, і толькі прашу Усемагутнага, каб гэты зыход быў згодны з Яго воляю. Другая нага таксама ацякае, але непараўнальна менш за хворую. Гэта сведчыць пра слабасць сэрца. Агульны стан здароўя за апошнія чатыры месяцы, дзякуючы вашым клопатам, значна палепшыўся і ўмацаваўся. І калі будзе Божая воля, то з тромбафлебітам і ацёкамі ног можна доўга жыць. Малюся Богу, каб я быў заўсёды гатовы і да аднаго і да другога. У маіх умовах правесці лячэнне, пра якое ты пісала, амаль немагчыма. Хоць вялася размова пра аперацыю і мяне тут лечаць па меры магчымасці, аперацыі, аднак, пакуль што рабіць не збіраюцца.

Прашу ў наступнай пасылцы прыслаць крыху пшанічных сухароў [размова ідзе пра імшальныя камунікаты]. Сухары, якія былі прысланыя 20.XII., аказаліся занадта цвёрдымі. Дзве першыя партыі былі вельмі добрыя — лёгка ламаліся і таялі ў роце без размочвання. А гэты перасушаны хлеб з апошняй пасылкі, відаць, слаба падняўся, і склалася ўражанне, што ў ім ёсць нейкая здоба (масла?). Важна, каб хлеб быў без усялякіх дамешкаў, здобы і добра падняўся, тады сухары лёгка ламаюцца і таюць без размочвання, што мае істотнае значэнне для здароўя[8].

Вельмі вам удзячны за вітаміны і за каробку з пластмасы[9]. Яна мне, безумоўна, прыдасца. Але каробка патрэбная значна меншых памераў. Калі дзе ўбачыце такую маленькую — прышліце. Зрэшты, гэта не так пільна. Вітаміны можна прысылаць у той упакоўцы, у якой яны прадаюцца, хоць бы нават і ў шкляных бутэлечках. Мы тут не захоўваем пры сабе шклянога і жасцянога посуду, калі ён пусты. Але прысылаць прадукты можна і ў посудзе з жэсці (напрыклад, масла Юдыта прыслала ў жасцяным посудзе, і я атрымаў яго цалкам).

Дарэчы, Варонька Ганна, сястра Альжбэты, прыслала мне ліст ад апошняй.

Прашу ад мяне падзякаваць Альжбэце за гэты ліст, бо адказаць ёй непасрэдна з вядомых прычынаў не магу. З тымі, хто выехаў у Польшчу, мы можам перапісвацца толькі праз вас. Я ўдзячны Ганне за яе дапамогу і добрыя пажаданні.

З прысланых вамі канвертаў і марак засталася толькі адна, якую цяпер, з гэтым лістом да вас, і выкарыстоўваю. Астатнія давялося даць сутаварышам. Не забудзьце, калі ласка, у наступнай пасылцы зноў даслаць пару канвертаў і маркі. Вялікі дзякуй за сшытак і аловак. Ліст гэты пасылаю, карыстаючыся аказіяй. У сваім адказе не трэба пісаць, як вы яго атрымалі[10].

Мой адрас пакуль што стары: п/я <u>215/1-040</u>.

Усім шлю шчырае прывітанне і прашу благаслаўлення Усемагутнага.

Ваш усім сэрцам
Андрэй.

P.S. Не забудзьце ў наступным лісце напісаць, калі ў гэтым 1951 годзе будзе Вялікдзень, як па новым стылі — <u>каталіцкім абрадзе, так і па старым усходнім абрадзе, які святкуем у адзін час з праваслаўнымі</u>.

[7] Падобна, што а. А. Цікота цэлебраваў св. Імшу штодня.
[8] Такім чынам архім. А. Цікота гаварыў, што сухары з дамешкам масла не зможа выкарыстоўваць, бо гэта рабіла б св. Імшу несапраўднай.
[9] Размова ідзе пра каробку, у якой можна было б захоўваць Найсвяцейшы Сакрамэнт.
[10] Па ўсім відаць, што гэты ліст архім. А. Цікота выслаў, абмінаючы лагерную цэнзуру.

**5**

[Чукша], 20.IV. [19]51.

Дарагая сястра Апалонія!

Пасылаю новы адрас для <u>лістоў</u>:

Иркутская обл., Шиткинский р-н, п/о Ново-Чунка, п/я 215/2-040. Цикота Андрей Феликсович.

Для <u>пасылак</u> застаецца ранейшы адрас:

Иркутская обл., Алзамайский р-н, п/о Чукша, п/я 215/1-040. Цикота А. Ф.

Перадай гэтыя адрасы Бабарыкам ды іншым зацікаўленым.

Атрымаў пасылкі[:] 1.III з Бабарыкаў; 4.IV. ад вас і 15.IV. з Ярмолава і лісты твае ад 28.II. і 13.III. і ад Лісоўскай С. А. ад 19.II.

За ўсё глыбокая ўдзячнасць усім. Малюся за ўсіх.

Ваш усім сэрцам
Андрэй.

**6**

[Нова-Чунка], 1 мая 1951.

Дарагая с. Апалонія!

Пасля майго апошняга ліста я атрымаў: 1.III.51. — пасылку з Бабар[ыкаў] і ліст ад Стэф. Ліс[оўскай]; 4.IV.51 — пасылку ад вас і ў розны час два тваіх лісты ад 28.II. і 13.III, і, нарэшце, 15.IV. — пасылку ад ярмолаўскіх калгаснікаў [парафіянаў] ад імя А. Варонькі. За ўсе пасылкі, велікодныя віншаванні, і асабліва за вашыя клопаты і малітвы, выказваю вам і ўсім маім дабрадзеям

глыбокую ўдзячнасць і прашу перадаць яе Бабарыкам і Ярмолаву.

Ты просіш, каб я маліўся за вас. Але ж гэта мой прамы абавязак. Я памятаю пра вас і пра ўсіх маіх друйскіх парафіянаў у часе ўсіх маіх малітваў. І гэтак раблю нязменна яшчэ з часоў майго ад'езду з Друі, а тым больш цяпер, калі вы сталіся маімі дабрадзеямі.

Асабліва памятаў пра вас 10.III. і 25.III. і спадзяюся, што ваш адпачынак прайшоў добра, без асаблівых клопатаў[11]. Цешуся разам з вамі за вашую моладзь і перакананы, што старэйшыя не будуць апошнімі. Я захоплены вашай самаахвярнасцю, калі чытаю пра Турмонты ці Краславу, саначкі і дарогу да Бальбінава і г.д. Адначасна вельмі непакоюся, што вы сябе крыўдзіце і не беражэце, каб толькі нам дапамагчы. Шчыра ўдзячны вам за ўсё, але трэба быць разважлівымі і не забываць, што вашыя сілы і сродкі абмежаваныя.

Я цешуся, што ты не губляеш унутранага спакою, і ўпэўнены, што калі не будзе каму даць добрую параду, то няхай шлях вам пакажа Той, Хто разумней за ўсіх. Лічу, што ты зрабіла правільна, калі вы 19.III. засталіся дома. Твае маюць рацыю, што цябе затрымалі. Мяне хвалюе лёс траіх тваіх знаёмых [асобы не ўстаноўлены], але маю надзею, што яны зноў жывуць з вамі.

Сухары вельмі добрыя — дзякуй вялікі. Мне іх цяпер хопіць надоўга.

Упакоўка пасылкі таксама была вельмі добрая. Масла не аддае покастам, і цукар не прамок. Шкада толькі, што вам не ўдалося знайсці ягадаў. Калі знойдзеце — прышліце. Тое, што прыслалі замест ягадаў, нядрэннае, але з ім многа валакіты. Перш за ўсё патрэбны дазвол урача. Гэтым разам усё прайшло спакойна. Глюкоза — добрая рэч, але купляць яе спецыяльна нявартa. Удзячны за прысланыя каробачкі — яны мне прыдаліся [маецца на ўвазе каробка для захоўвання Гостыі]. Вы распытваеце пра маю працу: працаваў яшчэ мала, ды і праца была па маіх сілах. Я ж — інвалід, а мой тэрмін зняволення такі ж, як І. ці Л.[12]. Да гэтага моманту я трымаюся нядрэнна, хоць і знаходжуся ў бальніцы. З-за карбункула мне рабілі на спіне аперацыю. Кажуць, што ўрачы баяліся за маё жыццё. Але я перанёс даволі лёгка і аперацыю, і перыяд выздараўлення. Ужо нават дапамагаў працаваць у канцылярыі і чакаў, калі мне зробяць зубныя пратэзы. На жаль, з 17.III. я зноў у ложку. У мяне выявілі востры радыкуліт і ішыяс, як у нас кажуць, — гэта востры боль паясніцы і сцёгнаў. У асабліва цяжкім стане знаходзіўся ад 17.III. да канца сакавіка. Цяпер ужо лягчэй, хоць не вельмі магу яшчэ сядзець і ледзь-ледзь рухаюся. Боль часткова перайшоў у правае плячо.

Чакаю сонейка. Спадзяюся, што яно мяне вылечыць. У нас пакуль яшчэ халаднавата, і таму мне на паветра выходзіць пакуль не дазваляюць.

Не саромейся, што ты яшчэ не навучылася правільна пісаць па-руску.

Ліст твой я добра разбіраю і ўсё разумею. Вельмі чакаю тваіх лістоў.

Я перакананы, што ты атрымала мой апошні кароткі ліст, у якім я даслаў новы свой адрас для лістоў. Для пасылак адрас застаецца ранейшы. Ярмолава і Бабарыкі на пасылках няправільна пішуць нумар паштовай скрынкі: 215/1-022, а трэба пісаць п/я 215/2-040, а ў астатнім для пасылак усё па-старому. Адрас для лістоў: Иркутская область, Шиткинский район, п/от. Ново-Чунка, п/я 215/2-040.

Не забудзьце ў пасылку пакласці яшчэ пару канвертаў і сшытак. Тыя, што вы прыслалі, зноў давялося раздаць тым, хто не меў.

Яшчэ раз удзячны вам за ўсё і прашу для вас Божага благаслаўлення.

Ваш усёй душой
а. Андрэй

P.S. Яшчэ раз прашу перадаць маю ўдзячнасць ўсім, Бабарыкам, Стэф., Лісоўс. і Ярмолаву, А. Вароньку.

[11] Верагодна, архім. А. Цікота меў на ўвазе рэлігійныя справы і дапамогу святарам-вязням, пра якіх Апалонія Пяткун як настаяцельніца сясцёр эўхарыстак пісала з Друі.

[12] Кс. Язэп Францкевіч і кс. Люцыян Паўлік таксама, як і архім. А. Цікота, атрымалі 25 гадоў лагераў.

**7**

[Нова-Чунка], 5 ліпеня [19]51 г.

Дарагая с. Апалонія!

На пачатку чэрвеня я атрымаў твой ліст, які ты пісала ў дарозе і за які я глыбока табе ўдзячны. Шкада, што дзядзька Антон [кс. дэкан Антон Зянкевіч з Глыбокага] так доўга хварэў, але маю надзею, што да гэтага часу ён ужо паправіў сваё здароўе. Пры нагодзе перадай яму ад мяне шчырае прывітанне. Я вельмі хацеў бы ведаць, дзе знаходзяцца Тамаш [Падзява] і Язэп [Германовіч]. Мы між сабою не перапісваемся. Шкада, што пасылкі да іх вярнуліся. Чакайце ад іх новых лістоў. Дзякую за вестку пра нашых родных [айцоў марыянаў і сясцёр эўхарыстак з Друі], якія выехалі ў Варшаву.

Гэта добра, што яны там жывуць і дастаткова някепска працуюць. Але вы вельмі добра зрабілі,

што засталіся на Бацькаўшчыне і працуеце сярод сваіх братоў і для сваіх братоў[13]. Місіі Яна і Веранікі[14] вельмі высокія, і Усемагутны дапаможа вам іх выканаць. І будзьце ўпэўнены, што Ён вас ніколі не [пакіне] і будзе вам найлепшым настаўнікам.

Хто драбнее, а хто расце, цяпер сказаць цяжка. Пра гэта не турбуйцеся. Важна, каб добра выканаць той абавязак, які нам дадзены. Тым сёстрам эўхарысткам з Беларусі, што выехалі [ў Польшчу], перадайце маё прывітанне і маё запэўненне, што я пра іх таксама помню і ў сваіх малітвах.

Пра пасылку А. Вароньскі я ўжо пісаў. Пасля майго апошняга ліста атрымаў: 30.V.51. — пасылку з Мінейтаў ад Юльяна Пушкеля; 25.VI.51 — адну з Друі ад М[агдалены] Мароз, другую з Бабарыкаў ад Пуніна Казіміра. Усе пасылкі прыйшлі цэлымі. Прыміце ад мяне глыбокую ўдзячнасць і перадайце яе разам са шчырым прывітаннем усім маім дабрадзеям. Яны, напэўна, ведаюць, што мне было б прыемна напісаць ім кожнаму паасобку. Але зрабіць гэта я не магу. Не забудзьце ні Бабарыкаў, ні Мінейтаў, ні Ярмолава, ні іншых.

Я вельмі ўдзячны за ўсё, што вы прыслалі: і за сала, і за каўбасу, а таксама за цукар і здобныя сухарыкі ці пячэнне, але асабліва — за ягады. Цяпер мне іх і сухароў хопіць надоўга, тым больш што цяпер карыстаюся імі досыць рэдка[15].

Удзячныя вам і мае сутаварышы, з якімі, разам жывучы, нельга не падзяліцца. І курцы дзякуюць вам за папяросы і табаку.

Дарагая Апалонія, я заўсёды баюся, што вы самі сябе не ашчаджаеце і шмат у чым сабе адмаўляеце, каб толькі нам дапамагчы. Будзьце разважлівымі і не крыўдзіце сябе.

Ты мне прапаноўвала ў адным з лістоў глюкозу. Гэта дае смеласць прасіць вас прыслаць мне хоць зрэдку адну ці дзве банačкі згушчонага малака замест глюкозы. Сала можна прысылаць менш, чым вы прысылаеце. Хоць я ім і так заўсёды карыстаўся асцярожна, але апошнім часам ужываю яшчэ менш. Пасля перанесенай высокай тэмпературы апетыт знік і змяніўся. Мне вельмі карысныя здобраныя сухарыкі, але толькі не вельмі тлустыя.

Хтосьці прыслаў на мой рахунак адзін раз — 400 руб., другі раз — 200 руб. Грошы прыйшлі праз фінансавы аддзел, і наша кантора не магла назваць мне адрасата. Калі ты ведаеш, хто гэта прыслаў, перадай ад мяне сардэчную ўдзячнасць і скажы, што наступным разам лепш няхай прышлюць харчы, хоць бы таго ж згушчонага малака ці банку згушчонай какавы і г. д.

З гэтых грошаў 200 руб. я запісаў на дзяржаўны займ, а іншыя 400 руб. пакуль ляжаць на маім рахунку, і не ведаю, калі змагу пачаць імі карыстацца.

Дарагая Апалонія, пра ўсё (малако, сухарыкі) пішу табе, каб ты ведала пра маё становішча і тое, што можна зрабіць без асаблівых цяжкасцяў, зрабіла.

Скажы пра гэта тым, каму можна. Іншыя няхай таксама пасылаюць, што могуць, бо ўсё спатрэбіцца. Безумоўна, без усяго гэтага можна абысціся і жыць, як жывяце вы ды многія іншыя. Можна таксама жыць, як жылі айцы ў пустыні. Можна жыць з чорным сухаром (свежага хлеба ем вельмі мала) і з вадой, а нам, акрамя хлеба, даюць належную нам ежу... Таму яшчэ раз прашу — не ўскладняйце сабе занадта жыццё.

Нядзелю паўтары таму я перанёс рожу твару ў вельмі цяжкой форме. Тэмпература была высокай на працягу некалькі дзён, і кажуць, што мяне цяжка было пазнаць. Цяпер усё прайшло: хвароба амаль не пакінула следу. Вось толькі апетыт і страўнік яшчэ працуюць не так, як трэба. У агульным плане здароўе маё ў такім стане, пра які я вам пісаў у маім апошнім лісце. Хадзіць пакуль што не магу, сяджу з вялікімі цяжкасцямі. Але калі ляжу, то цяжкасцяў і болю амаль няма. Урачы запэўніваюць, што ўсё будзе добра. Але я маю чамусьці іншае прадчуванне: спадзяюся выключна на Усемагутнага і падуладны Яго волі.

Нешта я занадта многа распісаўся пра розныя харчы і сваё здароўе. Нават сорамна стала, бо разумею, што ў вас і сваіх клопатаў ды праблемаў хапае і без мяне. Хоць ты і пісала ў адным з лістоў, што вы пераcталі хварэць, але, думаю, і ў вас без хваробаў не абыходзіцца.

Малюся за вас і за ўсіх парафіянаў ды за маіх дабрадзеяў штодня. Як толькі ўмею, прашу Бога, каб Ён дапамагаў вам ва ўсіх вашых клопатах і праблемах і добрых вашых справах.

Ваш усім сэрцам у Хр[ысце]
Андрэй.

Новы адрас для лістоў і пасылак:
Иркутская обл., гор. Тайшет, п/о Ново-Чунка, п/я 215/2-038.

P.S. Маё прозвішча заўсёды пішацца праз літару «Ц»: Цікота. Мянейты напісалі «Тикота», і з гэтай прычыны была невялікая валакіта, а іншым разам пасылку наогул могуць вярнуць.

[13] Архім. А. Цікота быў задаволены, што частка сясцёр эўхарыстак засталася на Беларусі і па-ранейшаму вяла місійную працы сярод беларусаў.
[14] Рэлігійную дзейнасць сясцёр эўхарыстак ён прыраўноўвае да апекі св. Яна над Марыяй і да таго, што зрабіла Вераніка, якая выцерла твар Езусу Хрысту.
[15] Архім. А. Цікота такім чынам інфармаваў, што не мае магчымасці так часта, як раней, цэлебраваць св. Імшу.

**8**

[Нова-Чунка, лістапад] 1951.

Дарагая сястра Апалонія!

Пішу каротка. Больш падрабязны ліст спадзяюся напісаць толькі ў студзені будучага года.

Пасля майго апошняга ліста ад 5.VII.51 я атрымаў 4 пасылкі: ад імя Мароз М. Гр. — 5. VIII., другую — 29.VIII. ад імя Кадзішэўскай Юз. Вік. — 22.IX., і ад імя Заракоўскай Тэк. Ал. — ад 27.X.51. І прыйшлі яшчэ чатыры твае лісты: ад 8.VIII.; 26.VIII.; 7.IX. і 15.IX. Пасылкі атрымаў цэлымі, ніхто іх не распакоўваў. За ўсе пасылкі і лісты вялікі-вялікі дзякуй. Удзячны табе і ўсім, хто ўдзельнічае і звязаны з высылкай пасылак, а таксама за вашыя клопаты пра Язэпа [Германовіча] і Тамаша [Падзяву]. Няхай благаславіць вас і ўзнагародзіць Усемагутны. Штодня малюся за ўсіх.

Мяне вельмі засмуціла твая хвароба і чуткі пра намеры айчыма[16]. Дарагая сястрыца, будзь разважлівай і беражы свае сілы. Не для сябе — для іншых. Менш трэба ездзіць. Пра Кемераўскую вобл. і адведванне мяне нават і не думай. Калі б і прыехала, то мяне ўсё роўна б не ўбачыла. А ў Кемераўскай вобл., калі і ўбачыш, то гэта не прынясе той карысці і сатысфакцыі, якія былі б платаю за панесеныя высілкі і расходы. Але найбольш істотнае тое, што такія падарожжы падарвалі б яшчэ больш тваё здароўе і пакінулі б сям'ю [супольнасць сясцёр эўхарыстак у Друі] без маці [настаяцельніцы] на працяглы час.

Непакоюся з тае прычыны, што могуць быць нават непрыемнасці і з боку айчыма. Беражы здароўе, сядзі больш дома і не пакідай сваіх дзетак.

Я вельмі рады, што вашыя адносіны з дочкамі і роднымі, якія выехалі ў іншыя гарады, пасля кароткага непаразумення выкіраваліся на добры шлях[17]. Зразумела, што тым з дочак, хто выехаў, трэба даць больш самастойнасці, але трэба падтрымоўваць цесныя сувязі і адзінства з маці [настаяцельніцаю]. Мяркую, што ты паступіла правільна, таму што ўсё якраз і закончылася добра. Мяне ўсцешыў ліст малодшых тваіх дачок [сясцёр эўхарыстак], якіх я не бачыў, а таксама ліст с. Віршуты [сястры Ядвігі Віршуты].

Я вельмі ім удзячны. Віршуту я бачыў на Бялянах. Не магу не радавацца, што яны ўсе такія бадзёрыя і смела крочаць па жыцці. Смерць дарагога бр. Антона[18] мяне вельмі засмуціла. Але я ўпэўнены, што яму яна прынесла вечны супакой і шчасце. Прызнанне народа — гэта першы доказ яго вялікай духовай дабрыні і самаахвярнасці.

Ты была на Зыгмунтоўскай і не напісала мне, ці жывуць там мае сваякі з Летувы [летувіскія айцы марыяне] і хто жыве? Напішы мне іх дакладны адрас, калі яны жывуць там ці на іншай вуліцы.

Дарагая сястра, у мяне да цябе яшчэ адна просьба. Да гэтага часу зубныя пратэзы для мяне не зрабілі, бо з сакавіка месяца я не мог хадзіць да зубнога. Усе матэрыялы захаваліся, але аказалася, што мне не хапае для пратэзаў зубоў — давялося вырваць зубы, якія ўжо рухаліся. А са старых пратэзаў частка прапала. Калі зможаш, то <u>як мага хутчэй</u> прышлі мне <u>набор зубоў</u> для верхніх і ніжніх пратэзаў = 32 зубы. Зубны ўрач будзе ведаць, якія зубы вырваць.

Мае пазванкі крыху ўмацаваліся. Калі згінаюся, то ўжо баліць менш. Хаджу па палаце і калідоры. А іншы раз выходзім на кароткі час на сонейка. Але ў мяне выявілі яшчэ іншую хваробу — запальную вадзянку ў кішэчніку (полісеразіт). Тэмпература ад яе была невысокая. На шчасце, цяпер і гэта хвароба паступова адступае і мне з кожным днём лягчэй. Апетыт робіцца нармальным. Тлушчы арганізм засвойвае добра. Вось толькі салодкія рэчы прымушаю сябе есці з вялікімі цяжкасцямі. Але доктар мне кажа, што есці іх трэба абавязкова.

Дзякуй вам за ўсё, што прыслалі ў пасылках. Варэнне, хоць і смачнае, на жаль, займае многа месца. Вялікі дзякуй за малако. Але калі яго цяжка набыць, то вельмі прашу — не турбуйцеся. Калі можна лёгка дастаць, то прышліце, хоць зрэдку, кансерваванага таматнага соўсу. Яго кіслотнасць мне якраз падыходзіць.

Усім перасылаю сардэчнае прывітанне.

Перадай прывітанне Ле[ўшы] і Божае благаслаўленне для вас.

Ваш усім сэр[цам]
Андрэй.

P.S. Не забудзьце пра часнок, цыбулю і аловак.

[16] Размова ідзе пра савецкія ўлады і рэпрэсіі.

[17] Меліся на ўвазе сёстры эўхарысткі, якія выехалі на місійную працу ўглыб Савецкага Саюза.

[18] Кс. Антон Зянкевіч з Глыбокага, даўні сябра а. А. Цікоты з часоў сумеснай працы ў Друі.

*Публікацыя і пераклад з расейскай мовы*
*Юрася Гарбінскага.*

Яраслаў Макоўскі

# ЗАНЯПАД ГЛАБАЛЬНАЙ ВЁСКІ

*Няпраўда, што хрысціянства здавала іспыт і не здало яго. Праўда ў тым, што да гэтага часу яго яшчэ ні разу не выпрабоўвалі.*

Гілберт Чэстэртон

*Мы жывём у свеце, які радыкальна зменшыўся (адлегласці перасталі мець значэнне) і радыкальна стаў больш хуткім (час перастаў мець значэнне). Тэхніка і рынак паўплывалі на тое, што зніклі дыстанцыя і адлегласць паміж людзьмі, але ўсё ж яны не сталі блізкімі, хоць, як гавораць, усе людзі «плывуць у адной лодцы». Мы жывём побач, але жывём ізалявана. Чалавек не хоча ўскладаць на сябе цяжар другога. Салідарнасць становіцца дыфіцытным таварам. Ці ж не з'яўляецца гэты недахоп, які так моцна кідаецца ў вочы, своеасаблівым лейтматывам сацыяльнага вучэння Бэнэдыкта XVI?*

**Тры асновы**

Горкі вобраз сучаснага свету пачатку XXI стагоддзя, які выразна прачытваецца ў папскіх тэкстах, нягледзячы на значныя адкрыцці медыцыны, тэхнікі і гучныя дабрачынныя акцыі, вынікае з разыходжання шляхоў праўды і любові. У перспектыве Бэнэдыкта XVI асноўным прынцыпам у спасціжэнні свету, у тым ліку і некасцёльнага, з'яўляецца любоў (caritas) і праўда (veritas). Любоў разумецца не толькі ў тэалагічным сэнсе як адна з трох асноўных цнотаў (апрача веры і надзеі), а таксама як прынцып, паводле якога будуецца грамадскае жыццё. Папа сцвяржае, што «любоў — гэта галоўны шлях сацыяльнага вучэння Касцёла».

Другою цнотаю з'яўляецца праўда. Вядома, размова ідзе не аб праўдзе адпаведнасці рэчы і думкі і не аб праўдзе, якая разумецца як супадзенне веры з учынкам. Што гэта значыць? Тое, што сцвярджае св. Якуб: «Вера без учынкаў мёртвая». Папа піша, што «без праўды любоў заканчваецца сентыментальнасцю. Любоў становіцца пустою абалонкаю, якую можна адвольна напоўніць. У культуры без праўды існуе рызыка сказіць любоў». Цытата з гэтага сацыяльнага евангелля Бэнэдыкта XVI магла б гучаць наступным чынам: «Любоў без праўды — сляпая, а праўда без любові — пустая».

Безумоўна, любоў і праўда — гэта тэалагічныя фундаменты, на якія абапіраецца сацыяльнае вучэнне Папы. Аднак трэба паглядзець, як яны праяўляюцца ў рэаліях грамадскага жыцця, як суадносяцца з нашым штодзённым змаганнем з цяжкасцямі. Ці стаіць за гэтымі старымі хрысціянскімі катэгорыямі інтрыгуючы дыягназ нашай зменлівай сучаснасці і нашага разрозненага грамадства, якое крочыць да сваёй мэты праз «халодныя стасункі», г. зн. праз такія, дзе паміж людзьмі няма месца абавязацельствам, бо кожная праява адказнасці за іншага чалавека ўспрымаецца як прывязванне каменю на шыю?

Сярод тэкстаў, якія Бэнэдыкт XVI прысвяціў тлумачэнню шляхоў сацыяльнага Евангелля Езуса, тры з'яўляюцца ключавымі. Гэта ўжо сімвалы цяперашняга Пантыфікату. Папершае, гэта другая частка энцыклікі *Deus caritas est* (2005), і асабліва раздзелы, прысвечаныя суадносінам паміж любоўю і справядлівасцю. Другім элементам гэтай сацыяльнай мазаікі з'яўляецца энцыкліка *Caritas et veritate* (2009). Лёс распарадзіўся такім чынам, што ў 2008 годзе Папа павінен быў лічыцца ў ёй з сусветным эканамічным крызісам амерыканскага банка *Lehman Brothers*.

**Аўтарытэт церпячых**

«Трываюць вера, надзея і любоў», — вучыць св. Павел, — «гэтыя тры, але найбольшая з іх любоў». У сваю чаргу св. Ян дадае, што не баіцца толькі той, хто ўдасканаліўся ў любові. Не здзіўляе, што ў сваёй першай энцыкліцы *Deus caritas est* Папа піша пра тое, што «любоў з'яўляецца служэннем, якое выконвае Касцёл, каб няспынна выходзіць насустрач цярпенням і патрэбам людзей, у тым ліку матэрыяльным». Менавіта ў гэтым аспекце на першы план выходзіць церпячы чалавек. У такога чалавека няма нацыянальнасці, няма колеру скуры, няма палітычных поглядаў, няма сексуальнай арыентацыі, г. зн., што ўсё пералічанае ён мае, але яно адыходзіць на другі

---

**Яраслаў МАКОЎСКІ** — польскі журналіст, кіраўнік Інстытута сацыялогіі. Нарадзіўся ў 1973 годзе. Вывучаў філасофію ў Папскай акадэміі тэалогіі ў Кракаве і тэалогію на Папскім тэалагічным факультэце «Bobolanum» у Варшаве. У 1999–2005 гг. быў рэдактарам «Tygodnika Powszechnego». Аўтар шматлікіх кніг па тэалогіі, сацыялогіі і філасофіі. Друкуецца ў часопісах «W drodze», «Więź» і інш.

план з-за крыку яго болю, на які нам трэба адрэагаваць.

А калі так, то Касцёл, які бачыць церпячых і ўбогіх, не можа маўчаць. Ён не можа дазволіць сабе бяздзейнічаць. Менавіта таму Касцёл далучаецца да справаў міласэрнасці (напр., дзейнасць «Caritas»). Тым больш Папа сцвярджае: «любоў бескарыслівая». Яна не выкарыстоўваецца для дасягнення іншых мэтаў. Таму праявы дабрыні, жаданне аказваць дапамогу сапраўды з'яўляюцца выпрабоўваннем нашай чалавечнасці, выпрабоўваннем нашага хрысціянства. Папа мае рацыю, калі гаворыць, што няма такога грамадскага ладу, які сцвердзіў бы, што любоў і дабрачыннасць не патрэбны, што можна стварыць такі свет, дзе «ўчынак самараніна» будзе цалкам не патрэбным. Убогіх і церпячых, на жаль, заўсёды можна бачыць сярод нас. І яны заўсёды будуць тэстам на нашу міласэрнасць.

З іншага боку, удзел у дабрачыннай дзейнасці не можа замяніць імкнення да сацыяльнай справядлівасці, да будавання дзяржавай такога грамадскага і палітычнага ладу, які зможа ліквідаваць сацыяльную няроўнасць і будзе змагацца з дыскрымінацыяй і нецярпімасцю. Гэта, безумоўна, тая кропка, дзе палітыка сутыкаецца з верай. Аднак Касцёл не хоча і не можа замяняць дзяржаву ў стварэнні справядлівай грамадскай сістэмы.

Бэнэдыкт XVI выразна гаворыць, што роля сацыяльнага каталіцкага вучэння садзейнічае фармаванню чалавечага сумлення такім чынам, каб, убачыўшы несправядлівасць, чалавек «не паварочваўся да яе спінаю». Калі ён бачыць несправядлівасць і не рэагуе, ён паказвае не толькі сваю абыякавасць, а сам становіцца яе саўдзельнікам. Папа сцвярджае тое самае, калі піша, што Касцёл «хоча служыць фармаванню сумлення ў палітыцы і ўплываць на павелічэнне сапраўдных патрабаванняў справядлівасці і адначасова на гатоўнасць рэагаваць, абапіраючыся на яе, нават калі гэта пярэчыць асабістым інтарэсам». Сумленне можа быць дрэнна сфармаванае, у такім выпадку чалавек можа знішчыць у сабе тое, што з'яўляецца асновам яго чалавечнасці.

**Хачу, таму існую?**

Фундаментальным тэкстам у каталозе выказванняў Бэнэдыкта XVI, які закранае сацыяльныя пытанні, з'яўляецца энцыкліка *Caritas et veritate.* Найперш таму, што Папа пісаў яе ў пік гаспадарчага крызісу, з-за якога людзі кожны дзень страчвалі працу і жыллё, банкі ліквідаваліся хутчэй за розныя недзеяздольныя фірмы, а краіны — напрыклад, Ісландыя — апыналіся на шляху банкруцтва. Больш за тое, крызіс не ўдалося пераадолець цалкам, пра што сведчаць сённяшнія праблемы Грэцыі, якая праз «крэатыўную бухгалтэрыю» сваіх кіраўнікоў становіцца хворым «чалавекам Еўрасаюзу». На колькі грэцкі вірус заразны, мы хутка пераканаемся на ўласнай скуры.

Усё ж пачалася вялікая паніка, бо прыхільнікі догмату TINA *(There is no alternative),* або таго, што для неаліберальнай ідэалогіі няма альтэрнатывы, а капіталізм — гэта найлепшая сістэма з магчымых, у задуменні паціскаюць плячыма, бо гэты догмат перастае дзейнічаць так, як ім хацелася б, а нябачная рука рынку стала сапраўды нябачнаю, яна перастала штосьці рэгуляваць, а сквапнасць, якая да гэтага часу ўхвалялася і ў колах фінансавых акулаў лічылася цнотаю — зрэшты, як і некаторымі каталіцкімі тэолагамі — прывяла сусветную гаспадарку да бездані. Таму ці трэба здзіўляцца, што ў такой сітуацыі спадзяванні, згодна з энцыклікай Бэнэдыкта XVI, раслі паступова, хоць крызіс паглыбляўся, а паніка сярод людзей толькі павялічвалася.

І сапраўды, многія вядомыя каментатары, напрыклад, у Польшчы айцец дамініканін Мацей Земба, чакалі ад Папы канкрэтных падказак, парадаў, як выйсці з крызісу, што зрабіць, каб «наш супольны дом не пайшоў на дно». Тым часам дамініканін пераконвае ў тым, што папская энцыкліка з'яўляецца не вырашэннем праблемы, а хутчэй за ўсё зборам пасланняў, якія набліжаюць нас да мэты або да таго, што трэба рабіць, каб у свеце было больш любові, каб грамадства было больш чалавечным і каб «чалавечая экалогія» стала лепшай.

Айцец М. Земба — рэаліст, таму ён гаворыць, што «эканоміка павінна быць эканомнаю. Калі ёю пачынаюць кіраваць, абмінаючы этычныя прынцыпы па якіх-небудзь знешніх прынцыпах, то яна непазбежна будзе страчваць эфектыўнасць». Цяперашні крызіс, і гэта ўжо паўтараюць нават зацятыя ідэолагі неалібералізму, з'яўляецца менавіта эфектам антырэгуляцыі — адсутнасці кантролю. У выніку спушчаны з-пад кантролю дзяржавы дзікі капіталізм прывёў да банкавых спекуляцый, а тыя, у сваю чаргу, выклікалі глабальны рэгрэс. Калі пагадзіцца з тым, што «эканоміка павінна быць эканомнай», то *implicite* значыць, што з эканомікай і асабліва з яе неаліберальнай версіяй, не дыскутуюць. Сапраўды, няма шанцаў, што цяперашні крызіс падзейнічае на нас так, як халодны душ на соннага чалавека.

З гэтай перспектывы Папа, безумоўна, паўстаў перад намі як апошні з магіканаў. Мэта рынку — прыбытак, а не чалавек. Гэта вельмі супярэчліва для Папы, бо для яго «першы капітал, які трэба захаваць і цаніць, — гэта чалавек, асоба ў яе інтэгральнасці». У сітуацыі, калі чалавек з'яўляецца для рынку толькі сродкам дасягнення мэты, сферы сацыяльнай бяспекі падпарадкоўваюцца рэдукцыі з пункту гледжання «пошуку большай карысці». Рынак знішчае «сістэму грамадскай бяспекі», што выклікае ў людзей страх і няўпэўненасць. Ён ім-

кнецца да абмежавання ролі прафсаюзаў, садзейнічае росту няроўнасці і б'е па грамадскай справядлівасці. Для рынку — не для Касцёла — бедныя з'яўляюцца балансам, якога трэба пазбыцца. Рынак, хоць і не павінен, сам па сабе становіцца «месцам перамогі моцнага над слабым», знішчаючы такі важны для кожнай грамадскай супольнасці капітал як давер. Таму Папа гаворыць, што «недастаткова толькі эканамічнага і тэхнічнага прагрэсу».

На шчасце, у гэтай сур'ёзнай ацэнцы сённяшняй сітуацыі ў грамадстве і, напэўна, у гэтых своеасаблівых нараканнях, Бэнэдыкт XVI не адзін. Напрыклад, на дапамогу яму прыходзіць, хоць і з іншай пазіцыі, левы палітолаг Бенджамін Барбер. У сваім выдатным эсэ «Спажывальнікі. Як рынак псуе дзяцей, інфантылізуе дарослых і праглынае ўсіх грамадзянаў» (2008) («How Markets Corrupt Children, Infantilize Adults, and Swallow Citizens Whole») Барбер адзначае, што пратэстанцкі этас, які быў асноваю маральнага ладу Амерыкі і прывёў да яе дабрабыту, цяпер заменены інфантылізмам, які абмежаваў увесь свет Захаду. Галоўным адказным за руйнаванне нашага індывідуальнага і грамадскага жыцця з'яўляецца рынак. Гэта ён сёння стаў адзіным выхавацелем, настаўнікам і фармавальнікам густаў не толькі ў дарослых, але таксама і ў дзяцей. Сучасны капіталізм хоча, каб сучасныя дзеці ніколі не станавіліся дарослымі, а сучасныя дарослыя зноў сталі дзецьмі. Мы жывём у эпоху, калі абавязковым стаў культ дзяцінення.

Але «пераасэнсаванне каштоўнасцяў» адбылося на яшчэ больш глыбокім узроўні. Змянілася антрапалагічная парадыгма, якой на працягу стагоддзяў акрэслівалася жыццё чалавека і супольнасці. Мы скінулі з трону мысленне, ухваляючы жаданне, якое ў сваю чаргу кіруе рынкам і яго вернымі салдатамі — маркетолагамі. Яны не супакояцца, пакуль не пераканаюць нас у тым, што мы павінны купіць чарговы непатрэбны мабільны тэлефон, бо менавіта ён з'явіўся ў новым колеры, або новы ноутбук, бо ён на 10 г лягчэйшы і на 5 міліметраў меншы за той, якім мы карыстаемся. Ці яшчэ горш: мы павінны ўлезці ў чарговы крэдыт, хоць яшчэ не выплацілі папярэдні.

Маркетолагі ўводзяць у вушы таксама і тое, што ад набыцця новых «наваротаў» залежыць наша будучыня. Свае тэхнікі яны выпрабоўваюць ужо на дзецях, а бацькам падміргваюць. Барбер, напрыклад, піша, што на прамысловым рынку ТВ прыстаўка «V-Smile» прызнаная лепшаю цацкаю 2005 года. Яе рэкламны дэвіз гучаў так: «Калі ты не гуляеш у відэагульні, то не паступіш у ВНУ». Аказваецца, каб быць студэнтам ВНУ, табе не трэба ўжо ведаць ні табліцы множання, ні гісторыі. Дастаткова гуляць 24 гадзіны ў суткі. Такім чынам, падкрэслівае Бенджамін Барбер, на нашых вачах капіталізм знішчае рэшткі этасу, якім Амерыка абавязана пратэстанцкаму духу добрасумленнасці, стараннай працы і клопату пра супольнае дабро. Калі найважнейшым становіцца ненасытнае жаданне мець «навінкі», то адкрыццё Р. Дэкарта *(думаю, значыць існую. — Заўв. рэд.)* павінна апынуцца на сметніку гісторыі. На яго месца трыумфальна прыходзіць зусім новы прынцып: «Хачу, таму існую!».

Ці ж не здзіўляе, што падобнае песімістычнае бачанне сучаснага свету маюць Папа і левы інтэлектуал? Барбер, сочачы за навучаннем Папы, адзначае, што «Бэнэдыкт XVI не толькі выступіў з абвінавачваннем вынікаў этасу інфантыльнасці, а паказаў таксама дакладны вобраз яго адхіленняў. Нельга сцвярджаць, што ён выказаў уласны старамодны і тэндэнцыйны погляд на мараль». І Бэнэдыкту XVI, і Барберу можна выказаць дакор, які фармулюе айцец Земба: адсутнасць «рэцэптаў» паводзінаў у сённяшнім крызісе і інфантыльнай культуры. А інакш: што рабіць?

І сапраўды, сёння мы жывём у культуры, якая прымушае «штосьці рабіць», хоць часам не вядома, навошта гэта робім і з якою мэтаю. «Большасць, — зазначае брытанскі філосаф Джон Грэй, — гэта не бяздзейсныя летуценнікі, а практычныя мужчыны і жанчыны, якія ўцякаюць ад рэчаіснасці; у актыўнасці яны шукаюць прыстанішча ад нікчэмнасці іх быцця». Прымус дзейнічаць і ўяўнае змаганне з гаспадарчым крызісам становяцца своеасаблівым відам агнямёту, якім спрабуюць патушыць палаючы стог сена. Гэта знак таго, што найгоршае нас абмінула. Таму пагаджаюся з Бэнэдыктам XVI, які ўслед за Паўлам VI гаворыць: «Свет пакутуе з-за адсутнасці думкі». Ці, інакш кажучы, у вочы кідаецца бяздумнасць свету. Тое, што сёння нам трэба, каб пераадолець крызіс, і перадусім змяніць аснову спажывецкай капіталістычнай культуры — гэта не бяздумная і панічная дзейнасць, а грунтоўнае і спакойнае пераасэнсаванне таго, як мы павінны жыць разам на гэтай агульнай планеце.

**«Злезем з дрэва»**

Апошні аспект, які трэба закрануць у сувязі з суб'ектыўным аглядам сацыяльнага навучання Бэнэдыкта XVI, датычыць «экалагічнага крызісу», пра які гаварыў ужо Ян Павел II. У сваім пасланні Бэнэдыкт XVI рытарычна піша: «Ці можам мы абыякава глядзець на праблемы, звязаныя з такімі з'явамі, як кліматычныя змены, спусташэнне, дэградацыя і зніжэнне прадуктыўнасці аддаленых сельскагаспадарчых земляў, засмечванне рэк і ваданоснага слою, выміранне біялагічнай разнастайнасці, павелічэнне колькасці прыродных катастрофаў, знішчэнне экватарыяльных і трапічных рэгіёнаў?».

Звяртаючы ўвагу на «экалогію чалавека», ці можам мы забыцца пра павелічэнне коль-

касці г. зв. экалагічных бежанцаў — людзей, якія ў выніку знішчэння іх асяроддзя павінны яго пакінуць і часам з усімі пажыткамі ісці ў невядомае, падвяргаючы сябе небяспецы, звязанай з прымусовым перасяленнем? Ці можам мы не рэагаваць на канфлікты, якія ўжо вядуцца, і на патэнцыйныя, звязаныя з доступам да карысных выкапняў? Усе гэтыя праблемы маюць глыбокі ўплыў на магчымасць выкарыстання правоў чалавека, такіх, напрыклад, як права на жыццё, права на харчаванне, права на здароўе, права на развіццё».

Аднак цяжка пагадзіцца, што заатэалогія і экалогія стаяць на другім плане касцёльнага навучання. Нягледзячы на гэтыя драматычныя словы Папы, мы пастаянна ўмацоўваем нашае перакананне ў тым, што паколькі чалавек з'яўляцца «каронаю стварэння», ён можа «падпарадкоўваць» сабе зямлю. Часцей за ўсё мы разумеем гэты біблійны наказ як абсалютнае права на знішчэнне маці-зямлі, на прычыненне ёй балючых ранаў або крадзяжу прыродных багаццяў.

Падобным чынам чалавек успрымае наказ «панаваць над жывёламі». Нашы «браты меншыя» пастаянна служаць нам для задавальнення садысцкіх патрэбаў. Каб не быць галаслоўнымі, можна прывесці два прыклады, якія аднойчы згадваліся па тэлебачанні: аператары аднаго з тэлевізійных каналаў завіталі ў канюшню, дзе «гаспадар» коней (а хутчэй кат!) трымаў іх у стойле па калена ў гноі. Частка коней стаяла ў збруі, якая паўрастала ў цела на некалькі сантыметраў. Іншая трагедыя: сям'я, прыехаўшы ў спякотны дзень у гіпермаркет, прыпаркавала машыну, пакінуўшы ў ёй сабаку. На працягу некалькіх гадзінаў гэтыя людзі без спешкі займаліся задавальненнем сваіх патрэбаў, а жывёла ў пакутах канала ў зачыненай машыне. Прыклады можна працягваць...

Ці сумняваецца хтосьці ў тым, што жорсткасць, у якой мы практыкуемся на жывёлах, пачынае набываць усё больш паўсюдны характар? А таму, ці не будзе наіўным меркаванне біскупаў пра тое, што калі хтосьці можа так жорстка абыходзіцца з чацвераногімі, ён не будзе мець ніякага сумлення, калі аналагічным чынам паставіцца да іншага чалавека — у тым ліку і ненароджанага? Ці мы, людзі, не заўважаем, што тое, як мы абыходзімся з жывёламі, нічога не гаворыць пра нашых «братоў меншых», але затое гаворыць пра нас — людзей?

Так, чалавек можа ганарыцца сваімі дасягненнямі: права чалавека на паўсюднае карыстанне медыцынскімі паслугамі або тэхнікаю, якая можа рабіць цуды. Разам з тым, ці павінны мы саромецца таго, што ў прынцыпе нашы адносіны да жывёлаў не змяніліся з таго моманту, калі мы «злезлі з дрэва»? Ці не выкліча з'едлівай усмешкі ў вельмі культурных людзей размова пра пачуццёвае жыццё жывёлаў? Вядома, жывёлы не могуць мець пачуццяў. «Чалавек дазволіў, — піша Папа, — каб ім авалодаў эгаізм, каб ён згубіў сэнс Божага наказу і, жадаючы мець абсалютнае панаванне над стварэннем, у адносінах да яго паводзіць сябе як эксплуататар. Аднак сапраўдным сэнсам першаснага Божага наказу, які выразна акрэслены ў Кнізе Быцця, было не проста надзяленне ўладаю, а хутчэй заклік да адказнасці».

Іншымі словамі, і зямля, і жывёлы, якія яе насяляюць, дадзеныя чалавеку, а не падпарадкаваныя!

**Не страціць міласэрнасць**

Калі Бэнэдыкту XVI трэба было б звесці сваё сацыяльнае навучанне ў адзін сказ, то ён мог бы сказаць, што будучыня любові залежыць ад нас, ад цябе і ад мяне. Калі Бог — гэта любоў, а мы ў гэта верым, то — мы, людзі, хрысціяне, — павінны быць тымі, хто рэалізуе гэтую любоў у жыцці. Святы Аўгустын гаварыў: «Калі любіш — можаш рабіць, што хочаш». Папа, вялікі прыхільнік аўтара «Споведзі», гаворыць тое самае, але крыху іншымі словамі. Бо любоў, калі яна гаспадарыць у нашым прыватным і грамадскім жыцці, ніколі не дазволіць даць іншаму чалавеку камень, калі той просіць хлеба.

Прыклад? Год назад Луіджы Акатолі, вядомы і шанаваны ватыканіст, адказваючы на маё пытанне пра характэрную рысу навучання Папы з Нямеччыны, не раздумваючы, усклікнуў: «Любоў!». Ён аргументаваў гэта прыкладам з 9-гадоваю бразільскаю дзяўчынкаю, якую згвалціў яе айчым, у выніку чаго быў зроблены аборт. Арцыбіскуп Хосэ Кардоса Сабрыньё ўсклаў на яе, яе маці і на ўсіх урачоў, якія мелі дачыненне да аборту, экскамуніку. Тады на гэты ўчынак адрэагаваў арцыбіскуп Рына Фісічэлла, старшыня Папскай акадэміі ў абарону жыцця, які ў штотыднёвіку «L'Osservatore Romano» сказаў, што з-за такога бяздушнага рашэння іерарха пацярпела аўтэнтычнасць Касцёла, бо многім людзям навучанне Касцёла здаецца бяздушным і неміласэрным. Арцыбіскуп Фісічэлла не мог напісаць такія словы па ўласнай ініцыятыве. Ён павінен быў атрымаць на гэта папскую згоду. На думку Акатолі, гэты прыклад сведчыць пра тое, што Бэнэдыкт XVI глыбока разумее цярплівасць, міласэрнасць і любоў, з якою трэба ўспрымаць ахвяраў насілля. Хто бачыць толькі караючае права, можа страціць міласэрнасць.

Ці ж не мае рацыі гэты пажылы і сівы Папа, калі гаворыць, што будучыня любові знаходзіцца ў нашых руках, што яна залежыць ад таго, якой будзе твая рэакцыя, калі на тваім шляху з'явіцца церпячы чалавек.

*Падрыхтавала Іна Ламака.*
*Паводле: «W drodze», 4, 2010 г.*

Уладзімір Содаль

# Сямейныя рэліквіярыі Францішка Багушэвіча



У Францішка Багушэвіча (Мацея Бурачка), як і ва ўсіх Божых людзей, было нямала крэўных. Былі ў яго, натуральна, і ўнукі. Але толькі двое з іх — Зыгмунт Абрамовіч і Янка Тарчэўскі — ганарыліся сваім слынным дзядулем, яго творчай спадчынай. З Янкам Тарчэўскім мне воляй лёсу пашчасціла блізка спазнацца. Былі ў мяне і сустрэчы з ім. Было ліставанне. Дзядзьку Янку як чалавека, адданага роднай старонцы, цікавіла ўсё, што рабілася на Беларусі. Рэлігійнае жыццё — таксама. Сам ён, як і ўсе Багушэвічы, католік. І таму найперш цікавіўся, на якой мове ў беларускіх касцёлах ладзіцца служба. Яму не адзін раз даводзілася чуць па радыё «Свабода» арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. З гэтай нагоды ён пісаў мне:

*«Шчыра дзякую табе за тое, што стараешся заспакоіць маю цікавасць да справаў рэлігійных у Беларусі, бо, сапраўды, вельмі ж многа маглі б зрабіць у адраджэнскім руху як Царква, так і Касцёл, каб толькі іх слугі захацелі загаварыць у святынях па-беларуску, але хіба нам гэтага не дачакаць... На пацверджанне тваёй весткі пра набажэнствы ў Ашмянскім касцёле польскае тэлебачанне паказала Ашмяну, абдзертую царкоўку і зганьбаваны касцёл, у якім адну наву выкарыстоўваюць вернікі для набажэнстваў. Прасіў бы цябе, калі зможаш, хоць крыху апісаць, што дзеецца ў Менску і ў Беларусі».*

*«Даражэнькі Уладзімір! Сардэчна дзякую табе за памяць і за ліст, а таксама за выразкі з газет. Вельмі ж усё там цікавае, асабліва для мяне, самотніка, закінутага на край свету. Як жа мне хацелася б быць бліжэй да тых падзей, якія адбываюцца цяпер у маёй роднай Беларусі. Але што ж? Лёсу не зменіш, застаецца толькі вачыма душы ўдзельнічаць у юбілейных святкаваннях, як Багушэвічавых, так і Грунвальдскіх, слухаць прамовы мінскіх дзеячаў, маліцца да Бога з біскупам Кандрусевічам па-беларуску ў Кальварыйскім касцёле, у Чырвоным — з кс. Матусевічам, якога я бачыў на здымку, шчыльна акружанага вернікамі, быццам яны не хацелі яго адпускаць, прасілі: „Заставайся з намі!“ Трэба таксама цешыцца, што Чырвоны касцёл ужо аддалі вернікам. Я вельмі хацеў і марыў пабываць яшчэ ў роднай старонцы, чакаў гэтага запрашэння, і чым больш набліжаўся дзень юбілею, тым слабейшаю станавілася мая надзея. Урэшце, запрашэнне прыйшло, але за тры дні да юбілею, хоць і «на русском языке». Усё ж такі з гэтым запрашэннем мяне, хутчэй за ўсё, на мяжы не прапусцілі б. Нефармальнае! Нехта з „Нівы“ прысутнічаў на юбілеі і больш-менш апісаў у „Ніве“ ўсю ўрачыстасць ускладання вянкоў на магіле, запальванне свечак, а таксама распавёў крыху пра дом-музей. На здымачках, хоць і невыразных, паказаныя між іншым і сваячкі Ф. Б. пры яго магіле. А вось цябе ніяк не змог я прыкмеціць. Ну, што ж, прайшло-мінула — і абышлося без мяне, і так па праўдзе, то навошта я там і патрэбны быў. Ведаеш, братка, я ў душы сваёй ганаруся тым, што вось з усіх блізкіх і далёкіх з роду нашага Мацея Бурачка ніколі не цураўся я мовы беларускай, чаго няможна сказаць пра яго найбліжэйшых, якім усё, што беларускае, было хамскае, а яны ўсё ж такі паходжанне сваё выводзілі з паноў, з шляхты панскай, дык пра долю беларусаў не варта было і гаварыць. Вось толькі чамусь тая гаротная доля, тая крыўда простых людзей закранула сэрца і дзеда Францішка»* (нявысланы ліст з ліпеня 1990 г.).



Янка Тарчэўскі,
унук Францішка Багушэвіча.

...Адзін раз дзядзька Янка паведаміў мне, што ў яго, у Хошчне (Польшча), захоўваюцца — што б вы думалі? — святыя рэліквіярыі ягонай бабулі Ганны, роднай сястры Францішка Багушэвіча. Сярод іх — шкаплер, раскладныя медальёны з рэліквіямі і імёнамі святых... Аднаго разу ён прыслаў фотаздымкі гэтых рэліквія-





Шкаплер, які належаў сястры Францішка Багушэвіча Ганне.

Раскладныя медальёны з выявамі і імёнамі святых.



Футаралы для рэліквіярыяў.

рыяў, а пасля пры нагодзе прывёз іх. Гэта была вялікая падзея для Беларусі. Я падзяліўся гэтаю навіною найперш з пробашчам мінскага касцёла святых Сымона і Алены ксяндзом Уладзіславам Завальнюком. Чаму менавіта з ім? Для мяне кс. Уладзіслаў Завальнюк з'яўляецца ўвасабленнем чалавека гарманічна духоўнага. У ім усё гарманічна спалучаецца: і рухі, і жэсты, і міміка, і само слова. Таму я без асаблівага роздуму і ваганняў перадаў Багушэвічавы сямейныя рэліквіярыі Чырвонаму касцёлу.

...Больш за дзесяць гадоў яны былі пад аховай касцёла, але ў 2009 годзе дырэктару музея гісторыі беларускай літаратуры падумалася, што выдатна было б і натуральна, калі б гэтыя святыя памяткі былі перададзены літаратурнаму музею. Неўзабаве гэтак і сталася. Музей атрымаў у падарунак шкаплер і медалікі роднай сястры Францішка Багушэвіча.

Што ж такое шкаплерык? У вядомым Багушэвічавым творы «Балада» чытаем:

*Ануфры з жалю расхлістаў грудзі.*
*Зняў крыжык, скінуў шкаплеры.*
*«Глядзіце, — кажа, — добрыя людзі.*
*Вот скарб мой — знак маёй веры».*

Шкаплер — гэта два маленькія кавалачкі сукна, на якіх адлюстраваны рэлігійныя выявы або тэксты і якія злучаныя паміж сабою стужкамі. Шкаплер носіцца пад адзеннем (на грудзях і на плячах) і з'яўляецца знакам асаблівага шанавання Маці Божай.

Францішак Багушэвіч называе шкаплер сваім скарбам. Шкаплеры некалі насілі і Багушэвічы, прынамсі, паэтава сястра Ганна. Нягледзячы на тое, што з тае пары мінула ўжо шмат часу, яе шкаплер дайшоў да нас. Вось ён перад намі: цалюсенькі, як новы, нібыта ўчора зроблены, выштукаваны. Гэта дзве падушачкі з сукна, на якіх бісерам вышытыя манаграмы. Адна з іх азначае «Езус Хрыстус — Збаўца», другая — «Марыя». Такія манаграмы можна ўбачыць таксама на арнатах, алтарах, харугвах. Падушачкі злучаныя між сабою спосабам выцінанкі, і гэтая выцінанка надае шкаплеру завершанасць, цэласнасць, суладнасць, прывабнасць. Сам шкаплерык невялікі, але важкі дзякуючы бісеру, якім ён расшыты. Некаторыя мяркуюць, што падшыўка шкаплера набітая попелам. «Попел б'е ў грудзі!» Але гэта толькі здагадкі. Усе, каму я паказваў гэты кушлянскі шкаплер, былі ад яго ў захапленні. Асабліва жанчыны. Некаторыя з іх нюхалі яго. Казалі: пахне свечачкай.

На вялікім раскладным медальёне Ганны Багушэвіч у авале знаходзяцца цікавыя сімвалы, якіх адразу і не заўважыш. І толькі добра падсвяціўшы медальён, убачыш на ім абрысы слова «ягня». Гэтыя літары можна распазнаць і навобмацак, таму што медальён барэльефны.

Пэўную цікавасць і каштоўнасць маюць для нас таксама футаралчыкі з-пад рэліквіярыяў. Два з іх — з тканіны ў клетку. На большым футарале ўзор выбраны так, што выразна відаць крыж з дзвюма папярэчкамі. Трэці футарал — з-пад саматробнага рэліквіярыя, ён увесь расшыты дробным бісерам.

Згадаю, што ўсе гэтыя святыя памяткі сям'і Багушэвічаў з'яўляюцца сведкамі падзей 1863 года на нашых землях, нагадваюць нам пра нашых слаўных продкаў, распавядаюць пра іх думкі, настроі, малітвы.



Кс. Уладзіслаў Завальнюк і У. Содаль з сямейнымі рэліквіярыямі Францішка Багушэвіча.

Ева Лявонава

# Аповесць Васіля Быкава «Сотнікаў» у святле старазапаветнай прытчы пра Каіна і Абэля



Рыбак і Сотнікаў. Кадр з фільма «Узыходжанне», знятага ў 1976 годзе паводле аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў».

Семантыка біблейскай топікі ў творах Васіля Быкава неаднойчы прыцягвала ўвагу літаратуразнаўцаў. Сапраўды, Кніга кніг вельмі істотна паўплывала на яго творчасць. Біблейскімі алюзіямі і сімваламі, роздумамі над адвечнымі праблемамі веры і бязвер’я, узаемадачыненняў чалавека з Богам прасякнуты шматлікія публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы пісьменніка, гутаркі і інтэрв’ю, асабліва 1980–1990-х гадоў. «Хлусяць не багі, а людзі, крывадушнічаюць не багі», — менавіта гэтыя радкі вылучыў В. Быкаў з мастацкай спадчыны П. Панчанкі ў прысвечаным яму артыкуле «Паэзія дабрыні і мужнасці» (1981). Не абмінуў ён увагай філасофска-эстэтычнай прысутнасці Кнігі кніг і ў творах многіх іншых беларускіх паэтаў і празаікаў. Так, пісьменнік высока ацаніў раман Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», убачыўшы асноўную вартасць гэтай «прыгодніцка-рамантычнай гісторыі Хрыста» найперш «у яе выразных гуманістычных і выкрывальніцкіх тэндэнцыях, асабліва ў адносінах да ўсяго, што датычыцца “власть предержащих”, якія ў сваёй сквапнасці да ўлады не спыняюцца ні перад крывёю і зладзейскім падманам, ні перад фальшам высокіх слоў. Бог, вера, хрысціянская мараль — толькі шырма ў іх эгаістычным імкненні да ўлады над чэрню». Найбольшае ўражанне на В. Быкава зрабіў узнёсла-патэтычны фінал рамана, самым непасрэдным чынам звязаны з біблейскаю сімволікаю: «Неапалімыя купіны дрэў стаялі на ўзгорках. Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі. І, гатовае да новага жыцця, падала зерне ў цёплую мяккую зямлю. Выйшаў сейбіт сеяць на нівы свая» («Яркае і самабытнае дараванне», 1980; 1, 410–411). Сярод пісьменнікаў, чыя творчасць насычана хрысціянскімі матывамі, В. Быкаў вылучаў

---

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

таксама Рыгора Барадуліна («Народная паэзія», 1992).

Шматкроць узгадвае В. Быкаў Хрыста і яго паплечнікаў, праецыруючы іх лёс на трагічную беларускую і сусветную гісторыю. У 1985 г. у прамове на пленуме СП БССР ён гаварыў: «Але, мабыць, так ужо заведзена на белым свеце, што да сапраўдных апосталаў дабра і справядлівасці лёс заўжды ставіцца няўдзячна: перш іх распінае, каб затым узвысіць...» (1, 448). Да такіх «апосталаў дабра і справядлівасці» В. Быкаў адносіў Янку Купалу, Уладзіміра Караткевіча і іншых творцаў. Біблейскай сімволікай ад пачатку да канца прасякнута яго публікацыя «З цемры — да святла» (1992), прысвечаная Янку Купалу — «найбольшаму, галоўнаму апосталу» ў «даўгім, калі не бясконцым радзе». Па словах В. Быкава, Я. Купала «стаў сынам нацыі, абаронцам яе памкненняў. Менавіта гэтая акалічнасць і павяла яго на крыжаванне, асудзіўшы нацыю на сіроцтва... сваёй ахвярнай пагібеллю ён нязмерна ўзвысіўся ў часе і стаў недасяжны. Цяпер мы ведаем: ён не прыняў зло. Ён не мог адолець яго, але не мог і скарыцца яму... Падобна, Купала зрабіў свой выбар — самы жахлівы, але з часоў Ісуса Хрыста і самы чалавечны выбар» (1, 520).

Васіль Быкаў не стамляўся нагадваць, што «...мы — народ. Вялікі ці малы, цывілізаваны ці не надта, але выразны і цэльны, створаны Богам на гэтай боскай зямлі» (1, 521). Нават лёс беларускай мовы — «мовы-ахвяры і мовы-героя адначасна» — ён прыпадабняў да лёсу Хрыста («Нацыянальная еднасць — інстынкт выжывання», 1992). Красамоўную назву дае В. Быкаў аднаму са сваіх артыкулаў, напісанаму за дзесяцігоддзе да смерці, — «Божа, дай нам волі і мудрасці...» (1992).

Не абмінулі ўвагай даследчыкі (Алесь Адамовіч, Іван Афанасьеў, Пятро Васючэнка і інш.) філасофска-эстэтычную прысутнасць біблейскіх матываў і вобразаў у мастацкіх творах самога Васіля Быкава; прысутнасць гэтая — важкая, сэнсаўтваральная — дае аб сабе знаць пастаянна, ад самых ранніх аповесцяў да пасмяротна апублікаваных прыпавесцяў. Разглядалася ў гэтым ракурсе і аповесць «Сотнікаў» (1970). Яе асэнсаванню ў святле біблейскай сімволікі надзвычай паспрыяла экранізацыя, здзейсненая Ларысай Шапіцька, з яе выразным імкненнем данесці да гледача агульначалавечую, хрысціянскую сутнасць твора, вытокі якой палягаюць у Новым Запавеце і найперш — у аповедах евангелістаў. У сувязі з гэтым, паводле мемуараў В. Быкава, былі вялікія праблемы са здачай ужо знятай кінастужкі. «Пільныя наглядчыкі з розных органаў згледзелі ў ёй празмернасць хрысціянска-рэлігійных матываў» (2, 361). Першапачаткова рэжысёр мела намер даць фільму і характэрную назву — «Узнясенне»; назва ж «Узыходжанне» (блізкая па сэнсе, але не тоесная) сталася кампраміснай. Менавіта праз прызму новазапаветнай сімволікі і аналізуюць літаратуразнаўцы аповесць «Сотнікаў» — тыя з іх, вядома, якія прызнаюць удзел біблейскага матэрыялу ў стварэнні мастацкага свету В. Быкава ўвогуле і названага твора ў прыватнасці.

Між тым, на мой погляд, ёсць падставы для аналізу аповесці «Сотнікаў» праз прызму сімволікі і нават сюжэтыкі не толькі новазапаветнай, але і старазапаветнай. Калісьці М. В. Гогаль зазначыў: «Адкрый кнігу Старога Запавету, ты знойдзеш там кожную з сённяшніх падзей, ясней за дзень убачыш, у чым яе правіна перад Богам...» (3, 245). Яскравае гэтаму пацверджанне — аповесць «Сотнікаў», якая асацыіруецца з прытчай пра Абэля і Каіна з Кнігі Быцця — адным з самых запатрабаваных сусветнай культурай і мастацтвам біблейскіх міфаў. Ён мае (магчыма, не ў апошнюю чаргу з-за сваёй сэнсавай складанасці і загадкавасці) устойліва-працяглую традыцыю філасофскага вытлумачэння і мастацкай інтэрпрэтацыі. Бадай, мэтазгодна працытаваць гэтую прытчу: *«Адам пазнаў Еву, жонку сваю, і яна зачала, і нарадзіла Каіна, і сказала: Я нарадзіла мужчыну з дапамогаю Пана. А потым нарадзіла яна брата ягонага Абэля. Абэль быў пастухом авечак, а Каін — земляробам.*

*І сталася праз пэўны час, што Каін прынёс Пану ахвяру з пладоў зямлі. Абэль таксама прынасіў ахвяру з першынцаў статку свайго і з тлушчу іхняга. І Пан паглядзеў на Абэля і на ахвяру ягоную, а на Каіна і ягоную ахвяру не паглядзеў. Тады Каін моцна раззлаваўся, і спахмурнеў ягоны твар. І сказаў Пан Каіну: Чаму засмуціўся ты, і чаму спахмурнеў твар твой? Калі ты робіш добра, ці не павінна быць узнята аблічча тваё? А калі не робіш добра, грэх затойваецца пры дзвярах. Ён цягне цябе да сябе, але ты можаш панаваць над ім. І Каін сказаў Абэлю: Хадзем ў поле. А калі яны былі ў полі, Каін паўстаў на свайго брата Абэля і забіў яго.*

*Тады Пан сказаў Каіну: Дзе Абэль, брат твой? Той адказаў: Не ведаю. Хіба я вартаўнік брата свайго? І сказаў Пан: Што зрабіў ты? Голас крыві твайго брата ўсклікае да Мяне з зямлі. Цяпер ты пракляты на зямлі, якая раскрыла свае вусны і прыняла кроў твайго брата ад рукі тваёй. Калі будзеш апрацоўваць яе, больш не будзе даваць табе пладоў сваіх. Выгнаннікам і бяздомным будзеш на зямлі. Тады*

*сказаў Каін Пану: Маё пакаранне занадта вялікае, каб вытрываць яго. Вось сёння Ты праганяеш мяне з паверхні зямлі, і я павінен хавацца ад абліччa Твайго і быць выгнаннікам і бяздомным на зямлі. Так кожны, хто спаткае мяне, можа забіць мяне. Але Пан сказаў: Не, калі нехта заб'е Каіна, таму адпомшчана будзе ўсямёра. І паставіў Пан знак на Каіна, каб кожны, хто сустрэне яго, не забіў яго. І пайшоў Каін ад абліччa Пана і пасяліўся ў зямлі Нод, на ўсход ад Эдэма...»* (Быц 4, 1–17) (4).

Сюжэт пра Каіна і Абэля скарыстаны ў аздабленні шэрагу еўрапейскіх касцёлаў, ён натхніў на стварэнне жывапісных палотнаў Антоніо Алегры да Карэджа, Тыцыяна, Якопа Тынтарэта, Альбрэхта Дзюрэра, Пітэра Паўэла Рубенса, Рэмбрандта і інш. Ён паслужыў магутным сюжэтным падмуркам для многіх літаратурных твораў, у тым ліку «трамелагедыі» італьянскага пісьменніка, заснавальніка нацыянальнай трагедыі класіцызму Вітторыо Альф'еры «Абэль», прысвечанай Вальтэру Скоту драматычнай містэрыі вялікага англійскага рамантыка Джорджа Гордана Байрана «Каін», верша агульнапрызнанага папярэдніка еўрапейскага сімвалізму, французскага паэта Шарля Бадлера «Абэль і Каін» (верш увайшоў у адзіны прыжыццёвы зборнік Бадлера «Кветкі зла»), верша вядомага нямецкага экспрэсіяніста Готфрыда Бена «Душа ў адзнаках тлену...». У той ці іншай ступені адгукнулася гэтая старазапаветная гісторыя ў многіх іншых творах сусветнай літаратуры — Фёдара Дастаеўскага, Томаса Мана, Уільяма Фолкнера, Хорхе Луіса Борхеса... Так, у рамане Ф. Дастаеўскага «Браты Карамазавы» матыў гэтай прытчы не толькі асацыятыўна распазнавальны ў сюжэце, але і гучыць самым непасрэдным чынам. На пытанне занепакоенага Алёшы пра брата Смердзякоў адказвае: *«Чаму ж бы я мог ведаць пра Дзмітрыя Фёдаравіча; іншая справа, каб я пры іх вартаўніком быў...»* (5, 254). Яшчэ бліжэй да адпаведнага месца ў прытчы словы Івана. *«Ды я тут што? Вартаўнік я, ці што, майму брату Дзмітрыю? — раздражнёна адрэзаў было Іван, але раптам неяк горка ўсміхнуўся. — Каінаў адказ Богу пра забітага брата, а?..»* (5, 260).

У беларускай літаратуры старазапаветная гісторыя пра Каіна і Абэля пазнаецца ў вершах Уладзіміра Караткевіча «Патоп (Старажытны беларускі апокрыф)», «Прыватная гісторыя» і іншых творах, у незавершаным рамане Кузьмы Чорнага «Вялікі дзень» (маецца на ўвазе забойства Адамам Блецькам зводнага брата Антона з-за зямлі), вершы Рыгора Барадуліна «Кайнасць» (увайшоў у кнігу «Ксты»), паэме Алеся Разанава «Жалеза» (*«Двое братоў / Выпраўляюцца ў поле, / А з імі — / Жалеза...»*; 6, 77), у п'есе Андрэя Курэйчыка «Страчаны рай» і інш. Нарэшце — у самога Васіля Быкава, у яго прысвечанай памяці У. Караткевіча і пасмяротна апублікаванай прыпавесці «Мурашкі» (*«Адамавы дзеці ўдаліся зусім не ў памяркоўнага Адама, а хто ведае ў каго яны ўдаліся. Яшчэ змалку пачалі дурэць і сварыцца...»*; 7, 4). Лёс першага ў гісторыі чалавецтва братазабойцы інтэрпрэтуе ў сваім вершы «Шлях Каіна» беларускі рускамоўны паэт Канстанцін Міхееў:

*Влача за собою мотыгу*
*в бурых кровоподтеках,*
*со дня рождения мира упрям,*
*угрюм, неприкаян,*
*в обнимку с собственной*
*тенью, ползущей следом*
*в потемках,*
*по всем пустырям вселенной*
*бредет одиноко Каин...*
(8, 196).

Ці не ўсе выразы з прытчы сталі крылатымі, а імёны братоў — свайго роду кодамі, цалкам пэўнымі знакамі, носьбіты ж гэтых імёнаў, Каін і Абэль, успрымаюцца культурнай свядомасцю чалавецтва як архетыпы — у шэрагу самых значных вобразаў, што ўзыходзяць да біблейскіх тэкстаў. Многія фразы з прытчы былі выкарыстаны ў якасці назваў вядомых твораў выяўленчага мастацтва, кінематографа (напрыклад, вядомая і беларускаму гледачу амерыканская кінастужка «Вартаўнік брату майму»), літаратуры (узгадаю толькі раманы грузінскага пісьменніка Атара Чыладзэ «І кожны, хто сустрэнецца са мною...» і беларускага празаіка Вячаслава Адамчыка «Голас крыві брата твайго»).

Да асэнсавання прытчы пра Абэля і Каіна неаднаразова звярталіся слынныя філосафы, як правіла, экстрапалюючы яе змест на крызісныя, трагічныя падзеі гісторыі і сучаснасці. Апошняя акалічнасць цалкам заканамерная; дастаткова нагадаць, што адпаведныя перыяды ў гісторыі розных краін часта знаходзяць адмысловыя характарыстыкі ў адной і той жа эмблематычнай вербальнай выяве *«І пайшоў брат на брата...»*. Цяжка перажываючы драматычныя падзеі ў Расіі пачатку XX ст., Васіль Розанаў гаварыў: *«Зямля ёсць Каінава і зямля ёсць Абэлева. І твая, рускі, зямля ёсць Каінава. Ты пракляў сваю зямлю і зямля пракляла цябе»* (9). Вячаслаў Іванаў узводзіў паказаную ў лёсах Каіна і Абэля трагедыю чалавецтва да індывідуалізму, адно з гранічна яскравых увасабленняў якога бачыў у багаборніцтве байранаўскага Каіна («Крызіс індывідуалізму»). Варыяцыі гэтай жа

тэмы знаходзім у яго працах «Ідэя непрымання свету», «Пра рускую ідэю», «Твар і маскі Расіі: Да даследавання ідэалогіі Дастаеўскага», у якіх ён апелюе да вобраза ўсё таго ж Каіна. Так, сцвярджаючы, што непрыманне свету, «багаборніцкае вар'яцтва», можа быць справядлівым і несправядлівым, прыклад першага В. Іванаў знаходзіў у лёсе Ёва («Ёў апраўданы»), а прыклад другога — у лёсе Каіна, які разам са сваімі нашчадкамі апынуўся сярод «нізрынутых», што, падобна да Люцыпара, не вытрымалі выпрабавання ў сутыкненні з цёмнымі сіламі. Выдатны мысліцель, аўтар рэлігійна-філасофскіх і этычных працаў (дарэчы, нараджэнец Віцебскай губерні) М.А. Лоскі, спрабуючы вытлумачыць «усе недасканаласці» чалавека і прыроды, высветліць прычынна-выніковыя сувязі падзей у свеце, цытуе ў сваёй кнізе «Бог і сусветнае зло» словы з працы М. Бярдзяева «Аб прызначэнні чалавека: Досвед парадаксальнай этыкі»: *«Маральная свядомасць пачалася з пытання Бога: Каін, дзе брат твой Абэль? Яна скончыцца іншым пытаннем Бога: Абэль, дзе брат твой Каін?»* (11, 378).

Паспрабуем жа высветліць, якім чынам засвойвае старазапаветную прытчу Васіль Быкаў у аповесці «Сотнікаў» — толькі ў агульнавядомым этычным стрыжні ці больш дэталёва, як адбіваецца яе прысутнасць на мастацкай сістэме твора ў цэлым, якія эстэтычныя функцыі выконваюць у ім алюзіі на змест, канфлікт, сімволіку біблейскага тэксту.

Спынімся найперш на семантыцы мірных заняткаў біблейскіх і быкаўскіх герояў. Каін, паводле прытчы, — земляроб, яго брат Абэль — пастух. Рыбак, літаратурны нашчадак Каіна, — таксама земляроб, селянін. Сотнікаў, відавочным пратыпам якога ёсць Абэль, скончыў, як вядома, двухгадовы настаўніцкі інстытут і паспеў папрацаваць настаўнікам. Залішне нагадваць, што пастухоўства, пастырства традыцыйна асацыіруецца (і найперш у самой Бібліі) з выхавальніцтвам, настаўніцтвам. Такім чынам, старадаўняй антыноміі «Абэль — Каін» цалкам адпавядае антынамія «Сотнікаў — Рыбак»; абедзве ўтвараюць антытэзу «духоўнае — матэрыяльнае», якая семантычна нібы перарастае сябе і абяртаецца апазіцыямі «дабро — зло», «адданасць — здрадніцтва», «святло — цемра», «высокае — нізкае», «боскае — д'ябальскае» і да т. п.

Антытэза «духоўнае — матэрыяльнае» самым непасрэдным чынам падмацоўваецца (ці замацоўваецца) семантыкай імёнаў як біблейскіх, так і быкаўскіх персанажаў. Згодна з лінгвістычнымі росшукамі, імя «Каін» месціць у сабе агульнасеміцкі корань са значэннем *«каваць»*, *«каваль»* — заняткам, паводле паданняў, магічным і пагрозлівым для іншых людзей. Апрача таго, Б. І. Берман бачыць этымалагічную сувязь імя «Каін» са старажытнаяўрэйскім дзеясловам *«кана»* (*«каніці»*) — *«набываць уласнасць, рабіць сваім»* (12, 95). У сваю чаргу, расійскі знаўца Бібліі Дз. У. Шчадравіцкі таксама заўважае, што імя «Кайін», «Каін» ёсць вытворным ад дзеяслова *«кана»* (*«набываць уласнасць»*); апрача таго, паводле Дз. У. Шчадравіцкага, слова «кайін» *«азначае медную або жалезную дзіду: гэта чалавек, які нібы са зброяй у руках ахоўвае сваю ўласнасць і імкнецца да яе прымнажэння»* (13, 63). Такім чынам, імя «Каін» не толькі стасуецца са сферай матэрыяльнай, але ёсць і адэкватам натуры яго носьбіта — зайздроснай, раўнівай, жорсткай. У святле ж нашай тэмы семантычна значным уяўляецца нават разыходжанне паміж сапраўдным заняткам Каіна (земляроб) і закладзеным у яго імені (каваль), бо адпаведная супярэчнасць дае аб сабе знаць і ў выпадку з яго быкаўскім двайніком (земляроб паводле занятку — рыбак паводле прозвішча).

Што да імя «Абэль» (або «Гэвель»), то даследчыкі лічаць, што яно паходзіць ад дзеяслова *«гавбль»* — *«дзьмуць»*, *«дыхаць»*. «Я пераклаў бы гэтае імя, — піша Б. І. Берман, — словам *«тленнасць»* (руск. *«бренность»*. — Е. Л.). Гэвель — гэта той, чыё існаванне абрываецца, не абавязкова гвалтоўна, але па самой сваёй прыродзе...марнасць, тленнасць, тое, што рассейваецца, нібы пара» (12, 96). У процілегласць Каіну, вытворцу матэрыяльных каштоўнасцяў, чалавеку прыземленаму, цалкам звернутаму вонкі, які ўсё разумее «рэальна» і «канкрэтна», Абэль — «чалавек духу, чалавек «паветранай лёгкасці», не прывязаны да зямлі, пастух» (13, 63). Гэткі і яго двайнік Сотнікаў, у якога — у адрозненне ад Рыбака з яго пяццю класамі, з маленства цяжкай фізічнай працай, спадзевам выключна на свае фізічныя сілы, на кемлівасць і спрытнасць, — была «іншая ступень свабоды», больш магчымасцяў, прычынаў і нагодаў для працы сузіральна-пазнавальнай, для роздуму, падрыхтоўвання сябе да маральнага выбару і духоўнага подзвігу, што прывёў яго на шыбеніцу і — узняў, узнёс над смерцю і часам. Памятаючы пра суадносіны паняццяў «пастухоўства», «пастырства», «настаўніцтва», зноў прыслухаемся да меркавання знаўцы Святога Пісання Б. І. Бермана: «Вядома, задача чалавека — рабіць на зямлі (не ператвараючыся, аднак, у раба зямлі, аб чым Усявышні асабліва клапоціцца ў многіх месцах Бібліі),

але духоўных вышыняў хутчэй за ўсё можна дасягнуць, будучы пастухом...усе прабацькі — пастухі» (12, 96).

Сотнікаў — увасабленне стаіцызму, што не можа сфармавацца сам па сабе і не даецца чалавеку адпачаткава, без папярэдняй маральна-інтэлектуальнай працы, ён заўсёды — плён духоўнасці, што набываецца ў выніку паслядоўных намаганняў, плён духоўнай мужнасці, маральнага светабачання, усвядомленай, выхаванай у сабе ахвярнасці. Плён, кажучы словамі самога В. Быкава, «катаржна-жыватворнай працы душы» («Мужнасць»; 1, 452). Дастаткова прасачыць за экзістэнцыяльнымі роздумамі Сотнікава (якія часам сапраўды збліжаюцца з экзістэнцыялісцкімі), за паслядоўнасцю яго прыярытэтаў — у залежнасці ад зменлівых абставінаў. Калісьці ён баяўся загінуць, бо ўласны ваенны досвед пастаянна пераконваў яго ў неабвержнасці думкі, «што адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце — яго жыццё. Калі-небудзь у дасканалым людскім грамадстве яно стане катэгорыяй-абсалютам, мерай і цаною ўсяго» (14, 57). Выходзячы жывым з чарговага бою, ён прытоена радаваўся, «што куля абмінула яго», — пры тым што і на фронце, і цягам пяці партызанскіх месяцаў ён рабіў усё «для свайго абавязку грамадзяніна, байца і камуніста». І вось цяпер, апынуўшыся на «сваім галоўным рубяжы», у памежнай (паводле вызначэння ўсё тых жа экзістэнцыялістаў) сітуацыі, калі чалавек «пераставаў быць чалавекам і ператвараўся ў часова жывую істоту, пазбаўленую права і цалкам аддадзеную ва ўладу гэтае банды наймітаў», калі пра звычайную салдацкую смерць нават і марыць не выпадала, Сотнікаў знаходзіць у сабе новыя магчымасці і якасці. Адмёўшы ўсякія ілюзіі адносна ўласнай будучыні, ён — у становішчы смяротніка — умацоўваецца ў сваёй незалежнасці ад ворага, непадуладнасці яму, у сваёй «перавазе над іншымі і над сабой ранейшым таксама». Апошняй і неаспрэчнай — «перавазе смяротніка», «галоўнай і ўжо напэўна апошняй рэальнай каштоўнасці ў яго жыцці». «І Сотнікаў проста і лёгка, як штосьці элементарнае і зусім лагічнае ў яго становішчы, прыняў апошняе цяпер рашэнне: узяць усё на сябе», ахвяраваць сабой дзеля паратунку астатніх, праз смерць сцвердзіць, «здзейсніць тое, што не паспела здзейсніць жыццё» (14, 122). А іменна — надаць сэнс апошняму, абвергнуць яго выпадковасць і абсурднасць, як зрабіў гэта стары палкоўнік, міжвольным і нябачным сведкам перадсмяротнага лёсу якога стаўся Сотнікаў: пакалечаны немцамі ў час допытаў, з перабітымі кісцямі рук, затым расстраляны, палкоўнік за тыя некалькі хвілін перад расстрэлам перажыў сапраўдны трыумф, здзейсніў подзвіг не меншы, чым той, якім ёсць смерць байца на полі бою. Мусіць, не толькі прыклад бацькі, героя грамадзянскай вайны, але і гэты выпадак з палкоўнікам таксама адыграў сваю выхаваўчую, настаўніцкую ролю ў духоўным станаўленні Сотнікава, у яго «ўзыходжанні».

Зноўку ўзгадаем: В. Быкава, паводле яго ўласных прызнанняў, заўсёды прыцягвалі маральныя аспекты чалавечых паводзінаў, глыбока цікавіла прырода найперш «подзвігаў духу». «З часоў Ісуса Хрыста і першых хрысьціянаў, — скажа пісьменнік у «Доўгай дарозе дадому» ў сувязі з іншым сваім творам пра «подзвіг духу», аповесцю «Абеліск», галоўны герой якой таксама настаўнік, таксама «пастыр», — дух стаў немалаважным фактарам у барацьбе за выжываньне нацый ці этнасаў, — ня меней важным за фізычную сілу, якая ў старажытнасьці вырашала ўсё. Ды і ў самой літаратуры ўсё большую прыцягальнасьць набывалі, так бы мовіць, подзьвігі інтэлігенцкія, а не толькі салдацкія. Апошнія былі як бы трывіяльнай справай, тым больш на вайне. Калі ж подзьвіг зьдзяйсьняе той, хто прызначаны зусім для іншае, мірнай справы, тое ўжо ёсьць штось выключнае і набывае асаблівае значэньне» (2, 338–339). Значэнне, дададзім, не практычна-прагматычнае, а экзістэнцыяльна-існаснае. Сотнікаў здзяйсняе менавіта такога кшталту подзвіг. Яго сэнс — у сцвярджэнні маральнага выбару, моцы чалавечага духу, у наданні мужнасці тым, хто разам з ім ідзе на шыбеніцу, і тым, хто застаецца. Многа гэта ці мала? Ф. М. Дастаеўскі ў працэсе падрыхтоўкі да напісання рамана «Ідыёт», маючы на ўвазе князя Мышкіна, занатаваў: «Бяссілле дапамагчы. Ланцуг і надзея. Зрабіць няшмат» (15, 24). З гэткіх «звенняў» у «ланцугу» — і подзвіг Сотнікава.

Зноў жа, у сувязі з вышэйсказаным і па аналогіі з прозвішчам Рыбака і імем Каіна, звяртае на сябе ўвагу разыходжанне паміж мірнай (настаўніцкай) прафесіяй Сотнікава і этымалогіяй яго прозвішча. Апошняе, відавочна, паходзіць ад слова «сотнік», усе значэнні якога звязаны з вайсковай справай: «начальнік сотні воінаў у старажытнай Русі», «камандзір сотні ў стралецкім войску Расійскай дзяржавы XVI–XVII стст.», «ваенны чын у казацкім войску дарэвалюцыйнай Расіі» (16, 211). Застаецца, дарэчы, толькі падзівіцца быкаўскаму майстэрству аповеду, логіка якога — нават на такім глыбінным, сімвалічным узроўні — паслядоўна вядзе чытача да ўсведамлення неспра-

вядлівасці і жорсткасці ваеннай рэчаіснасці, што прымушала чалавека адмовіцца ад свайго сапраўднага прызначэння і рыхтавала яму зусім іншы лёс.

Нельга абмінуць увагай і такую, безумоўна, невыпадковую дэталь: імя Рыбака (Коля) у рэшце рэшт чытач даведваецца з успамінаў персанажа пра сваё вясковае дзяцінства, калі ён, як і цяпер, апынуўся перад «пагрозлівай круцізной абрыву» (14, 120), толькі тады ён не разгубіўся, не спалохаўся, знайшоў годнае выйсце; а вось імя Сотнікава так ні разу і не прагучыць у аповесці. Цалкам магчыма, што такім спосабам (у шэрагу іншых, у тым ліку з алюзіямі на Біблію, мастацкіх прыёмаў) аўтар дэкларуе сімвалічна-філасофскую абагульненасць гэтага вобраза.

Кожная дэталь увогуле вельмі істотная ў быкаўскай паэтыцы, у тым ліку ў абраным намі ракурсе. Да прыкладу, у святле старазапаветнай прытчы (і, зразумела, Бібліі ў цэлым) з яе найістотнейшым, сюжэта-, канфлікта- і сэнсастваральным матывам ахвярапрынашэння не падлягае сумневу невыпадковасць зааморфнага кода ў быкаўскай аповесці — вобраза авечкі. Агульнавядома, што вобраз авечкі, ягняці ў сусветнай культурнай традыцыі — у працяг яго біблейскага зместу — па сёння прачытваецца як сімвал нявіннай ахвяры, *Agnus Dei*. Параўнаем, напрыклад: *«Цяжка прыгнечаны, ён скарыўся і не адкрываў вуснаў сваіх. Маўчаў, як ягнё, якое вядуць на зарэз, як авечка перад тымі, хто стрыжэ яе. Не адкрыў вуснаў сваіх»* (Іс 53, 7). Або згадваем эпізод смерці Сотнікава: паставіць апошнюю кропку — выбіць цурбан з-пад яго ног — павінен «нядаўні сябар» Рыбак, які збянтэжана курчыцца ўнізе, «баючыся і, мабыць, не могучы наважыцца на апошнюю і самую страшную цяпер справу». А калі Сотнікаў, апярэджваючы непазбежнае, пазбавіў Рыбака ад гэтага апошняга грэху, той так і «не адважыўся зірнуць на яго твар» і «бачыў перад сабой толькі жахліва выпрастаныя ў паветры ногі» шыбеніка. Вернемся да аднаго з месцаў прытчы пра Каіна і Абэля: *«І сказаў Пан Каіну: Чаму засмуціўся ты, і чаму спахмурнеў твар твой? Калі ты робіш добра, ці не павінна быць узнята аблічча тваё?»* (Быц 4, 6–7).

Знітаваным са старазапаветнай прытчай бачыцца і фінал «Сотнікава». Успомнім словы Бога, звернутыя да Каіна: *«Што зрабіў ты? Голас крыві твайго брата ўсклікае да Мяне з зямлі. Цяпер ты пракляты на зямлі, якая раскрыла свае вусны і прыняла кроў твайго брата ад рукі тваёй... Выгнаннікам і бяздомным будзеш на зямлі... паставіў Пан знак на Каіна, каб кожны, хто сустрэне яго, не забіў яго»* (Быц 4, 10–15). Адсюль, як вядома, пайшоў выраз «Каінава пячатка»; нагнала, насцігла гэтае нязмыўнае ганебнае кляймо і здрадніка Рыбака, цяпер таксама, умоўна кажучы, «выгнанніка і блуканца», для ўсіх чужаніцу з чужаніцаў, які нават ужо дабрахоць пайсці з жыцця не можа і нязменнымі спадарожнымі якога ёсць і будуць цяпер страх і згрызоты сумлення. Ці не ўсё таму ж, у сімвалічна-біблейскім сэнсе, што сама зямля не жадае прыняць яго апаганенай, панішчальна-атрутнай крыві? Вядомы англійскі этнограф і гісторык рэлігіі Дж. Дж. Фрэзер параўнаў матыў «Каінавай пячаткі» са звычаямі, якіх прытрымліваюцца народы ў самых розных кутках зямлі. Аказваецца, многімі плямёнамі і абшчынамі забойца (тым больш забойца кроўнага сваяка) успрымаўся і ўспрымаецца як крыніца патэнцыяльнай пагрозы для людзей і самой зямлі і падлягае выгнанню або ізаляцыі. «Забойца, — піша даследчык у кнізе «Фальклор у Старым Запавеце», — чалавек зачумлены, атачаны атрутнай атмасферай, заражаны дыханнем смерці; адзін толькі дотык ягоны нішчыць зямлю» (17, 50). Прынцыпова важна, што як у біблейскім паданні, так і ў быкаўскай аповесці размова ідзе пра стасункі з зямлёй менавіта земляроба.

Пракляты і выгнаны, *«пайшоў Каін ад аблічча Пана і пасяліўся ў зямлі Нод, на ўсход ад Эдэма»* (Быц 4, 16). Будучыня Каіна незайздросная: заўсёднае адчуванне небяспекі, страх, адчужанасць і непрыкаянасць, існаванне са страхам перад іншымі, перад сабой і ўнутры сябе, з усведамленнем уласнай смерці, бо сакральна, «містычна, — па словах Дз. Шчадравіцкага, — усе людзі ёсць нібы адзін чалавек...-той, хто губіць блізкага свайго, губіць самога сябе» (13, 67). Гэта добра паказана ў байранаўскай містэрыі «Каін». На пытанне братазабойцы:

*...ці не магу я ўласнай смерцю*
*Прах брата ажывіць?*
*Чаму б і не —*
*Няхай ён сёння ж вернецца*
*ў жыццё,*
*А я ў зямлю сыду халодным*
*прахам...*
*Бо цяжка мне блукаць*
*з жыццём сваім... –*
*Анёл, выканаўца волі Бога,*
*адказвае:*
*Забітага ніхто не ўваскрасіць.*
*Што зроблена, таго назад*
*не вернеш.*
*Ідзі за днямі ўслед і пі да дна*
*Свой кубак гора, вызначаны*
*лёсам* (18, 329).

Але дакладна гэткі ж незайздросны і далейшы лёс Каіна-Рыбака (пры ўсёй сэнсавай нятоеснасці з байранаўскай інтэрпрэтацыяй): ён яшчэ гоніць ад сябе думку пра ўласнае дачыненне да расправы над Сотнікавым, яшчэ

спрабуе перакласці віну «на час, на абставіны», на вайну, немцаў, паліцыю, але — запозна, ён ужо ў зграі «пераможцаў», і з гэтага строю звароту назад няма. Усё больш выразна Рыбак усведамляе, што «гэтаю ліквідацыяй яго скруцілі лепш, чым учора супоняй. І хоць пакінулі жывога, але нейкім чынам таксама ліквідавалі», знішчылі «назусім, і самым неспадзяваным чынам». «Цяпер ён скрозь вораг. Усім. І, пэўна, самому сабе таксама... І на чорта яму цяпер тое жыццё? Каб служыць немцам?» (14, 144). І вось ужо няма «нават магчымасці выканаць сваю апошнюю волю» (14, 145) — звесці рахункі з жыццём, якое абярталася «неадольнай роспаччу», «катастрофай». Брудная прыбіральня і тая адмаўляе яму ў апошнім прыстанку. Сапраўды, «што зроблена, таго назад не вернеш...». Так абрынаецца тое, што Фёдар Дастаеўскі называў «арыфметычным гуманізмам», Джордж Оруэл пазней — «здаровым арыфметычным сэнсам», а сам Васіль Быкаў — «прымітыўным прагматызмам».

Але ці не самае галоўнае, што лучыць твор беларускага пісьменніка са старазапаветнай гісторыяй (і рознымі яе літаратурнымі інтэрпрэтацыямі), — гэта адвечная праблема асабістага выбару. Бог упершыню ўзаемадзейнічае з Каінам не як з чалавекам наогул, а як з канкрэтнай асобай; «з Каіна, — заўважае Б. І. Берман, — пачаліся асабістыя стасункі чалавека і Усявышняга». Больш за тое, я б сказала, гэта асабістыя стасункі з кожным будучым чалавекам, калі б ён ні нарадзіўся, якая б часавая дыстанцыя ні аддзяляла яго ад першай у гісторыі чалавецтва магілы. Той жа Б.І. Берман цалкам слушна мяркуе, што ў разуменні адказу Каіна «не ведаю, ці ж я вартаўнік брату майму?» многае залежыць ад таго, на якое слова будзе пастаўлены націск (а значыць, ад таго, хто прамаўляе, асэнсоўвае словы Каіна). Ці ж я — **<u>вартаўнік</u>**? Або: ці ж **<u>я</u>** — вартаўнік? Ці ж не Ты, Божа, вадзіў маёю рукой, ці не Ты ўклаў камень у яе, бо Ты ж ёсць вартаўнік усіх, Твая на ўсё воля? А можна змадэляваць і іншую акцэнтавую пазіцыю — на першыя словы: «**<u>не ведаю</u>**». Бо й насамрэч, ці мог ведаць Каін, якая цяжкая гэтая ноша — забойства, як невыносна з ёю існаваць; ці мог ён ведаць, што не забіваць ён мусіў брата, а ахоўваць яго? Паводле вырашэння праблемы выбару, усе мы без выключэння падзяляемся на нашчадкаў Абэля і нашчадкаў Каіна. Выбар, мажлівасць якога закладзена ў сюжэце біблейскай гісторыі, робіцца і персанажамі В. Быкава. І намі. Дзеля гэтага, па вялікім рахунку, напісаны твор.

Ці не супярэчыць прачытанне аповесці В. Быкава ў старазапаветным кантэксце кантэксту новазапаветнаму? На мой погляд, ніколькі. Найперш спашлюся на аўтарскае выказванне, не ўлічыць якое было б проста недаравальна. У «Доўгай дарозе дадому» В. Быкаў цалкам недвухсэнсава — і, падкрэслю, менавіта ў сувязі з «Сотнікавым», яго задумай і сутнасцю, — адсылае нас якраз да гісторыі першага братазабойства: «Аповесць “Сотнікаў”... нарадзілася ня так “з галавы”, як з пачуцьцяў, што былі натхнёныя хутчэй не вайной, а нашай сучаснасьцю. Вядома, можна сказаць, што сюжэт біблейскай прыпавесьці пра Абэля і яго брата Каіна жыве ў чалавецтве даўно і праяўляецца рэгулярна, у вайну тым болей. Але калі ў іншы час брат забіваў брата дзеля карысьці — спадчыны ці багацьця, дык у вайну — дзеля элемэнтарнае, біялягічнае мэты выжыць. Тое быццам апраўдвала або, прынамсі, давала штось зразумець у шэрагу тагачасных матываў і наступстваў» (2, 310) (далей пісьменнік распаўсюджвае змест прытчы на пасляваенную, найперш літаратурную, далёка не мірную ў пэўным сэнсе рэчаіснасць).

Але справа не толькі ў гэтым аўтарскім сведчанні. На мой погляд, алюзіўны патэнцыял аповесці В. Быкава ёсць арганічным сінтэзам кампанентаў Старога і Новага Запавету — можа, нават незалежна ад намераў пісьменніка, але, без сумневу, дзякуючы яго неперайзыдзенаму таленту.

Літаратура


1. Быкаў В. Публіцыстыка // Быкаў В. Зб. тв.: У 6 т. Т. 6. — Мінск, 1994.
2. Быкаў В. Доўгая дарога дадому. — Мінск, 2002.
3. Гоголь Н. В. Предметы для лирического поэта в нынешнее время // Гоголь Н. В. Собр. соч.: В 8 т. Т. 7. — Москва, 1984.
4. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / Пер. В. Сёмухі. Duncanville, USA: World Wide Printing, 2002.
5. Достоевский Ф. М. Братья Карамазовы // Достоевский Ф.М. Собр. соч.: В 15 т. Т. 9. — Ленинград, 1991.
6. Разанаў А. Жалеза // Разанаў А. Гліна. Камень. Жалеза. — Беласток, 2000.
7. Быкаў В. Прыпавесьці // Дзеяслоў. 2004. 10.
8. Михеев К. Стихи Мнемозине. — Москва, 2002.
9. Розанов. Апокалипсис нашего времени. — Москва, 1990.
10. Иванов Вяч. Родное и вселенское. — Москва, 1994.
11. Лосский Н.О. Бог и мировое зло. — Москва, 1999.
12. Берман Б. И. Библейские смыслы: Книга первая. — Москва, 1997.
13. Щедровицкий Д. В. Введение в Ветхий Завет. Т. 1: Книга Бытия. — Москва, 1994.
14. Быкаў В. Сотнікаў // Быкаў В. Зб. тв.: У 6 т. Т. 2. — Мінск, 1992.
15. Достоевский Ф. М. Полн. собр соч.: В 30 т. Т. 9. — Ленинград, 1974.
16. Словарь русского языка: В 4 т. Т. 4 / Гл. ред. А.П. Евгеньева. — Москва, 1988.
17. Фрэзер Д. Д. Фольклор в Ветхом Завете. — Москва, 1986.
18. Байран Д. Г. Каін / Пер. У. Дубоўкі // Байран Д. Г. Выбранае. — Мінск, 1963.

# ЗБУДАВАЦЬ СВОЙ КАЎЧЭГ




Рыгор Барадулін. Anima: паэзія. – Мінск, Рыма-каталіцкая парафія святых Сымона і Алены. – 452 стар.

Адна з памятных падзеяў 2011 года — у Ерузалеме з’явілася табліца з тэкстам малітвы «Ойча наш» на беларускай мове. Падобных мемарыяльных таблiцаў — на многіх мовах — там усталявана больш за тры сотні, цяпер і паломнік з Беларусі можа спыніцца каля сваёй і прачытаць: «Ойча наш, каторы ёсць у небе...». Кожны добры хрысціянін ведае гэтую малітву напамяць, праўда, яе праваслаўны і каталіцкі варыянты адрозніваюцца. І мне неаднойчы даводзілася чуць, як рознаканфесійныя вернікі падчас супольнага набажэнства збіваліся, не патраплялі ва ўнісон, дакорліва паглядаючы адзін на другога.

Рыгора Барадулін стварыў трэці варыянт малітвы «Ойча наш» у сваім таленавітым паэтычным пераказе: *«Ойча наш, што ў нябёсах, / хай свяціцца Імя Твае і ў зорах, і ў лёсах. / Хай прыйдзе Валадарства Твае, як спатоля, / хай Твая ўсеўладарная збудзецца воля / як на небе, гэтак і на зямлі. / Хлеб наш надзённы пашлі, / Жыццядар, сёння нам / і даруй нам нашы даўгі, / як даруем і мы даўжнікам».*

У сваёй новай кнізе «Anima», якую летась выдала Рыма-каталіцкая парафія святых Сымона і Алены, Рыгор Барадулін не толькі «Ойча наш» зарыфмаваў. Паэт працягвае свой высокі дыялог з Богам, распачаты яшчэ на старонках кнігі «Ксты» (2005), якая па сваёй спавядальнасці, малітоўнасці, па змесце сваім хрысціянскім не мае сабе роўных у беларускай паэзіі. Біблейскія тэксты тысячы разоў ператалумачаныя, мільёны разоў прачытаваныя, хто іх толькі ні выкарыстоўваў у якасці будматэрыялу для ўласных твораў! Здавалася б, немагчыма застацца першапраходцам, ідучы па безліч разоў таптаных сцежках. Аказваецца — магчыма. Калі ты сапраўдны вершапраходзец, то ты – першапраходзец усюды. Што нам і дэманструе Рыгор Барадулін, у кім шчасліва спалучыліся гэтыя дзве якасці.

Паэзія — мастацтва хадзіць па вясёлцы. Пахіснешся — упадзеш, засумняваешся ў цвердзі пад нагамі — упадзеш таксама. А ісці па вясёлцы і весці дыялог з Богам — занятак архіскладаны. У свой час Янка Купала, губляючы веру ў народ, роспачна выкрыкнуў: *«Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа, / калі ты Цар і неба, і зямлі!»*. І ад гэтага лёгкасумнеўнага «калі» восілка вясёлкі хіснулася пад паэтам так, што мільёны вачэй ад страху прымружыліся: упадзе — не ўпадзе... Не ўпаў. Ішоў яшчэ доўга. Пакуль не дапамаглі, не падпіхнулі...

Рыгор Барадулін не размаўляе з Богам на мове ўльтыматумаў. Ён таксама ўмее хадзіць па ўскраі (па вясёлцы як ні ступі — скрай), але мяжу адчувае: *«Белую аблачынку вішні, / здаецца, выдыхнуў Усявышні»*, *«Ізной жывыя нада мной, / як думкі Госпада, аблокі»*, *«Зямля — парушынка ў Гасподнім воку»*. Чытаеш такое і пачынаеш бачыць свет і сусвет у нейкім касмічным маштабе. Як астранаўт, які прылецеў на Месяц. Ці падабаецца гэта Таму, Хто, па словах паэта, думае аблокамі? Відаць, падабаецца. Нездарма ж кажуць, што паэзія — ад Бога. Калі б не падабалася, атрымаў бы паэт пажыццёвую пячатку на вусны — а гэта для творцы як найвышэйшая мера. З другога боку, знакі звыш нам увесьчасна пасылаюцца, трэба іх толькі бачыць і распазнаваць. Ехалі мы аднойчы з Рыгорам Барадуліным на Вушаччыну — на адкрыццё музея Васіля Быкава ў Бычках. Перад паваротам на Бараўляны Барадулін кажа: «А вось тут Васілё-

ва машына заўсёды ламалася». І толькі ён гэта прамовіў, як мая да гэтай пары безадмоўная «Аўдзі-80» пару разоў чмыхнула і заглухла. І завёў яе толькі выкліканы па тэлефоне рамонтнік, з добрую гадзіну пакорпаўшыся пад капотам. Што гэта было — выпадковасць ці знак?

У Бычкі і Вушачу мы тады ўсё ж даехалі. І загаварылі вушацкія краявіды да мяне вершамі Барадуліна. Адчуванне было — быццам нямое кіно праста пры табе агучылі. І наш настрой таксама падымаўся «на дыбачкі над возерам ля Глыбачкі», дзе ён заўсёды распагоджваўся ў Васіля Быкава. І бачылі мы, як на ўскрайку амаль адзічэлага саду *«маладзюткі туман сівеў»*. І чулі, як на ўсе лады за вокнамі барадулінскай хаты гаманіла брукаванка, пакрытая парэпанымі панцырамі камянёў. Заязджалі мы тады і на стары вушацкі могільнік, дзе паэт так проста і натуральна пацалаваў барэльеф маці на пацямнелым ад часу помніку...

Сваю малую радзіму Барадулінператварыў у вялікую — у літаратурным вымярэнні. Вушаччына столькі яму дала як паэту, а ён усё ёй вярнуў — як доўгатэрміновую пазыку, з залатымі адсоткамі сваёй паэзіі. І сёння я, чытаючы ў новай кнізе «Ліст Васілю Быкаву ў Нямеччыну» *(«На бацькоўшчыне ў даўнюю хату заходзь, / вінавата сагніся ў малебным паклоне»)*, прыгадваю нізкія дзверы быкаўскай хаты, што сапраўды ад кожнага наведніка вымагалі паклону. Прызнацца, я спачатку думаў, што гэта — цяслярскія недаробкі, а тут, як аказалася, цэлая жыццёвая філасофія. Пакланіцца хаце. Пакланіцца маці. Каб потым, набраўшыся ад іх сілы, адчуць сябе іхнім апошнім і бясстрашным заступнікам: *«Ірве стаеннік павады, / на волю скача. / Мне адступаць няма куды — / за мной Вушача»*.



У касцёле святых Сымона і Алены на прэзентацыі кнігі «Ксты». 2005 г.

За Барадуліным — не толькі Вушача. Хто абароніць беларускую мову перад навалай чужамоўнага цунамі? Ніякімі дамбамі тут не абгародзішся, ніякімі шчытамі не прыкрыешся. Мову ўратуе толькі шэдэўр, створаны на ёй. Значыць, паэт — самы эфектыўны абаронца мовы. Вобразна кажучы, творчасць Барадуліна — гэта і ёсць той Ноеў каўчэг, у якім мова беларуская выплыве ў будучыню праз усе цунамі.



Рыгор Барадулін у сваёй мінскай кватэры. Снежань 2011 г.

Рыгор Барадулін афарыстычны — у сваіх ахвярынках (так называюцца ягоныя двух-чатырохрадкоўі). Барадулін па-апостальску мудры — у «Псальмах Давідавых» і «Біблейскіх баладах». Барадулін вынаходлівы і нечаканы — у кожным вершы, а іх у кнізе больш за тры сотні. Часам уражваюць не толькі вершы, але і подпісы пад імі. Так, верш «Як па сухому...» напісаны ў рэанімацыі мінскай лечкамісіі 24 лютага 2007 года, калі жыццё паэта вісела на валаску. Жыццё на валаску вісела, а ён перажываў, што... верш запісаць не паспее. Верш запісаць не паспее — значыць, выратавальны каўчэг для мовы не дабудуе. У свой час Бог падоўжыў век Ною, які пасля сусветнага патопу пражыў яшчэ

350 гадоў. Падоўжыў Бог век і паэту. Каўчэгабудаўнікі мусяць жыць доўга.

Не ведаючы яшчэ і пра гэткую — выратавальніцкую — місію паэта, сёй-той часам змmanьвае яго з радзімы, абяцаючы на чужыне залатыя горы. Гадоў пяць таму Рыгор Барадулін атрымаў з адной з каўказскіх рэспублік за пераклады з тамтэйшай паэзіі незвычайны ганарар — папаху, бурку і... сертыфікат на валоданне ладнай дзялянкай зямлі ў адным з аулаў. Шчодры ганарар. Беспрэцэндэнтны ў гісторыі беларускай літаратуры. Магчыма, нехта і пакваліўся б на тую нятанную зямлю. Але — не Барадулін. Бо за ім — Вушача, бо за ім — недабудаваны каўчэг, бо гэта ж ён сам сабе вызначыў звышмэту: «Паэт, ствары сабе Радзіму!». І ён яе створыць, калі ўлягуцца цунамі, а каўчэг ягоны прыткнецца да зямное цвердзі.



На сустрэчы з чытачамі ў полацкім Цэнтры народных рамёстваў. 2008 г.

«Anima» (у перакладзе з лаціны — душа) — дзясятая па ліку кніга Рыгора Барадуліна, выдадзеная Чырвоным касцёлам. Яго пробашч, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк — сам паэт, аўтар летапіснай паэмы «Так хацеў Бог!», прысвечанай фундатару касцёла Эдварду Вайніловічу. У сваіх казаннях ксёндз — яшчэ і бліскучы прамоўца — часта цытуе вершы Рыгора Барадуліна. І, падаецца, ім у Чырвоным касцёле ўтульна, яны там прыжыліся, як тыя ластаўкі ў стрэсе ці жаўрукі ў паднябессі. «Сонцакрылы жаўранак кахання», — любіць пасмакаваць ксёндз Уладзіслаў выдатны барадулінскі вобраз, які сее святло ў душы вернікаў не раўнуючы як касцёльны абраз. Паслухаеш, і міжволі прыгадаецца польскамоўны выраз *cały w skowronkach — увесь у жаўруках.* Гэтак палякі называюць нечым нечакана ашчаслівленага чалавека. Ксёндз цытуе Барадуліна шчодра, і неўзабаве відно, што і ён — увесь у жаўруках барадулінскай паэзіі, і ўсе вернікі — у тых жаўруках. У такія хвіліны ў храме — свята.

Касцёл выдае кнігі Барадуліна, у касцёлах жа ладзяцца і сустрэчы з паэтам. Аўтару гэтых радкоў давялося быць удзельнікам адной такой сустрэчы — у адноўленым храме святога Лаўрэна ў Вушачы. У светлай святыні не было дзе яблыку ўпасці — на спатканне са сваім паэтам з'ехалася ўся ваколіца, прыехаў з Віцебска і біскуп Уладзіслаў Блін. І як жа духаўздымна гучала з амбоны барадулінскае слова — як своеасаблівая паэтычная казань ясным велікодным днём:

*Чарнобыльскі жах*
*Не ўпалыніць наш лёс.*
*І стане пагодлівым летам*
*Прадвесне.*
*Хрыстос уваскрос!*
*Хрыстос уваскрос!*
*Хрыстос уваскрос!*
*І наш Край уваскрэсне!*

Гучанне вершаў у храме — выпрабаванне для іх, бо намоленая прастора вельмі чуйная да слова гарманічнага, якое гучыць у згодзе і лагодзе са Словам, што было напачатку. Вершы Рыгора Барадуліна такое выпрабаванне вытрымліваюць. Кніга «Anima» можа шмат каму дапамагчы зрабіць крок насустрач Богу — нават з цемры бязвер'я і з прорвы ліхадзейства, куды нас часам кідае жыццё. Нескланяльная «Anima» — як нясхільная душа Паэта, які з году ў год, нястомна і адказна будуе свой беларускі каўчэг — дзеля нашага ж уратавання.

*Міхась СКОБЛА*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі ХХ ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі ХХ ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.



**Алесь Гібок-Гібкоўскі —**
паэт, публіцыст, эсэіст.
Нарадзіўся 1 лютага 1952 г.
у вёсцы Рупейкі Ваўкавыскага раёна
Гродзенскай вобласці.
У 1971 г. закончыў Мінскі
машынабудаўнічы тэхнікум,
у 1995 — вячэрняе аддзяленне
філалагічнага факультэта БДУ.
Лаўрэат прэміі «Залатое пяро» БСЖ,
прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі
ў галіне журналістыкі.
Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.
Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч» (2007).
Пераклаў на беларускую мову
кнігу Дж. Радыры «Прыгоды Чыпаліны» (2010).

# Алесь Гібок-Гібкоўскі

## БАЦЬКА

*Светлай памяці бацькі —*
*Сямёна Фёдаравіча*
*прысвячаецца*

Як шмат з таго часу мінула...
Амаль стаў нябачным след...
Быў люты — месяц пануры,
страшэнна злосны на свет.

Мяло тады ярасна, жорстка,
студзеню наўздагон...
Я мог і не стаць дарослым
ў скрыжалях лёсу свайго...

Той лёс вырашаўся хвацка...
У межах сціслых гадзін...
Калі, светлай памяці, бацька
прывёз мне пеніцылін.

Сказаў правінцыйны лекар —
быў юны, ды галава! —
што ў зэльвенскай у аптэцы,
ёсць сродак мяне ўратаваць.

Паколькі зусім я знядужаў,
меў бацька адзін расклад —
праз пекла лютаўскай сцюжы
на ровары ў Зэльву — й назад!

Паспець ў адну ноч было трэба
праз змрок каламесі густой.
І падтрымала Неба
бацьку ў дарозе той!

Вярнуўся ён ранкам рана
з ампуламі ў руках!
І каля ганку лякарні
ад стомы цяжкай упаў!

Здзяйсненню сапраўднага цуду
першы ж укол паспрыяў,
сцішэлы да беспрабуду,
раптам заплакаў я!..

За ноч мой бацька адолеў
амаль нерэальны шлях!
Каб свет убачыць я здолеў,
каб зведаў радасць быцця!

Каб змог напісаць я вершы
на мове продкаў сваіх,
якую мне бацька ж першым
як скарб найвялікшы з усіх

адкрыў у дзяцінства часе,
бо матчынай мовай была
мова Шаўчэнкі Тараса —
светлага Кабзара...

Паспеў бацька ў месяцы лютым...
Мне двойчы жыццё падарыў!..
Як часта няўзнак балюча
ў бурлівым жыцця віры

рабіў я яму, бывала...
Даруй мне, татка, даруй,
што ўспамінаю мала,
што мала прыклад бяру...

Ды Час нам спрадвек не роўня —
мацней за нас Ягамосць!
Як важна любіць бацькоў нам,
пакуль яны побач ёсць...

## ПАЦАЛУНАК СВЯТОГА МІКОЛЫ

*М. Пархімовічу*

Адвечна круцілася з небам ў хаўрусе
няўхільнае часу кола,
спусціўся аднойчы на дол Беларусі
Святы Цудатворац Мікола.

Ўраджаем багатым тады адарыў
жнівень сялянскую ніву,
і густа наўсцяж над зямлёю плыў
пах хлеба і яблык шчымлівы.

Як ведама, смяжыць і ў горле святых —
зайшоў стары ў дом напіцца...
І трэба ж было, каб у той самы міг —
дзіцю даў там Бог нарадзіцца.

Яго на руках святы лёгка ўзняў,
шапнуў ціха нейкія словы,
і ў лоб немаўлятка пацалаваў,
пакінуўшы знак адмысловы.

І раптам малы — ад роду хвіліна! —
ўсміхнуўся шчаслівa і светла!..
Мікола ж святы ў сваім руху няспынным,
як прывід, растаў у паветры.

Таго, хто пабыў у святога руках,
вядома ж, назвалі Міколам,
і рос ён на радасць і шчасце бацькам,
хоць быў зусім не анёлам.

З часоў тых шматкроць расцвіталі сады...
Малы той з далёкай вёскі
даўно стаў дарослым, ды меў заўжды
спрыянне святога цёзкі.

Жыццё сваё зладзіў як мае быць —
сям'я, дом і праца ў радасць,
мінулі гады — ён пацілу забыў,
хто хросны яго сапраўдны.

Ды вось яму неяк прысніўся сон,
што з неба спусціўся ў госці
Мікола святы... І сказаў быццам ён:
«Прасі чаго хочаш, хроснік!»

Задумаўся тут наш зямляк усур'ёз,
бо звычкі не меў ніколі
ў неба самога прасіць наўпрост
сабе хоць якой патолі.

Такога ў жыцці не чакаў пачуць!..
Ды мовіў годна на дзіва:
«Бадай, аднаго толькі я хачу —
шчасця маёй Радзіме!

Пра гэта марыў і продак мой,
і свой тэстамэнт пакінуў:
"Нашчадкі мае, ахвяруйце сабой
за волю краіны мілай!"»

Здзівіўся святы: «Бач, свядомы які!
Шчасце ж не сеюць з неба!
Яго праз пакуты, нягоды, вякі
самім узрасціць вам трэба!..

Таму, калі станеце ўрэшце вы
народам з уласным тварам,
то й волю зможаце лёгка здабыць,
такую, як продак твой марыў!»

Прамовіўшы, знік наш святы, бы цень..
Хросніка думаць змусіў...
А навакол прачынаўся дзень —
новы для Беларусі!..

*17.08.2007 г.*

# Нечаканы прыезд

## Урывак з рамана «Рурыкавічы і Рагвалодавічы»

**1**

Сюды, у княскую трапезную, пакаёвая прывяла дзве маладыя жаночыя асобы. Сясцёр. Ужо дарослую дзяўчыну і падлетка — Прадславу і Праміславу. Абедзве, як і іхні бацька для чужога вока, не ў княскім убранні, а кожная ў незвычайным — не зусім святочным персідскім зялёным, з чырвонымі вышыўкамі сарафане паверсе ліловай паддзеўкі, у зялёна-чырвоных скіндачках. А вось на валасы і твар яны былі даволі розныя. Старэйшая сястра — русявая, з глыбокім блакітам вачэй, ужо з расквітнелай жаночай грацыяй і красой — праўда, «выкапаная маці». Толькі з юначай гібкасцю, свежасцю яркіх вуснаў і поўненькіх шчок, жвавасцю позірку, яснасцю лоба, хораша ўзнятых грудзей і акругленых клубоў. І вельмі харашыў яе твар якраз падабраны да яго маці-прыродай роўны прадаўгаваты нос. Вядома, зусім не выпадкова ляшскі Баляслаў закахаўся ў Прадславу і занудзіўся, затаіў глыбокую злосць, калі Уладзімір не выдаў замуж яе за яго. Малодшая сястра, як і трэба для свайго ўзросту, была гонкая, тоненькая, з чарнявымі валасамі, каса якіх пачала ўжо апускацца за шыю, як і ў бацькі, з круглымі вачыма, але без хітрага прыжмурку, з тонкімі губамі, з крыху выцягнутым падбародкам. Як кідалася ў вочы, яна поўнілася цікаўнасцю да незнаёмага ёй старэйшага брата па адных бацьку і маці. Як пазней увазнае Ізяслаў, ведала, што ў розных мясцінах ёсць браты Яраслаў, Мсціслаў і Усевалад, але да Прадславінага пасвячэння лічыла: іх і яе маці — Ганна, як і Барыса, Глеба, Станіслава.

— Сястрычкі! — ад хвалявання і радасці ў Ізяслава зайшлося сэрца: быў вельмі чуллівы па маці.

— Брацік! Кревнік! — першая рушыла насустрач Прадслава. — Яка давноочікувана зустріч! Які ты взрослый вже! Бравій! Чоловік!

Прыпалі адно да аднаго. Шчака да шчакі. Спрытна пакатыя Прадславіны плечы ўздрыгнулі, і яго шчаку абвільготнелі яе хуткія слёзы. Яна была ўжо здольная глыбока ўсвядоміць, перажываць за іхні такі цяжкі лёс, за ростань з маці, за іхняе цяперашняе. Але знайшла сілы, усміхнулася сястры:

— Праміслаўка, падыдзі, абдымі нашага старэйшага брацiка.

Тая зрушылася і ішла так, як змалку вучаць хадзіць юных княжнаў, з высока паднятаю галавой, лёгка, дробненька перабіраючы нагамі. Ізяслаў пяшчотна прытуліў яе:

— Маленькая наша!.. Па ўсіх вас, адлучаных, гаравала і гаруе маці, а па табе, меншанькай, — найбольш... — Новы прыліў чуллівасці ў Ізяслава.

Гэтак жа сталася і з прысутнай тут Соф'яй — Прадслава, амаль яе аднагодка, ашчыравала яе абдымкам і пацалункамі («Рада бачыць цябе, братавая!»), а Праміслава толькі прытулілася, а Соф'я першая пацалавала яе, як дзяўчынку.

Як было бачна, Соф'я (яе, нявестку, цёпла благаславіла іхняя маці) сёння зноў была ўражаная — раней ад жаночай вялікаснасці Рагнеды, а цяпер ад стройнасці і красы яе старэйшай дачкі, палюбаванай, асвечанай нябесным і зямным дарам. У Рагнеды і Прадславы абвысакародзілася кроў паўночных конунгаў і полацкіх князёў. У іх хораша спалучыліся жаночая прастата і зграбнасць.

— Прашу падсілкавацца, — запрасіў Ізяслаў сясцёр, паказваючы на доўгі стол з рознай ежай, дзе былі тушаная капуста з гускай, маладыя баравічкі, ржаны хлеб і пшанічная булка з макам, смятана, малако, мёд, кісель і сыта да яго, журавінавы напітак, ачышчаныя арэхі, засушаны вінаград .

— Мы не галодныя, брацік, — адказала Прадслава, — а рваліся сюды найперш дзеля таго, каб пабачыцца. Пагаварыць. Мы ж — адна кроў! Каб ты ведаў, як я радая нават зірнуць на цябе!

— І я, сястрычкі мае. Тады давайце хоць прысядзем.

— Як яна, мама наша? — калі селі, нецярпелася ўведаць Прадславе.

— У смутку глыбокім, у малітвах. Адна яе радасць, што ўсе мы жывыя і здаровыя. Ад таго і яна моцная целам ды духам.

— У Палацеск «Ён», — Прадслава хітравата ўсміхнулася (значыць, дайшло да Кіева, што ён, Ізяслаў, і маці так называюць Уладзіміра), — мяне не пускае... А вось у Растове ў Яраслава, у Цьмутаракані ў Мсціслава, ва Уладзіміры ва Усевалада і ў Тураве ў Святаполка была.

Не сказаць, каб Ізяслаў зусім нічога не ведаў пра сваіх далёкіх ад яго братоў і сясцёр, пра тое-сёе дачуваўся ад розных гасцей і сваіх віжоў ды зусім іншае — не чужы пераказ, а сястрын апавед.

— У старэйшага з вас, Вышаслава з Ноўгарада, не была, дык нічога пра яго не магу сказаць. Малодшыя твае браты маюць розныя характары,

— расказвала тая. — Яраслаў — не па гадах сур'ёзны, смелы, нават дзёрзкі і прагны да ўлады. Перахоплівае ўжо яе ў пестуна Будага, змушае сагнуцца перад ім растоўскую знаць. — Усміхнулася: — Не дарэмна кажуць, што рыжыя і кульгавыя злыя, а то і ліхія...

— Ён моцна кульгае? — спачувальна запытаў Ізяслаў.

— Даволі.

— Дзякуй Богу, што хоць ходзіць. Як помню, ён жа да трох гадоў не мог сам стаць на ногі. Мама гаравала, што будзе лежань, а значыць можа быць князь-ізгой. Ускочыў і пабег, калі... — І не дагаварыў.

— Мне ўпотай расказалі пра тое... — Прадслава дала знак, што разумее яго. — Яраслаў крыху помніць маму і цябе. Цябе — тады, калі ты засланіў сабой маці... Яго гэта вельмі ўразіла... Ён пра вас многа распытваў. Адказала, што ведала. І ён заплакаў... А Мсціслаў кажа, што нібы ў густым тумане бачыць вас. Цяпер, як мо і ведаеш, чатырнаццаць яму, на чатыры менш, чым Яраславу, яшчэ толькі прабіваюцца вусікі, але ўжо раславаты, моцны, старэйшых отракаў і грыдняў валяе, калі схопяцца дужацца накрыжкі. Кемны. Бярэцца ў рожкі з цьмутараканскімі вяльможамі. Дык і ён, як і ты, Яраслаў, будзе спраўны князь. — Уздыхнула. — Хоць яму мо будзе сама цяжэй з усіх вас: абкружаны морам і ворагамі. Адным словам, «Ён» (без усмешкі ўжо) задаволены вамі: «Па мне пайшлі». Праўда, калі хтосьці з баяраў асмеліцца падаць голас, што ён дарэмна падзяліў дзяржаву паміж сынамі, сам сабе зменшыў «единовластие», бывае, і зморшчыць лоб: « Хоць... Папраўдзе, хто ведае, як потым маладыя арлы будуць паводзіцца са старым, аслаблым арлом... А як пасля смерці маёй паміж сабой?.. Не пераб'юцца ці не разарвуць сабраную прадзедамі і мной славянскую імперыю?..». А што да Усевалада нашага... — Сумна захітала галавою. — Маленькае княства яго, і ён... Падлетак ужо, павінен інтарэс свой мець, а ён гуляе ў дзіцячыя забавы і з меншымі за сябе. А баярам гэта толькі і трэба. Зусім не гадуюць у ім княскі дух, карыстаюцца і будуць карыстацца яго слабавольнасцю.

«Разумная Прадслаўка, — пацешыўся Ізяслаў, — і душу вялікую ды глыбокую мае».

— Я, сястрычка, — прамовіў уголас, — ні супраць бацькі, ні супраць братоў ніколі не пайду.

— Многія кажуць, што ты — «мірны князь, будаўнік». Хоць, брацік, ёсць і незадаволеныя, што бацька (і яна цяпер пазбегла слова «Ён») адасобіў вас ад славянскай імерыі, аднавіў палацескае вольнае княства. Ды ўгледжваюць у табе дзеда Рагвалода хітра задуманы далёкі намер... Якраз праз вашу мірнасць...

— Як і бацьку, табе таксама скажу: мяне асцерагацца не трэба. Самы вялікі мой намер зусім адкрыты: паставіць на ногі Дзедаўшчыну. Каб люд яе не жыў у норах і не хадзіў у звярыных скурах, каб ён быў такі, як і люд у Кіеве, Ноўгарадзе. Каб многаму навучыўся і ад Візантыі, і ад заходніх земляў. Каб усе пабачылі: мы нічым не горшыя за іншых, многае і нам па сіле нашай, па розуме і ўмельстве!

— Цяжкая, прыкрая была мая паездка ў Тураў да Святаполка, — вяла далей свой расказ Прадслава. — Яго маці гудзе і яму, і тураўцам у вушы: яе сын — Яраполкаў, дык не Вышаслаў з Ноўгарада, а якраз ён па даўнім праве некалі павінен быць на велікакняскім кіеўскім пасадзе. А цяпер павінен быць, як і ты, асобна ад Кіева... Не падуладжваецца яму Рагвалодаў Палацеск, дык такое права мае і град брата Рагвалода Тура... Усіх вас, «малодшых, Уладзіміравых сыноў», люта ненавідзіць, жадае вам зла вялікага. Шэпчацца з ляхамі, мае намер ажаніцца з іхняй князёўнай. Я не магла не перасцерагчы бацьку пра гэта. Хоць Святаполкавы мары могуць быць і марныя. «Яна» (Ганна) нашэптвае нашаму бацьку, каб запераемнічаў не былы язычнік, а іхні, «хрысціянскі» першы сын. Барыс. І яго змалку навучае на вялікага князя.

Ізяслаў чуў і пра апошняе сказанае Прадславай.

— «Яна» будзе рвацца пагаварыць з табой, — дадала да сказанага, узяла яго за рукі. — Асцерагайся. Яна зусім не тая, за каго сябе падае. Нібы за маці нам, малодшым, але была б радая, каб мы ўсе разам пазгіналі і каб засталіся ды ўзвысіліся яе сыны. Горш за горкую рэдзьку мне яе «любоў». Яна і цяпер раўнуе бацьку да нашай маці, бо ён...

Не паспела дагаварыць зразумелую яму, Ізяславу, сапраўдную рэч і перасцярогу адданая як маці, так і яму сястра: пачуўся постук у дзверы. Пасля Ізяслававага дазволу на ўваход сюды зайшоў яго верны грыдзь:

— Княжа, цябе кліча да сябе вялікая княгіня кіеўская...

Прадслава, Ізяслаў тут жа перазірнуліся: пачалося! Але Ізяслаў быў спакойны. Раней, калі з маці выкідвалі яго, хлапчука, з Кіева, ён і ў тым узросце моцна ўзненавідзеў новую бацькаву жонку-хрысціянку — разбуральніцу, як тады ён, малеча, лічыў, іхняга сямейнага шчасця. А пасля яны прыглушылі свае крыўду і боль, аспакайнелі: што ж, «Ён» мусіў пайсці якраз на такое, каб сюды хрысціянства прыйшло па яго закліку. Каб сама адукаваная і культурная Візантыя ўшанавала яго! І не абы-кім, а сястрой базілеўсаў! Ды і ўсё ва ўсіх шасцярых Рагнедзіных дзяцей уладзілася. Усе жывыя, здаровыя, дагледжаныя. За гэта чалавечую і мацярынскую вялікую плату трэба плаціць ёй. У паўзямлянцы-келлі!

Той міг, пакуль Ізяслаў міжволі перавёў свае думкі пра Ганну, Прадслава пільна назірала за ім і, вядома ж, з уцехай бачыла: ён засяродзіўся, ніяк не выяўляе пачуццяў. У гэтым, палічыла, да яго

падобны юны Мсціслаў. Не рэзкай выяўнасцю, а ўпэўненай стрыманасцю і душэўнай моцай. Міргнула яму: ідзі і будзь якраз вось такі, самастойны і годны.

— Соф'я, — паказваючы рукой на стол, папрасіў Ізяслаў, — будзь гаспадыняй, частуй братавых.

—————————————————————————

Першы зірк на незнаёмага чалавека бывае розны. Як праўдзівы, так і падманлівы. «Яна», візантыйка, была зусім не падобная на іконы святых жанчын, якіх малявалі ў Візантыі — звычайна з цёмнымі валасамі і вялікімі смутнымі, безжыццёвымі вачыма, з доўгім тонкім носам і амаль зведзеным у нітачку ротам, з вузкім падбародкам і часта з гэтакім жа амаль не зямным дзіцем на руках. Ганна была сярэдняга росту, чарнавалосая і чарнавокая, смуглявая, з выразнымі цёмнымі вусікамі над верхняй адагнутай губой, а ў выпуклаватых вачах жывілася жаночая гуллівасць. Маршчыны каля вачэй былі шчодра замазаныя, мазь была і на худых шчоках. Але харавства гэта ёй не дадавала: яго псаваў падоўжаны нос з завысокім пераноссем. Таўсматая ў шырокім сарафане: зноў была цяжарная.

«Як кажуць, гонару, пыхі шмат, але красы жаночай мала. І старэйшая за нашу маці».

Не падданы, то не ўкленчыў, толькі прыклаў руку да грудзіны, схіліў галаву ў паклоне і сказаў па-грэчаску:

— Вітаю цябе, вялікая княгіня кіеўская, дачка і сястра вялікіх базілеўсаў візантыйскіх.

«Яна» таксама пільна агледзела яго. Як былая гулюня (дзеля плоцевых уцехаў жыцця доўга не хацела асямейвацца і, як хадзілі чуткі, жыла зусім не па рэлігійных запаведзях). Казалі, Святое Пісанне толькі слухала ў пераказе пісьменнага пры ёй слугі, як і апісанне жыцій святых са збору Метафраста, з «Іліяды» асобныя ўрыўкі, больш — з «Адысеі». Тым, што шмат пісалі манахі, а таксама рознымі хронікамі, багаслоўнымі спрэчкамі, літургічнымі вершамі, не цікавілася. Больш да спадобы ёй былі жывыя эпіграмы. Любіла даўнія і новыя застольна велічальныя песні, сама ў вольны ад баляў час чытала тое-сёе з выбранага гістарычных твораў (асабліва пра розныя любоўныя паданні пра Далілу і Самсона, царыцу Саўскую і Саламона, Клеапатру і Цэзара, пра Пандору і інш.). Найчасцей гартала два выданні: «Мірыябіблён» (мноства кніг) Фоція, дзе былі расказы пра свецкія (літаратурныя, гістарычныя, медыцынскія) і царкоўныя кнігі грэчаскіх і візантыйскіх аўтараў ды «Суду» — тлумачальны слоўнік з 30-ці тысяч нататак па пракаветнай і новай літаратуры, пра вядомых і забытых аўтараў, а таксама былі ўрыўкі са знойдзеных твораў. Хто ведаў гэтыя дзве кнігі, лічыўся высокаадукаваным чалавекам. Паколькі Уладзімір мала цікавіўся гэтым, то яна тут, у Кіеве, дабілася, каб ён у вольныя часіны хоць слухаў трактат «Пра ўпраўленне імперыяй» яе бацькі Канстанціна Багранароднага ў вусным перакладзе знаўцы грэчаскай мовы (названы базілеўс-пісьменнік памёр у 959 годзе — значыць, Ганна нарадзілася раней за гэты час і, сапраўды, у цяперашнім сане маладой жонкі была старэйшая за Рагнеду, маці шасцярых дзяцей). Дык вось як былая гулёна не стрымалася, пагарэзавала:

— Які прыўкрасны малады мужчына! Але давай гаварыць па-славянску. Я хачу пачуць і вашу гаворку.

Ён зусім не сумеўся.

— Як спалася, вялікая княгіня ў нашым Палацеску? — спакойна запытаў і тут жа падумаў, што яна ў яго слове «нашым» можа адчуць дваякі сэнс — тое, што яго маці з Полацка і што цяпер ён тут княжыць, і тое, што князь ён вольны.

— Дзякуй, — тым не менш таксама спакойна прамовіла госця. — Здарожылася, дык сон быў моцны. Дзеці і яшчэ спяць.

— Як скажаш пра сняданак-абед? Падаць яго сюды?

— Пазней. А цяпер, калі можна, пачастуй напоем з журавінаў. Ён у вас вельмі смачны.

Затым, калі сядзелі і яна пацягвала з іншаземнага прыгожага шклянога келіха ўпадабанае кіславата-салодкае пітво, хітравата ўсміхнулася:

— Прызнайся: маці і ты ненавідзіце мяне?

— Не, — шчыра адказаў ён.

— Але ненавідзелі?

— Было, — зноў зашчыраваў. — Але час залячыў рану: дзеля хрысціянства, новага аблічча нашых славян патрэбен быў твой і бацькаў шлюб.

«Яна» зірнула на яго з непрыхаваным здзіўленнем.

— І яшчэ паспрыяла тое, што нас пакінулі жывымі, а мне далі вольнае княжанне. Ды было да душы тое, што ты не стала злой мачыхай, а ўзяла пад апеку матчыных малодшых сыноў і дачок. Дзякуй табе за гэта. Канечне, тваю жаночую міласэрнасць запаважаюць далёка за межамі Кіева і Палацеска.

— Прызнаюся, — прыклала руку да грудзей, — я не чакала такога ад цябе. Думала: будзеш глядзець на мяне маладым пакрыўджаным воўкам. І маці твая такой жа думкі пра мяне?

— Такой.

— І ні кроплі злосці?

— Ні кроплі.

— А на «Яго?» — пацвелілася. — Я не такая ўжо вінаватая перад вамі, мусіла паслухацца братоў, а вось ён... Як муж і бацька...

— Маці і я жадаем вялікаму князю кіеўскаму доўгіх летаў жыцця і шчаслівага княжання. Калі бацька, Кіеў будуць моцныя, то ніхто з нашых суседзяў не асмеліцца напасці на Палацеск, — адказаў, у думках даўшы слова, што больш не бу-

дзе ўжываць найменні «Ён» і «Яна».

Ганна асачыла ягоныя вочы асабліва ўважліва, вывучаючы не словы, а думкі:

— Але ж ты зусім не хілішся да бацькі, да Кіева. У цябе дух найперш дзеда Рагвалода з яго вольніцай.

— Я не хачу надакучаць рознымі просьбамі. Самі спаўняем свае вялікія і малыя турботы.

— Бацька ганарыцца табой. Хоча, каб такія, як ты, былі і ўсе яго сыны. Скажу табе нават больш: ён зайздросціць, што ўмееш не толькі чытаць паславянску, па-грэчаску, але і пісаць. Ды абдумана, ясна, як, можа, ні адзін цяпер князь на Русі. Дык я вельмі хацела пабачыцца, пагаварыць з табой. З уладаром Палацескай зямлі і, як многія кажуць, шчырым хрысціянінам, кніжнікам, асветнікам. Ты тут, сярод, як кажаш, вашых славян, пачынаеш ладзіць новую эпоху...

— Рад чуць такое, вялікая княгіня, — сказаў ён, усведамлюючы, што былая, нібыта бесклапотная гулёна на самай справе зусім не такая, а дасведчаная і разважлівая. Зусім не выпадкова трапіла ў язычніцкі Кіеў. Але дадаў тое, што мог агаласіць: — Хоць і перабольшаныя мае спробы пісьменствам, асветніцтвам перанесці да нас усё тое высокае, чаго ўжо даўно дасягнула Візантыя ў навуцы гістарычнай, у пісьменстве красным, у мелодыях і спевах, у градабудоўлі, помніках розных. У нас усё гэта яшчэ далёка наперадзе, — нявесела хітнуў галавою. — Ды калі ты хацела пабачыцца са мной, не пустынным, а палацескім «отшельником», то дазволь выказаць табе маю просьбу. Адну, але *запаветную*.

— Слухаю цябе, князь. Рада буду зрабіць для цябе тое, што мне па сіле.

— Паспрыяй хоць на кароткі міг сустрэцца маёй маці з дочкамі. Бацька ўхіліўся ад такога дазволу. — І свядома паліслівіў: — А на твой, *глыбока чалавечны*, вядома, не зазлуе. Зразумее: маці зразумела маці.

— Просьба твая не цяжкая. Праўда, мне, маці, зразумелы матчыныя боль і жаданне, — Ганна гаварыла і ўсцешвала ягонае сэрца. — Я таксама хачу сустрэцца з ёю. Ды, бачыш, чаму асцерагаюся зноў выправіцца ў некароткую дарогу. Па маёй просьбе бацька твой ужо даў згоду, каб ваша маці прыехала ў Палацеск. Сёння ж пагавару пра гэта і з вашым строгім епіскапам.

Такі Ганнін ход быў даволі нечаканы для Ізяслава, хоць і даволі зразумелы: той, вядома ж, хацелася спадабацца Полацку яшчэ больш пасля таго, калі ўзяла апеку над Рагнедзінымі малодшымі дзецьмі.

— А яшчэ якія просьбы ёсць?

— Іншая мая просьба пра кнігі, — сказаў Ізяслаў. — Я нямала маю іх на грэцкай мове. Але вось «Мірыябібліён» Фоція ў мяне няпоўны. А так хацелася б прачытаць яго ўсяго.

— А «Пра ўпраўленне імперыяй» майго бацькі маеш?

— Прывезлі госці. Хоць гэтая навука больш для бацькі з яго вялізнымі ўладаннямі.

— Ён — не вялікі любіцель кніг, лічыць, што мудрасці ў яго і так хапае. А сам напісаць можа толькі самае простае.

— Калі можаш, памажы мне набыць твайго бацькі і «Пра цырымоніі», а таксама жыццяпіс Васілія I.

— Бачу я: ты — рэдкасць сярод князёў славянскіх і баяраў. Разумнік! Кніжнік!

...Епіскап — хмурны, незадаволены — пасля доўгіх угавораў нарэшце згадзіўся, каб Рагнеда пабыла ў Полацку. Але настойваў, каб яна прыехала не адкрыта, удзень, а ўночы...

Ізяслаў, само па сабе зразумела, тут жа паслаў у Ізяслаўль свой уцеплены санны вазок (праўда, без уквечанння і без шаламкоў на дузе ды з простай збруяй на цёмнай масці конях: сама маці паўшчувала б за залішняе для яе манаскага сану) і насуперак епіскапу пастараўся, каб шырока апавясціць полацкі люд пра хуткі прыезд Гарыславы-Рагнеды-Анастасіі. А яе папрасіў прыехаць не раней, але і не пазней апоўдня.

І вось настаў студзень — дзень, калі нядаўна нізкае, мала бачнае неба ўдосталь насыпала снегу, калі выскачыла і пагарэзавала ад радасці мяцеліца, а раз'ятраны мароз набраў сілу, ядрыўся і пёк агнём асабліва падчас ачырванелых досвіткаў, а ўдзень хаваўся ў цень. Паколькі не было цяжкіх абвіслых хмараў, то неба вышэла, насочвалася яркасцю ды блакітам і пад суцэльным сонечным святлом снег аблегваўся і ад белізны зіхацеў. Ажно адбірала вочы. І вось у гэты дзень, перад апоўднем ужо, за драўляную агароджу полацкага пасада, вакольнага горада, высыпаў, як пазней скажуць, «стар и млад, даже незрячие и неходячие». Наперадзе ўсіх — полацкі ўладар, Ізяслаў у святочным выдрыным, абцягнутым цёмна-чырвоным аксамітам футры і ў бабровай шапцы. Справа яго — Соф'я, Прадслава, злева — Праміслава. У сабаліных футрах, нагалоўніках бела-цёмнага колеру і ў абцягнутых саф'янам белых, з чырвонымі ўзорамі боціках. За імі — палацеская знаць, таксама ў шыкоўных футрах, каптанах, у многіх пакрытых парчой ці, як тут казалі, золатам ці срэбратканкай. За ёю, абапал выезджанага санямі і вытаптанага шляху ў горад, дружыннікі стрымлівалі рамесны і просты люд — апошні больш у звычайных тут авечых, але аблямаваных вышыўкай (а ў таго-сяго нават і з шоўку) кажухах і кажушках, суконных цёмных і шэрых світках і сярмягах. Хто ў ботах, а хто і ў новых лапцях. Сёння і яму, Ізяславу, было прыемна, што палачане хочуць паказаць: ёсць што апрануць, абуць і з'есці пасля не такога ўжо і даўняга ліхалецця, калі амаль кожны ацалелы ў По-

лацку лічыўся больш чым пагарэльцам. Сярод амаль усіх, хто высыпаў за горад, не было аднаго з важных у Полацку: епіскапа. Перадалі: ён занядужаў. Шапнулі й іншае: той сёння не дазволіў у царкве ні званіць, ні «возжечь свечи», ні выйсці разам з вернікамі іншым святаслужнікам ( у гэты час ён быў у палацях Ганны і асцярожна — усё ж вялікая княгіня кіеўская, сястра візантыйскіх базілеўсаў, добра знаёмая патрыярха! — выгаворваў той пра яе абмылку, спасылаючыся на тое, што князь полацкі дазволіў сабе больш, чым дазволілі Уладзімір і яна яму. Маўляў, сённяшняе здарэнне зусім непажаданае: яно ўваскрашае былы полацкі гонар і мацуе цяперашні, бо і звычайныя разявакі сустракаюць госцю найперш як Гарыславу-Рагнеду, маці Ізяслававу, дачку Рагвалодаву! І заадно чарніў Ізяслава: бачыш, вялікая княгіня, які гэты «ціхамірны кніжнік і будаўнік патайны, хітры, як нават на гэтым зручным эпізодзіку гуртуе вакол сябе люд насуперак вялікаму князю кіеўскаму. Ён паводзіць сябе не як Рурыкавіч, а як Рагвалодавіч! Тое, што «па кудзелі», ставіць вышэй за тое, што «па мячы!»

І вось нарэшце ў яркай далечыні паказалася тройка коней, а хутка — і павозка, а за ёй — ахова з адборнай Ізяслававай дружыны. Вознік асадзіў разгарачаных бегам пародзістых маладых бегуноў. Са свайго каня саскочыў старэйшына аховы, адчыніў дзверцы павозкі, падаў руку — і тысячы люду, намагаючыся вышэй задраць галовы за плечы першых перад імі, «лицезрели», як з ваз-



Малюнак Уладзіміра Вішнеўскага

ка па адкінутай лесвічцы саступае высакаватая, стройная жанчына ў чорнай доўгай апратцы (кажух пакінула на сядзенні) і, як адчувалася, лёгкая на хаду. А з першых шэрагаў убачылі: яна белатварая, строга прыгожая, з «иконным ликом». Спакойна стала на дол, стрымана, толькі на міг, зірнула на іх, дзяцей, згледзеўшы, якія цяпер яе дочкі (адзін Бог ведае, што было ў яе душы!), і тут жа пачала пільна акідваць позіркам велізарны людскі натоўп. Упівалася вачыма доўга, нібы не спяшалася падысці з дзясятак крокаў і кінуцца да дзяцей.

«Якая сіла волі!» — зноў і зноў не мог не здзівіцца Ізяслаў, хоць, як ніхто, ведаў матчын душэўны, мяккі і ў той жа час цвёрды характар. Моц ягонную загартавалі бяда і гора.

Яна ўсё гэтак жа ўпэўнена ўзняла руку і асяніла хрысціянскім знакам дарагіх яе сэрцу палачан. Ізяслаў першы, а за імі і ўсе астатнія мужчыны паздымалі розных формаў і колераў вушанкі, апусціліся на калені. Маці рушыла да іх. Перахрысціла яго, Соф'ю, а потым — Прадславу і Праміславу, нізка пакланілася, а тады паказала ім стаць на ногі. Ізяслаў цешыўся матчынаю прастасцю і велічнасцю, радасна ўсміхнуўся; не толькі Праміслава, але і старэйшая Прадслава зачаравалася. Яны і іх маці некалькі хвілін сузіралі адно аднаго кожны па-свойму хвалюючым позіркам — маці не працягнула да іх рук, але вось з яе нібы незямных, толькі цяпер замутнелых вачэй выплылі і пакаціліся ўздоўж зграбнага, як і ў Прадславы, носа буйныя слязіны.

«Адна па Праміславе, другая па Прадславе», — падумалася Ізяславу, а ў гэты час маці, жвавеючы, нават без усмешкі асвячаючыся непаўторным мацярынскім шчасцем, не стрымала рук для даўножаданага абдымку дачок.

Сёстры адчулі гэтую чалавечую змену, прыпалі да маці. Прыгарнуўшы, яна пацалавала ў шчаку кожную і без звычайнага ў такіх выпадках жаночага галашэння ацяпліла іх выдыхам усёй душы:

— Жывенькія! Здаровенькія! Харошанькія! Самыя красныя, дарагія на свеце! Сёння я самая шчаслівая жанчына, маці на зямлі вялікай нашай!..

Прадслава, прыпаўшы, бясслоўна, але, мабыць, на ўсю моц маладой дзявочай душы заплакала, арасіўшы матчыную шчаку (абедзве былі амаль аднаго росту):

— Мама! Мамачка любая наша! І мы, дочкі твае, цяпер самыя шчаслівыя на свеце вялікім! Мы можам пабачыць цябе, прытуліцца! Адчуць рукі твае! Пачуць голас твой! Тое, што дагэтуль толькі снілася...

— Ёсць, ёсць Ён, Усявышні, дзеці, — супакоіла, пагладзіла дачок Рагнеда. — Бачыце, звёў нас. Ды тут, у Палацеску. Я прасіла і буду прасіць у Яго для вас шчаслівай долі.

А тады Праміславе:

— Маленькая мая! Як ты сёння супакоіла маё мацярынскае сэрца!.. Як яно цяпер жыва, хораша б'ецца!

Бачачы гэта, бадай усе ўкленчаныя заплакалі: як знатныя, так і простыя бабулі і дзяды, бацькі дый маладыя адчувалі, што гэта значыць — сустрэча змусам разлучаных маці і дзяцей (плакалі жанчыны і ў Ізяслаўі, лічачы, што яе, іхнюю заступніцу і дарадніцу, забіраюць ад іх).

— Пайшлі, мама, — ціха падаў голас Ізяслаў ды не сказаў, што накіруюцца не ў царкву, дзе яе ніхто не чакае.

— Пайшлі, сын мой, — радасна прамовіла яна і побач з ім, статная, з высока паднятай галавой і замілаванасцю ў вачах, павяла дачок за рукі.

Маўклівы, глыбока ўражаны натоўп ускінуў рукі, загуў на розныя галасы, што і не проста было разабраць асобнае слова ў гэтым вітальным хоры:

— Гарыслава!

— Гарыслаўка!

— Рагнедзька!

— Княгіня наша!

— Заступніца!

Цяжка было дружыннікам стрымаць падхоплены з каленяў і паімкнуты на дарогу люд: ён пад выцягнутымі і скіраванымі на яго рукамі дружыннікаў то неахвотна адступаў, то зноў імкнуўся наперад, каб бліжэй убачыць Рагнеду і хоць пальцам дакрануцца да яе. Ізяслаў падняў руку — усе застылі на месцы.

— Прапусціце наперад калек, сіротаў, удоваў, — загадаў. Пра нястачных не напомніў: заўсёды сачыў, каб ім была помач як ад заможнікаў, так і ад яго ды царкоўнай казны.

Паслухаліся. А нямоглыя, няшчасныя з абодвух бакоў папаўзлі — Рагнеда, адпусціўшы дочкіныя рукі, запатрабавальна махнула рукой уверх: падыміцеся, вы і без каленасхілення заслужылі спагаду. Усталі найперш аднаногія, дзеці, састарэлыя. І ўжо яны:

— Маці наша!

— Благаславі!

— Памажы!

Перад шляхам усе зноў упалі на калені — Рагнеда пачала благаславіць сляпых, нямых, глухіх, кульгавых, аднарукіх, аднаногіх, гарбатых, дзяцей і яшчэ маладых жанчын, тых, хто не мог хадзіць і каго іншыя прынеслі на руках. Усе прасілі яе дакрануцца да іх (пазней пайшлі пагалоскі, што некаторыя з благаславёных Рагнедаю пачалі бачыць, чуць, гаварыць, сталі на ногі). А пасля, калі яна мінула іх, і здаровыя кінуліся за ёю, каб першымі дакрануцца да яе следоў.

Царква была зачыненая...

# Іван Лагвіновіч — паэт з палескага хутара Запрапасць

Думкі падчас перачытвання пасмяротнай
кнігі вершаў «Элегія палескага матыля»
(Мінск, «Кнігазбор», 2011 год).




*Час імчыцца хутка. 29 сакавіка мінуў год, як пайшоў у лепшы свет паэт Іван Лагвіновіч, які пад канец жыцця з пратэстанцтва перайшоў у грэка-каталіцтва. Яго пахавалі побач з роднымі ў вёсцы Малькавічы, дзе жывуць і праваслаўныя, і пратэстанты...*

Іван Лагвіновіч напісаў пра сябе ў кароткай біяграфіі так: «Нарадзіўся я 16 студзеня 1940 году на хутары Запрапасць, за пяць кіламетраў ад сяла Малькавічы Ганцавіцкага раёна... Скончыўшы сем класаў, працаваў увесну і ўвосень — у лясгасе, улетку — у калгасе, а ўзімку — у леспрамгасе... Семнаццацігадовым юнаком падаўся ў Данбас. У горадзе Снежнае скончыў горнапрамысловае вучылішча і стаў шахцёрам. Пасля службы ў войску абраў месцам жыхарства горад Чысцякова, які пазней пераназвалі на Тарэз... Працаваў на шахце, вучыўся ў вячэрняй школе, на курсах грамадскіх карэспандэнтаў... У 1977 годзе медкамісіяй быў прызнаны інвалідам трэцяе групы з прычыны прафесійнага захворвання...З шахты перайшоў на абагачальную фабрыку рамонтным слесарам. У 1990 годзе выйшаў на пенсію і праз год вярнуўся на Радзіму. Жыў нейкі час у Паставах... У траўні 1992 году пераехаў у Баранавічы... У чэрвені 2003 году быў прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў... Зבольшага, гэта ўсё...».

Мы сустракаліся з Іванам Лагвіновічам на магіле Ларысы Геніюш у Зэльве... Але сесці ва ўтульным месцы і паразмаўляць нам не ўдалося... Толькі памятаю ўважлівы, спакойны пагляд яго вачэй...

Ці можна ягоны лёс параўноўваць з лёсам паэткі-пакутніцы? Ларысу Антонаўну з мужам Янкам вывозілі з Прагі па этапах у Савецкі Саюз, у няволю... Іван Лагвіновіч паехаў з роднай хаты, каб шукаць цяжкую, але грашовую працу ў Данбасе на шахце, якая зрабіла яго інвалідам у 37 гадоў, а ўрэшце звяла ў магілу...

Іван у вершах не шкадуе, што шмат сілы патраціў і шмат часу правёў пад зямлёй... Данбасу і Украіне ён прысвячае ўдзячныя вершы.

Іван вярнуўся, як і выехаў, адзін, каб на Радзіме абдымацца з бярозкай, адчуваць усёй істотай, як апёкі дрэва смыляць на яго скуры. Ва Украіне засталася магіла яго жонкі, засталіся жыць дзеці — сын і дачка... Спыніўся там, дзе яму было зручна, дзе ён адчуваў сябе сярод сваіх, дзе яго вершы любілі чытачы альманахаў «Святліца» і «Жырандоль...»

Маю зборнічак Івана Лагвіновіча «Ляда юдолі» з аўтографам паэта:

*Дануце Бічэль — з пажаданнем, каб жылося лягчэй, —*

*Іван Лагвіновіч, студзень, 2005 год.*

Не падзякавала яму за кнігу з аўтографам, не адразу яе прачытала. Прывёз мне стос кніжак з Баранавічаў Ян Збажына, найболей было кніжак Алеся Корнева, сярод якіх згубіўся шэры маленькі зборнічак Івана...

Алесь Бакач прыслаў мне кнігу Лагвіновіча «Элегія палескага матыля», якая выйшла пасля смерці паэта.

Леанід Галубовіч укладаў вершы паэта ў абедзвюх гэтых кніжках. У сумныя хвіліны ён бярэ сяброўскую апеку над сціплымі зоркамі правінцыі, яго рука, хоць містычна, трымае паэтаў перад іх апошнім скачком у Ясноты...

...Светлыя хвіліны на досвітку я праводжу з вершамі Івана Лагвіновіча. Пакрэсліла, панастаўляла каля іх «птушачак», клічнікаў... Чыстыя слёзы праліваю над выразнымі, простымі радкамі...

Задача паэзіі не толькі здзіўляць новымі метафарамі, бывае, што яны зусім не патрэбныя. Часам трэба ўмець сказаць наіўнымі словамі прымітыўныя рэчы, каб прывітаць адзіную Краіну, якую любіш, а праз шмат гадоў ціха з ёй развітацца... У шахтах Лагвіновіч выпакутаваў гэтую любоў у сваім сэрцы... Паміж цеплыні і спакою раптам



Іван Лагвіновіч.

разгараецца ў яго вершах полымя — гэта паэт успамінае нешта такое, без чаго і жыцця няма: *«Конік мой лугавы, уяўленню явіся, // з нераспелай травы жнiўных дзён адзавіся!»*

Калі я плачу, выходзіць, што ён напісаў гэтыя вершы і для мяне...

*Адыду пакорна ў іншы свет,*
*дзе няма пранізлівага болю.*
*Застанецца кветкаю ў траве*
*ціхая душа мая з табою.*
*Днём пагодным будуць з яе піць*
*сонечны нектар чмялі ды восы.*
*Прыглядайся, каб не наступіць*
*ні абутаю нагой, ні босай.*

Іван Лагвіновіч не шукаў такіх камбінацый са словаў, каб здзіўляць напавал новай магчымасцю іх значэння. Паэт ведаў, што словы самі па сабе дзівы, прамаўляў іх ціха, цешыўся з іх прыгажосці, з таго, як яны, прашаптаныя вуснамі або толькі вачыма, гучаць гэтак моцна, здзіўляюцца і супакойваюцца самі, калі стаяць побач, як жывыя істоты...

Цешыць мяне тое, што мы жылі ў адзін час з такім добрым паэтам, хочацца называць яго братам... Гляджу зноў на здымак у садку святара Яўгена Маліноўскага: на ім Іван сядзіць у цэнтры каля дзвюх прыгожых жанчынаў, адна з якіх трымае маю кнігу, а другая — гітару. Ён падняў акуляры з вачэй на пасівелую галаву— з яснай, шчырай, людскай усмешкай... Ён добра сябе адчувае ў садку ўніяцкага святара, які быў яго спаведнікам... І я добра сябе адчуваю ў гасцях у прыгожай сям'і грэка-католікаў, у «Святліцы», куды мяне запрасілі Алёша і Алена Белыя...

Каб памаліцца слязьмі аб душы паэта, можна пачытаць яго вершы замест малітвы, калі няма магчымасці схадзіць на яго магілу... І дзеля гэтага выдадзена пасмяротная кніга Івана Лагвіновіча!

Паэты мараць пра славу пры жыцці і нават па смерці...

Тыя, што жывуць у правінцыі, мараць, каб іх вершы пачыталі сябры, а яшчэ лепей, каб пачытаць сябру свае вершы і каб ад чытання стала светла на душы ім абодвум... І просьба Івана, каб на яго магілу прыносілі кветкі палыну, была зусім не іранічная і не ад заніжанай самаацэнкі, а самая звычайная чалавечая просьба... Палын — такая ж зёлка на нашай зямлі, як і кожная іншая — як жа не любіць гэтую зёлку! Літаратарам, якія жывуць у сталіцы і хвараюць на «зоркавую хваробу», гэта цяжка зразумець. Ніна Мацяш адзін свой зборнічак так і назвала — «Божае дрэўца», як называюць разнавіднасць палыну ў Ніўках каля Белаазёрску. Іван Лагвіновіч апявае зёлкі і дрэвы, птахаў і матылёў зямлі, па якой ходзіць, нібы яны жывыя істоты, надзеленыя душой, — адчувае іх гэтак жа, як святы Францішак.

Верш «На дворышчы» — гэта верш пра той хутар і тую грушку, што засталася на месцы бацькавай хаты ў Запрапасці. Няма гэтага верша ў кнізе «Элегія палескага матыля», але ёсць у альманаху «Святліца» за 2006 год, які ўкладаў сам Іван Лагвіновіч...

*Ён дамоў праз трыццаць гадоў*
*прыблукаў з далёкіх краёў.*
*Дзе сяліба калісь была,*
*адзінока груша цвіла.*

*Воблачка, бы з коміна дым,*
*над пячным грудочкам рудым,*
*над змарнелым полем пустым,*
*над гайком здзічэлым, густым.*

*На падворку весняга дня,*
*кепку зняўшы, грушу абняў.*
*Млосна пацямнела ўваччу,*
*калі з кроны голас пачуў:*

*— Ты ж мяне на свет спарадзіў,*
*на зямлі бацькоў пасадзіў,*
*а пакінуў — асіраціў...*
*Дзе ты гэтак доўга хадзіў?!*

Не маю ані залатых гораў, ані «рэкаў, поўных віна...» Не магу ўзнагародзіць ніводнага паэта за яго ўдачу... Зрэдку перачытаю гэты верш Івана Лагвіновіча і паплачу — мае чыстыя слёзы — уся ўзнагарода, якую я магу ахвяраваць паэту. Толькі ўзнагарода гэтая цяпер не яму, а мне — ад яго... Так выходзіць... Ды Іван Лагвіновіч напісаў пра любоў, жыццё і смерць, як умеў і колькі паспеў, не дзеля ўзнагародаў...

Насцярожвае, што вершы ў зборніку «Элегія палескага матыля» — пераважна пра смерць. Ужо ў 1997 годзе ён піша развітальную страфу:

*Смерць мая не стане*
*цяжкай стратай.*
*Роспач вашых сэрцаў не кране.*
*Я не быў ніколі Герастратам.*
*Хутка вы забудзеце мяне...*

Спрабую распытаць пра Івана ў сяброў, шукаю іх па тэлефоне.

Даюць мне тэлефон Марыны Філімоненкі, якая была пры ім, калі Іван паміраў. Марына апавядала, што ў 1996 годзе ў Баранавічах Івана Лагвіновіча ахрысціў уніяцкі святар айцец Яўген Маліноўскі. Марына з Іванам пазнаёмілася і пасябравала на набажэнствах ва ўніяцкай капліцы. Яна прыехала ў Баранавічы з Наварасійска, ахрышчана была праваслаўнай, а яе сын у Баранавічах ахрысціўся ў касцёле і там знайшоў сваё месца, стаў католікам. Сама ж Марына шмат дапамагала ўніятам: напрыклад, набіраць тэксты на камп'ютары — так стала ўніяткай...

Іван спасцігаў хрысціянскую праўду праз любоў да прыроды. У кнізе «Ляда юдолі» шмат вершаў, пабудаваных на біблейскіх прытчах... Іван просіць прабачэння ў Езуса за сваіх братоўпратэстантаў, асмельваецца напісаць і такое: *«І каля небнага парога // спыніўся сцішана і строга, // бо ў момант той// прысутнасць Бога // адчуў душой...»* («На вышыні», 1988).

Роднае слова дапамагала паэту стаць католікам. Уніяцкія вернікі ў часе літургіі шчыра моляцца за Беларусь. У канцы набажэнстваў заўсёды спяваюць песню «Магутны Божа...».

Вершамі Іван маліўся за памерлых сяброў-паэтаў Берасцейшчыны: за Міколу Купрэева, які з нябёсаў стукае кульбай у бубен поўні... Напісаў вершы памяці Міколы Ермаловіча, Васіля Сахарчука, у вянок Ніне Мацяш...

Такое ўражанне, што ўсе элегічныя вобразы пра зліццё чалавека з медуніцамі і шэрымі камянямі пры дарозе наклікалі яму сястрыцу Смерць... (Успамінаю, як асцерагалі мяне прыяцелькі, каб не дражніла ў вершах гэтай непрадказальнай дамы з касой...) Але, калі паслухаць Марыну, Іван быў аптымістам, любіў жыццё, любіў цяжкую мужчынскую работу, не мучыўся і не думаў пра смерць...



На хутары Біскупцы ў гасцях у Дануты Бічэль. 29.08.2009 г.

Ён стараўся быць рыцарам у вачах Марыны...

— Не збіраўся ён паміраць і ў жыцці не быў аскетам, — так сказаў пра яго Алёша Белы, — калі выязджалі з сябрамі на літаратурныя спатканні ў іншыя мястэчкі. Іван не вылучаўся панурасцю, зацятасцю ці марудн асцю, весяліўся, як усе, з дзяўчатамі жартаваў...

— Быў сапраўдным беларусам! — сказаў Алесь Бакач...

— Быў паэтам! — кажа Марына — жыў словамі, шукаў незвычайныя словы, вяртаўся да таго ж верша праз два і тры гады, увесь час знаходзіўся ў стане натхнення, быў шчаслівы ў творчасці...

16 студзеня Марына па тэлефоне павіншавала Івана з днём нараджэння. Ён сказаў, што прастудзіўся, хварэе. Перад тым у снежні прайшоў курс тэрапіі ў бальніцы... На гэты раз прастуда не адпускала. 25 студзеня «хуткая дапамога» завезла яго з высокай тэмпературай у чыгуначную бальніцу... знайшлі анкалагічную клетку ў левым лёгкім і метастазы па ўсім целе... З бальніцы яго забрала да сябе пляменніца, але «хуткая дапамога» не згаджалася прыязджаць, каб здымаць уколамі боль, таму лекар прапанаваў яму хоспіс у Новай Мышы. Ён згадзіўся, але пажыў там усяго 6 дзён...

І Мікола Купрэеў паміраў у тым жа хоспісе ў Новай Мышы...

Марына наведвала Івана кожны дзень. Папярэдне ўгаварыла паспавядацца: у нядзелю прыехалі да яго сябры, а з імі — айцец Яўген Маліноўскі, які падрыхтаваў Івана да вечнасці. У аўторак 29 сакавіка Марына была пры ім ад 16-й да 20-й гадзіны вечара, а каля 22-й Івана не стала.

Пахавалі яго ў Малькавічах каля сястры Паўліны, якая пасля смерці маці замяніла яе. Маці Тэклі Міхайлаўне Іван прысвяціў некалькі вершаў. З верша «Ліст да маці» (1961 год) зразумела, што яна ў гэты час яшчэ жыла. З верша, напісанага ў 1986 годзе, зразумела, што маці ўжо не было:

*На самотным шляху*
*сярод чыстага поля*
*нават жаўранка ў небе*
*чамусьці няма...*
*Нечакана пачуўшы:*
*— Ах, Янка-саколік!*
*па баках азірнуўся і выгукнуў:*
*— Ма-а-а!*

У святарскай практыцы Яўгена Маліноўскага гэта было першае пахаванне актыўнага ўніяцкага верніка, які кожную літургію з веданнем справы чытаў Апостала, таму і маліўся святар над целам Івана з глыбокім хваляваннем.

У тэлефоннай размове матушка Любоў падзялілася са мною думкамі пра паэта, якога яна добра ведала:

— На вялікія святы суполка збіралася пасля Эўхарыстыі на сямейную вячэру. Іван адчуваў сябе сярод нас сапраўды ў сям'і... Чытаў свае вершы на спатканнях вернікаў. Верш «Малітва беларуса» напісаў спецыяльна для ўніятаў... У Іване спалучаліся прастата ў адносінах з людзьмі і глыбокае адчуванне веры, разуменне душы, крыху інакшая, больш моцная, любоў да Радзімы і мовы, і праз гэтую любоў ён паглыбляў сваю духоўнасць... Ён выглядаў крыху інакш, чым іншыя людзі, — больш спакойным, уважлівым, удумлівым. Тое, што ў яго хворыя лёгкія і ён церпіць, відаць было па яго схуднелай постаці. Ён стараўся весці размераны лад жыцця. Іначай цаніў кожную хвіліну... Яго цягнула да зямлі, ён любіў працаваць на лецішчы. І ў чалавека бывае прадчуванне, Іван прадчуваў блізкасць смерці, таму ён і пісаў аб гэтым у вершах...

Айцец Яўген Маліноўскі размаўляў са мною ўвечары, быў стомлены, без эмоцый успамінаў Івана Лагвіновіча: за ўсе гады сумесных спатканняў у капліцы ў святара не адбылося з вернікам ніводнай глыбокай размовы вочы ў вочы. Іван меў экзістэнцыяльны склад асобы, ён быў заглыблены ў сябе самога. Яго сям'я, сяло Малькавічы прапаведуюць пратэстанцтва: яны — баптысты-пяцідзясятнікі. На пахаванні Івана яго старэйшы брат Аляксей сказаў развітальнае слова ў пратэстанцкім духу...

З размовы са святаром вынікае, што ў Івана было замала дыстанцыі, каб вырвацца з беспрасветнага пратэстанцтва і заглыбіцца ў светлае яднанне з вечнасцю... Глыбокае пазнанне веры цяжка пабудаваць на адным чалавеку, але можна... Так лічыць святар Яўген.

Работа і творчасць не могуць стаць поўным сэнсам жыцця. Пошукі яго сэнсу ў Богу будуе фундамент экзістэнцыі, дае палёт для развіцця, засцерагае перад трагедыямі і невылечнай хваробай, дапамагае спакойна развітацца з палявым конікам перад адлётам у Слова.

Аднойчы пасля вяртання ў Беларусь Іван з'ездзіў ва Украіну... Дзяцей ён не паспеў navярнуць да хрысціянства...

Чаму пісаў пра смерць? Пісаў — і ўсё. Няма тут ніякага падтэксту — так мы вырашылі ў размове са святаром Яўгенам Маліноўскім...

У вобразе Івана мы маем паэта, які асмеліўся перайсці ад баптыстаў да грэка-католікаў... Узяў з бацькавага веравызнання чытанне Евангелля, таму ён на ўніяцкіх набажэнствах і чытаў Апостала з веданнем справы... Мусіць, таму, што доўга не жыў у родным сяле, змог адарвацца ад караннёў... І меў смеласць вярнуцца да родных магілаў... Гэта прыгожае сведчанне любові да Радзімы!

У лістападзе 2011 года прыехаў з Украіны Іванаў унук Саша, сын дачкі, каб аформіць спадчыну на кватэру... Ён быў у Баранавічах першы раз, таму яго завезлі на магілу Івана, на магілы продкаў у Малькавічах і пазнаёмілі са сваякамі... Дачка з мужам таксама ўпершыню прыязджала ў Баранавічы на пахаванне бацькі. Сын у Баранавічах не быў...

Ёсць вёска Малькавічы і сяло Малькавічы, дзе стаіць праваслаўная царква. Праваслаўныя з баптыстамі жывуць дружна. Калі нехта памірае і за яго душу моляцца ў царкве, то і баптысты заходзяць памаліцца — так мне сказала адна жыхарка Малькавічаў у тэлефоннай размове.

Алёша Белы даў мне тэлефон журналіста Пятра Гузаеўскага, які працуе ў незалежнай газеце «Ганцавіцкі час». Пятро з сваёй супрацоўніцай Святланай ездзіў у Малькавічы, дзе адбылася прэзентацыя Іванавай кнігі «Элегія палескага матыля» і адкрыццё ў музеі-бібліятэцы экспазіцыі, прысвечанай Івану Лагвіновічу.

Пятро са Святланай знайшлі старэйшага брата Івана — Аляксея Лагвіновіча, які расказаў, што іх дзед Мікалай рос сіратой, працаваў парабкам у пана Патоцкага, працаваў падсобным у каваля. Сваім парабкам пан жаніцца не дазваляў, але калі на вёску напала халера і выкасіла каля дваццаці сем'яў, пан дазволіў ажаніцца, каб раслі маладыя работнікі. З першай жонкай у Мікалая было двое сыноў — Кірыла і Даніла. Жонка памерла маладой. Дзед ажаніўся другі раз з дзяўчынай з вёскі Люсіна, і ў іх нарадзіліся Андрэй і Піліп. Піліп — гэта бацька Івана, ён 1891 года нараджэння. А пасля нарадзіліся яшчэ шасцёра дзяўчат і хлопцаў. Дзед памёр у 1912 годзе...

Піліпа забралі ў войска — трапіў у Вільню. Служачы, ён ажаніўся з дзяўчынай Тэкляй, яна 1895 года нараджэння. У 1914 г. ён трапіў у палон да немцаў, працаваў прымусова на заводзе чорнай металургіі Крупа. Адтуль Піліп і яшчэ двое палонных уцяклі ў Галандыю, за трыццаць кіламетраў ад Прусіі. Дзён пяць-шэсць прасядзелі ціха, а пасля пайшлі ў расейскае консульства і іх пераправілі ў Лондан, дзе яны прабылі 1914 і 1915

гады. З Англіі праз Нарвегію і Фінляндыю іх перавезлі ў Піцер, адкуль Пiлiп нарэшце вярнуўся дадому...

У Піліпа і Тэклі нарадзілася пяцёра хлопцаў і дзве дзяўчынкі: Ганна (1921 год нараджэння), Аляксей (1924 год), Карпей (1928 год), Аўрам (1930 год), Паўліна (1933 год), Андрэй (1936 год), Іван (1940 год нараджэння)... Яшчэ двое дзяцей памерлі маленькімі. Піліп Лагвіновіч прымаў удзел і ў Другой сусветнай вайне — ваяваў у складзе Першага Беларускага фронту ў Бежыцкай дывізіі, за бітву над Віслай атрымаў медаль «За адвагу». Памёр у 1947 годзе.

Лагвіновічы жылі ў вёсцы Малькавічы ў маленькай хаціне. Хаты ў вёсцы стаялі цесна, а вёска часта гарэла. Але іх хата не згарэла...

У 1937 годзе польскі ўрад пачаў праводзіць хутарызацыю. Сям'і Лагвіновічаў выдзелілі зямлю на хутары Запрапасць. Там пабудавалі большую хату. Аляксей пазней перавёз гэтую хату назад у Малькавічы, у ёй і жыве разам з жонкай.

Брат Аўрам працаваў на чыгунцы... У Малькавічах цягнік робіць два прыпынкі...

Аляксея і Карпея саветы прымусова адправілі ў Данбас. Папрацаваўшы год на шахце, яны ўцяклі дадому, за што іх пасадзілі ў турму. Адсядзеўшы, уладкаваліся на працу ў леспрамгас. Сем гадоў Аляксей качаў бярвёны, цяжка захварэў: атрымаў другую групу інваліднасці, але пасля 25 гадоў яшчэ працаваў апальшчыкам у лазні...

Цяпер у Малькавічах жывуць два браты Лагвіновічы— Аляксей і Андрэй.



На ўручэнні «Мядовай прэміі» ад Міколы Папекі. 14.01.2010 г.

Іван у дзяцінстве не любіў працаваць — не было яму дома добрай работы. Ён хаваўся на гарышчы і пісаў вершы... Ён паехаў у Данбас сам...

Такі вось успамін старэйшага брата Аляксея...

*Я ведаю, пасмяротна*
*Радзіма мяне ўзнагародзіць*
*Ордэнам Залатога*
*Палескага Матыля...*
*Лагоднаю летняй парою,*
*няхай сабе і нядоўга,*
*будзе ён красавацца*
*на зялёнай істужцы*
*самасейкі-расінкі,*
*што да сонца імкнецца*
*з капца-надмагілля...*

Гэты верш называецца «Суцяшэнне»...

Чаму я так захапляюся спакойнымі, ціхімі, малітоўнымі вершамі Івана Лагвіновіча? Таму што ў нашай паэзіі мы, не змаўляючыся, ужывалі памяншальныя формы словаў, хадзілі па тых самых слоўных гушчарах... Я пачынала хадзіць ад дзявоцтва, калі было болей прасторы, не ўсе зёлкі-расінкі былі так здратаваныя. Я адчувала іх беззабароннасць... Іван вярнуўся з Данбаса тады, калі нас добра падратавалі стальныя коні савецкай цывілізацыі... Таму ў яго песня атрымалася такой шчымлівай... Ён пісаў пра смерць і хуткае развітанне, думаў пра сваё цялеснае прабыванне на зямлі і пра саму зямлю, пра ўсе гэтыя прасторы, пра ўсё прыгожае, што Бог тут пасеяў і ўзрасціў...

Молячыся ў начной адзіноце простым словам за коніка гнядога і зялёных конікаў, адчуваю, што я тут не адна... Адзін з тых, невідочных, утоеных у вершы, увідочніўся... Адчуваю, што ёсць нехта яшчэ...

Дай Бог, каб іх было шмат, — случакоў, пінчукоў, магілёўцаў, аршанцаў, баранавічанаў, ганцавічанаў... Каб не зарасталі сцяжыны на прасторах роднага слова...

*Данута Бічэль, Гародня.*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).

Аркадзь Шпунт

# Роздум на лузе

## (З нататкаў рэстаўратара)

*У 1812 годзе ў Мінску жыло 11 200 чалавек, а ў канцы 1812-га — 3 840...*

...Жывёлы і птушкі атрымалі свае імёны, калі Пан Бог прывёў іх да чалавека, *«каб убачыць, як ён назаве іх»*. І чалавек пад наглядам Бога здзейсніў гэтую «інвентарызацыю» не з цікавасці да словатворчасці, а галоўным чынам у *«пошуках памочніка, да сябе падобнага»*, як напісана ў Кнізе.

Зразумела, што сярод жывёлаў і гадаў чалавек не знайшоў падобных да сябе, і таму Пану Богу давялося, падпраўляючы створаны Ім свет, зрабіць жанчыну *«з рабра, узятага з Адама»* (пад агульным наркозам), хоць Ён мог зрабіць Еву, як і Адама, з гліны... У Бога і з першага разу выходзілі дасканалыя стварэнні, але атрымліваецца, што жанчына стала творам ужо дасведчанага Майстра і, напэўна ж, самым дасканалым...

Аднак у клопатах першых дзён Стварэння ні Богу, ні чалавеку не было ніякай справы да раслінаў. Нават Сам Усемагутны не змог бы «прывесці» расліны, бо хоць і стварыў Ён іх жывымі, але ж нерухомымі. У раі *«трава, што рассявае насенне паводле гатунку свайго»*, напэўна, гэтак і красуецца безыменнаю. Не тое што на Зямлі...

Выгнаныя з Эдэмскага саду, харчуючыся ад зямлі цернямі, ваўчкамі і польнымі злакамі, людзі навучыліся адрозніваць расліны для таго, каб палепшыць сваё сілкаванне і мець зёлкі, якія ацаляюць ад хваробаў. Але з біблійных часоў тут не было пэўнай вызначанасці: і «лячэнне», і «трава» доўга называліся аднолькава, ва ўсялякім разе на акадска-вавілонскай мове да няўдалай спробы ўзвесці вежу, каб *«зрабіць сабе знак»*, перш чым рассеяцца па абліччы зямлі.

І нарэшце зусім нядаўна вучоны швед Карл Ліннэй прыдумаў назву кожнай былінцы. І для таго, каб назаўсёды выгнаць з навукі паэтычны фальклор і назаўсёды пазбавіць сваю сістэму ад магчымых моўных скажэнняў, ён пазначыў «мёртваю» моваю ўсё жывое — усё, што расце.

Смеласць у найменнях Божых стварэнняў і пашану да латыні Карл Ліннэй успадкаваў ад бацькі, які гэтак любіў расліны, што нават змяніў сваё сумленнае шведскае прозвішча на лацінізаванае Ліннэўс — паводле найменння гіганцкай ліпы. І той, каму лёсам было прызначана заставацца ўсяго толькі Інгермансонам, застаўся ў гісторыі батанікі вялікім майстрам Ліннэем. Але праз скамянелую латынь і бінарную наменклатуру нястрымна прараслі і прарастаюць назвы на жывых мовах. Людзі самымі рознымі найменнямі пазначаюць яркасць фарбаў, пах, лекавыя ўласцівасці, месца распаўсюджання, смак каранёў, сцябла і лісцяў, падабенства з хвосцікамі і вушамі жывёлаў — да гэтай пары трываюць «анюціны вочкі», «божыя слёзкі», «венерын чаравічак», «царскія кудзеркі» і шмат чаго яшчэ... Бо ўсё падобнае да ўсяго... Нараджаецца ў мове, паўтараецца, жыве з раслінаю ў лузе, у засушаным букеце знахаркі, у прабірках фармацэўта і парфумера.

Чым карысней трава, тым больш ёй надаецца ўвагі, тым больш у яе назваў. І часам нават думаеш: гэта ж колькі трэба перажыць з травою (напрыклад, з лебядою, хімічны склад якой не вывучаны да гэтага часу), каб шляхам спробаў і памылак канчаткова ўведаць, што непрыкметнае пустазелле — той самы лек, які суцішвае і боль



**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

галавы, і хваробы вачэй, скуры, горла, страўніка, і пазбаўляе не толькі ад перхаці, але і ад гемарою, дыярэі, істэрыі... і нават можа паслужыць ежаю ў вялікі голад. Ці не за мноства гэтых добрых якасцяў Карл Ліннэй назваў лебяду «мар добрага Генрыха»?

Абагаўляючы латынь, Ліннэй, пэўна ж, не ведаў, што слова «мар» гучыць па-беларуску як «мара». Генрых IV марыў, каб кожны працаўнік у яго дзяржаве ў нядзельны дзень мог з'есці курыцу. Але — хвала лебядзе, бо яе хапала, каб народ хоць нешта еў і ў будні, і ў час рэлігійных непамыслотоў, і ў час войнаў, прыдуманых каралямі і ў Францыі, і ў Беларусі, калі нас прагна дзялілі драпежныя суседзі.

...А ў палацах заўсёды было што з'есці. Праўда, кончыкі сталовых нажоў на ўсялякі выпадак рабілі закруглёнымі, каб імпульсіўныя рыцары не выкарыстоўвалі іх падчас гасціны як магчымую зброю. Кароль вучыў дваранаў карыстацца нажом і відэльцам і марыў накарміць народ... насуперак трываламу перакананню ў тым, што сыты галоднага не разумее. Таму, відаць, у ліхі час яго празвалі Добрым, хоць мара пра штонядзельную курыцу ў гаршку селяніна так і не ажыццявілася...

На лузе, дзе да Парыжа як да неба, на ўзбочыне, парослай лебядою, недарэчна ўспомніш, што «Парыж варты месы», бо проста каля ног у дымцы-марыве амаль перлавага пылу расце беласівая «мар добрага Генрыха».

Усе назвы даўно запісаныя ў энцыклапедыі, каб аднойчы ў дзяцінстве можна было моцна здзівіцца, што ўжо ўсё названае! Ды яшчэ як!

Здзіўляюся да сённяшняга дня. Перабіраю гербарый словаў, задыхаюся ад раскошы моўнага багацця, ад невычэрпнасці яго смаку... З асалодаю з галавою патанаю ў вечназялёным духмяным сене назваў... Раскідваючы рукі сярод траваў, спінаю адчуваю пукатасць зямнога шару... Гляджу, як у небе плывуць аблокі, а ў гэты час драпежнік *Pisaurinamira* з засады падсцерагае прыгожую ўладальніцу чырвоных сцёгнаў — кабылку *Melanplus* — у зарасніках *Poa Pratensis* (мятліка), змушаючы яе ў жаху бегчы да *Solidagorugosa* (па-руску — залатарніка, а па-беларуску — сумніка!)

Ну чым не аснова для сюжэта якога-небудзь бясконцага серыялу... тым больш, што ёсць яшчэ і іншы павук — Паскакунчык. Павук Вандроўны — засадны драпежнік, а Паскакунчык — агрэсіўны паляўнічы. Абодва любяць Кабылку. А Кабылка любіць Мятлік. Дакладней, усе яны любяць адзін аднаго... паесці. Толькі сціплы Мятлік, які нарадзіўся на свет травою, нікога не можа з'есці, але і не можа ўцячы, каб не з'елі яго. Дый куды ўцякаць са свайго лугу? Мятлік залежыць ад таго, які з павукоў з'ядае кабылку і чым, у звязку з гэтым, харчуецца сама кабылка. А яна вымушаная пакінуць такі смачны мятлік і з неахвотаю аддаць перавагу зморшчанаму сумніку, таму што вандроўнаму забойцу складаней падсцерагаць яе на сумніку, чым на іншых травах... Пагадзіцеся, што жыць, абедаючы без апетыту, усё ж значна лепш, чым пазбавіцца жыцця, у якім гэтак прыцягальна-спакуслiва, рухаючы сцёгнамі па адной з жылак надкрылляў, сакочуць самцы.

Засадны павук змушае кабылку з'ядаць сумнік і такім чынам спрыяе стрымліванню яго згубнага для іншых траваў разрастання. Актыўны паляўнічы пакідае ёй мала шанцаў для выжывання: паскакунчык не лянуецца здабываць яе і на сумніку — і гэтак ратуе яго.

І сумнік *Solidagorugosa* без перашкодаў, з усёю сваёю нястрымна-буйнаю сілаю пустазелля выцясняе іншыя травы. Магутныя рыхлыя кусты пераможна цвітуць увосень, залоцячы луг, быццам сонца, нават у пахмурны дзень...

Луг, які страціў сваё разнатраўе... Міжволі думаеш пра гісторыю роднай Беларусі, што бачыцца сярод гісторыяў іншых краінаў і народаў разнатраўным лугам, на якім з веку ў век цаною кожнага чацвёртага жыцця вырашаліся чужыя інтарэсы і чужыя адносіны... І хто пры гэтым думаў пра траву пад нагамі?..

Але травы, знікаючы ў бясконцасці, нараджаюцца зноў. З веку ў век...



## CONTENTS

Message of the Holy Father Benedict XVI for the celebration of the World Day of Peace on January 1, 2012 opens this issue of Our Faith (p. 2-5).

We continue the publication of excerpts from the book *Benedict XVI. Light of the World:The Pope, the Church and the Signs of the Times.An interview with Peter Seewald* translated from German by Iryna Burak; also we publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski *Saint Thomas, re-read,* made by Ales Zhlutka and the translation of *Following Christ* by Thomas a Kempis, made by Stanislau Grynkevich (p. 6-15).

Father Piotr Rudkouski OP in his essay *Go out of Your Own Graves!* calls on the Belarusians to the national identity in the context of the Way of the Cross of Christ (p. 16-17).

The publication of Valery Buival *Christ's Appearance to the People* tells readers about the masterpiece of the great Russian painter Alexander Ivanov (p. 18-19).

Writer Iryna Zharnasek in her interview *What's in the basis?* with father Yury Barok speaks about the basics of the Christian faith (p. 20-23).

Article by researcher Iryna Bagdanovich is dedicated to the 120th anniversary of father Adam Stankevich (p. 24-27).

Belarusian historian Yury Garbinsky offers to readers the publication of letters of father Andrey Tsikota from the Stalin's camps *I Send my Greetings from the Distant Siberia...* (p. 28-39).

«The Decline of the Global Village» is the title of the article by Yaraslau Makouski, where the author reflects on the bitter image of the modern world (p. 40-43).

Famous Belarusian researcher Uladzimir Sodal in his article *Family Heirlooms of Frantsishak Bagushevich* tells readers about the things that belonged to the poet's family (p. 44-45).

Candidate of Philological Sciences, Professor Eva Lavonava in her article *The Topic of the Biblical Parable...* talks about the story by Vasil Bykau *Sotnikau* in the light of the Old Testament parable of Cain and Abel (p. 46-52).

Mihas Skobla in his literary essay *Build the Ark* writes about the new book of poems *Anima* by Ryhor Baradulin (p. 53-55).

In column *Poetry* we print poems by Ales Gibka-Gibkouski (p. 65-57).

Master of the Belarusian prose Genryh Dalidovich offers readers an excerpt from his novel *Rurik and Rogvolod Dynasties* (p. 58-64).

Writer Danuta Bichel in her article *Ivan Lagvinovich is the Poet from Polesye Homestead Zaprapasts* writes about her thoughts during the re-reading of the posthumous book of poems by I. Lagvinovich *Elegy of Polesye Butterfly* (p. 65-69).

Famous Belarusian restorer Arkadz Shpunt in the essay *Reflections on the meadow* talks beautifully about flowers and herbs as part of God's creation (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit der Botschaft des Heiligen Vaters Benedikt XVI. zum Weltfriedenstag am 1. Januar 2012 (S. 2-5).

Es werden fortgesetzt: die Publikation der Auszüge aus dem Buch „Benedikt XVI. Licht der Welt: Der Papst, die Kirche und Zeichen der Zeit. Ein Gespräch mit Peter Seewald" in der Übersetzung aus dem Deutschen von Iryna Burak; das Werk „Der heilige Thomas, neu gelesen" von Stefan Swieżawski in der Übersetzung von Aljaxej Shlutka sowie das Werk von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" in der Übersetzung von Stanislau Grynkewitsch (S. 6-15).

Vater Pjotr Rudkouski ruft im Essay „Steigen wir aus unseren Gräbern!" die Belarussen zum nationalen Selbstbewusstsein im Kontext des Kreuzweges Christi auf (S. 16-17).

In der Publikation von Walery Bujwal „Die Offenbarung des Christus gegenüber den Menschen" wird über das Meisterwerk des großen russischen Malers Alexander Iwanow erzählt (S. 18-19).

Die Schriftstellerin Iryna Sharnasek unterhält sich im Interview „Was ist im Fundament?" mit dem Priester Jury Bark von den Grundlagen des christlichen Glaubens (S. 20-23).

Dem 120. Geburtstag des Priesters Adam Stankewitsch ist der Artikel der Forscherin Iryna Bagdanowitsch gewidmet (S. 24-27).

Der belarussische Historiker Jurasj Garbinski bietet den Leserinnen und Lesern die Publikation der Briefe des Priesters Andrej Zikota aus den stalinistischen Lagern - „Ich schicke einen Gruß aus dem fernen Sibirien…" (S. 28-39).

„Der Verfall des globalen Dorfes" heißt der Artikel von Jaraslau Makouski, wo der Autor über die bittere Gestalt der modernen Welt nachdenkt (S. 40-43).

Der bekannte belarussische Forscher Uladsimir Sodal erzählt im Artikel „Familienreliquien von Frantischek Boguschewitsch" über die Sachen, die der Familie des Poeten gehörten (S. 44-45).

Die Kandidatin philologischer Wissenschaften, Professorin Eva Ljawonawa reflektiert im Artikel „Das Sujet der biblischen Erzählung…" über die Erzählung von Wassili Bykow „Sotnikow" im Licht der alttestamentarischen Parabel über Kain und Abel (S. 46-52).

Über den neuen Gedichtband von Rygor Baradulin „Anima" schreibt Michasj Skobla im literaturwissenschaftlichen Essay „Die eigene Arche bauen" (S. 53-55).

In der Rubrik „Poesie" sind die Gedichte von Alesj Gibka-Gibkouski gedruckt (S. 56-57).

Der Meister der belarussischen künstlerischen Prosa Genrych Dalidowitsch bietet den Leserinnen und Lesern einen Auszug aus seinem Roman „Rurykawitschy und Ragwalodawitschy" (S. 58-64).

Im Artikel „Iwan Lagwinowitsch - ein Poet vom Einzelgehöft Zaprapaszj in Polessje" schildert die Schriftstellerin Danuta Bitschel ihre Gedanken beim erneuten Lesen des nach dem Tod von I. Lagwinowitsch erschienenen Gedichtbandes „Elegie des Schmetterlings von Polessje" (S. 56-69).

Im Essay „Sinnieren auf der Wiese" reflektiert der bekannte belarussische Restaurator Arkadzj Spunt in schönen Worten über die Blumen und Kräuter als Teil der Schöpfung Gottes (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Najnowszy numer czasopisma rozpoczyna się Posłaniem Ojca Świętego Benedykta XVI *na Światowy Dzień Pokoju* 1 stycznia 2012 r. (s. 2-5).

Ponadto są kontynuowane: publikacja fragmentów książki-wywiadu z Ojcem Świętym Benedyktem XVI „Światłość świata. Papież, Kościół, znaki. Rozmowa z Peterem Seewaldem" w przekładzie z języka niemieckiego Iryny Burak; tłumaczenie Alesia Złótko pracy Stefana Świeżawskiego „Święty Tomasz na nowo odczytany"; a także dzieło Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", w przekładzie Stanisława Grynkiewicza (s. 6-15).

Ojciec Piotr Rudkowski w eseju „Wyjdźmy ze swoich grobów!" wzywa Białorusinów do narodowej samoświadomości w kontekście Drogi Krzyżowej Chrystusa (s. 16-17).

W publikacji Walerego Bujwała „Objawienie się Chrystusa narodowi" jest mowa o arcydziele wielkiego rosyjskiego malarza Aleksandra Iwanowa (s. 18-19).

Pisarka Iryna Żarnasiek w wywiadzie „Co leży u podstaw twego fundamentu?" rozmawia z księdzem Jurijem Barkom o podstawach chrześcijańskiej wiary (s. 20-23).

120 rocznicy od dnia narodzin księdza Adama Stankiewicza poświęcony jest artykuł badaczki Iryny Bogdanowicz (s. 24-27).

Białoruski historyk Juraś Garbiński poleca czytelnikom publikację listów księdza Andrzeja Cikoty ze stalinowskich łagrów – „Ślę pozdrowienia z dalekiej Syberii…" (s. 28-39).

„Upadek globalnej wioski" – taki tytuł nosi artykuł Jarosława Makowskiego, który rozważa o gorzkim obrazie współczesnego świata (s. 40-43).

Znany białoruski badacz Uładzimir Sodal w materiale „Rodzinne pamiątki Franciszka Bohuszewicza" opowiada o rzeczach należących do rodziny i poety (s. 44-45).

Doktor nauk filologicznych, profesor Ewa Lawonowa w artykule „Fabuła biblijnej przypowieści…" prowadzi rozważanie o opowieści Wasila Bykowa „Sotnikau" w świetle starotestamentalnego opowiadania o Kainie i Ablu (s. 46-52).

O nowej książce z wierszami Rygora Baradulina „Anima" pisze Michaś Skobla w literaturoznawczym eseju „Zbudować swoją arkę" (s. 53-55).

W kolumnie „Poezja" drukujemy wiersze Alesia Gibko-Gibkowskiego (s. 26-57).

Mistrz białoruskiej literatury pięknej Genrych Dalidowicz proponuje czytelnikom fragment swojej powieści „Rurykowicze i Ragwałodawicze" (s. 58-64).

Pisarka Danuta Biczel w artykule „Iwan Łagwinowicz – poeta z poleskiej kolonii Zaprapaść" pisze o swoich myślach podczas czytania pośmiertnej książki wierszy I. Łagwinowicza „Elegia poleskiego motyla" (s. 65-69).

Znany białoruski restaurator Arkadź Szpunt w eseju „Rozmyślanie na łące" przepięknie rozważa o kwiatkach i ziołach jak o cząstce Bożego stworzenia (s. 70-71).

## SOMMARIO

Il numero inizia con il Messaggio del Santo Padre Benedetto XVI alla Giornata Mondiale della Pace (1° gennaio 2012) (p. 2-5).

Continua: pubblicazione dei brani del libro "Benedetto XVI. Luce del mondo: il Papa, la Chiesa e i segni dei tempi. Una conversazione con Peter Seewald" tradotti dal tedesco da Iryna Burak; traduzione del testo di Stefan Swiezawski "San Tommaso, lettura ex-nova" eseguita da Ales Žlutka e la parte successiva del saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, tradotto da Stanislau Grynkevič (p. 6-15).

Il Padre Piotr Rudkouski nel saggio "Usciamo dalle proprie tombe!" richiama i bielorussi ad acquisire un'autocoscienza nazionale illuminata dalla Via Crucis di Cristo (p. 16-17).

Nella pubblicazione di Valery Buival «L'apparizione di Cristo al popolo» si racconta del capolavoro del grande pittore russo Aleksandr Ivanov (p. 18-19).

La scrittrice Iryna Žarnasek nell'intervista intitolata "Cosa c'è nel fondamento?" parla con prete Jury Barok dei principi della fede cristiana (p. 20-23).

L'articolo della ricercatrice Iryna Bagdanovič è dedicato a 120° anniversario della nascita del prete Adam Stankevič (p. 24-27).

Lo storico bielorusso Juras Garbinsky propone ai lettori la pubblicazione delle lettere del parroco Andrei Zikota, scritte nei campi staliniani e raccolte sotto il titolo "Mando un saluto dalla Siberia lontana…" (p. 28-39).

"La crisi del villaggio universale" è il titolo dell'articolo di Jaraslau Makousky in cui l'autore riflette sull'amara immagine del mondo attuale (p. 40-43).

Il famoso studioso bielorusso Uladzimir Sodal nel testo intitolato "I cimeli della famiglia di Franzišak Bagušević" racconta degli oggetti che appartenevano alla famiglia del poeta (p. 44-45).

La Dottoressa di ricerca in lettere, Professoressa Eva Liavonava nell'articolo "La trama di una parabola biblica…" riflette sulla novella di Vasil Bykau "Sotnikau" alla luce della parabola dell'Antico Testamento su Caino e Abele (p. 46-52).

Mikhas Skobla scrive del libro "Anima" di Rygor Baradulin nel saggio di critica letteraria "Costruire la propria arca" (p. 53-55).

Nella rubrica *Poesia* si pubblicano i versi di Ales Ghibok-Ghibkousky (p. 56-57).

Il maestro della narrativa bielorussa Henryk Dalidovič propone ai lettori un brano del suo romanzo "Rurikoviči e Ragvalodaviči" (p. 58-64).

La scrittrice Danuta Bicel nel suo articolo "Ivan Lagvinovič è poeta dalla tenuta Zaprapasz' di Palessie" racconta dei suoi pensieri venuti dopo la lettura del libro postumo di I.Lagvinovič "L'elegia alla farfalla di Polessie" (p. 65-69).

Il famoso restauratore bielorusso Arkadz Špunt nell'articolo "Una riflessione sul prato" riflette sui fiori e sulle erbe considerandoli parte della creazione divina (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — партрэт кс. Адама Станкевіча. Мастак Пётра Сергіевіч. Вільня, 1939 г.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 1 (59)/2012.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*
*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 27.03.2012 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №       .*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*
*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# Ксёндз Адам Станкевіч — знаны і нязнаны

## Да 120-годдзя з дня нараджэння





РЕКТОРЪ
~~ИМПЕРАТОРСКОЙ~~
Римско-Католической
ДУХОВНОЙ АКАДЕМІИ.
9 мая 1918 г.
№ 104
ПЕТРОГРАДЪ.

Аттестатъ

Данъ сей священнику Виленской епархіи Адаму Станкевичу въ удостовѣреніе того, что онъ, поступивъ 20 августа 1914 года въ число воспитанниковъ Римско-Католической Духовной Академіи, окончилъ полный курсъ наукъ сей 29 апрѣля 1918 года и что по выдержаніи испытаній, установленныхъ правилами о возведеніи въ ученыя званія въ Академіи, опредѣленіемъ Конференціи, состоявшимся 3 мая 1917 года, ему присвоена степень Кандидата Каноническаго Права.

Ректоръ Академіи,
Прелатъ [signature]

Секретарь [signature]

Атэстат аб заканчэнні
кс. Адамам Станкевічам
Духоўнай акадэміі ў Петраградзе.
1918 г.





Прыміцыйныя абразкі
кс. Адама Станкевіча на ўспамін
пра першую св. Імшу,
цэлебраваную ў крэўскім
парафіяльным касцёле. 1915 г.



ba ab — be ba bi bo bu — eb ab ib ob ub — b

be! ba ba, ba-bo, bo-bu, bob, bi-ba, ba!
ba-bi, bo-bo, oba, be-be, abo.

ba-ba

te ta ti to tu — t
et at it ot ut

tut bat, a tut bot; ba ba a bu
i bot i bat u tata; oto baba;
at! ta-to tu; tato! bo-bo! a tut

k — ka ke ki ko ku — k
ak ek ik ok uk

kot — tut kot, a tut ku-bek; ka-tok,
bok, ku-ta ba-ba, taka ta-ba-
ku-bek — bob, baba, bo-bok, 2 ka-te.



5

ja-kub bo-je baj-ki; 2 du-be;
dud-ka; daj dud-ku! du-da;
ta-to da-je bo-bu; ba-ba bje ko-ta;

du-be

do-m — em im am om — m
um ym. me mi ma mo mu

mak — ma-ma moja i tato moj; ma-ma da
ku i mio-du i mu-ki; my im da-mo
ma-tok — ma i kum da-mo im ta-ba-ki; ja bu-du

lal-ka — el ol al ul il — lul-ka
le la lo lu li

la-la; lu-li; ma-tu-la i ta-tu-la da-la-
ka-le-ka; ka-le-da; li-le-ja; bu-le-ja,
kol-ki u ba-ku; lo-ki bot; le-to;
u let-ku my by-li u ku-me.



6

ha-ra — ja-ha-dy; a-ku-rok; kar-ba-ta, ba-ba; kuk;
ba-ha-ty da-je u-bo-ba-mu; ro-ki u by-ka.
ja-ki har-dy! bak; ke-ta-ki kul-taj.

en an in on un yn
ne na ni no nu ny — n

na-ha — Ja-ka-ja ke-to na-ha? my ma-je-mo no-
hi; jon knaŭ by-ka; ka-nu-la na-li
ta ma-ta-ka; no-hi a-bu-ty-je; na
ha-re dub i ma-ty du-bok; na-ki-daj
na ra-lu kno-ju; ja-ha-dy u ha-ju.

pe pa pi po pu py — p
ep ap ip op up yp.

pi-ta pi-tu-je; pan i pani; kot pa-da-je; ta-ki
ja pan jak i ty! u ka-ta 4 ta-py; daj ka-
tok tup-ku; pa-le-no u-pa-te; ja-ka-ja ke-to pa-ni;
pot-ka; na pot-ku na-kta-li mat-koŭ; pan
u pa-ko-i; mu-ka u pu-ku; pali: ma-ma
na-li-li mio-du; i ma-ta-do-mu ko-re u do-mu!

Старонкі рукапіснага буквара для беларускіх школ,
падрыхтаванага кс. Адамам Станкевічам.

*Матэрыялы захоўваюцца ў фондах ЦНБ ім. Я. Коласа*
*Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*



Бацькоўская хата кс. Адама Станкевіча ў в. Арляняты.
Мастак Язэп Драздовіч, 1939 г.